

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

7 СНЕЖНЯ 2001 г. № 49/4131 КОШТ 138 РУБ.

## ТВАРАМ ДА ЛЮДЗЕЙ

***Станіслаў БУКО:***
***"...Без супрацоўніцтва з творчымі саюзамі мы не абыходзімся ні ў чым. Аднак жа праўда і ў тым, што, напэўна, апошнія гады стала менш праводзіцца творчых сустрэч, кніжных кірмашоў, іншых культурна-мастацкіх мерапрыемстваў. І гэтую справу трэба папраўляць. Творчая інтэлігенцыя — гэта носьбіты культуры, народных традыцый, духоўнасці, і нам трэба рупіцца пра тое, каб іх кантакты з народам былі больш цеснымі".***

**5**

## ЛАНЬ — РАКА ПАЭТЫЧНАЯ

***Да 50-годдзя паэта Алеся КАСКО***

**8—9**

## ДВА АПАВЯДАННІ

***Віктара СУПРУНЧУКА***

**9, 13**

## ДВА ВЯНКІ

***Вершы Галіны КАРЖАНЕЎСКАЙ і Людкі СІЛЬНОВАЙ***

**13**

## СУСТРЭЧА З КРАІНАЙ РАНІШНЯЙ ПРАХАЛОДЫ

***Людміла ХРЫШЧАНОВІЧ:***
***"Што тычыцца карэйскага мастацтва, то, здаецца, найбольшым поспехам на фестывалі карыстаўся танец тхальчхум — спалучэнне танца з тэатральным прадстаўленнем. Адна камічная сцэна ў ім змяняе другую..."***

**14—15**



*Фотарэпрадукцыя Ул. КРУКА*

**9 снежня спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма БАГДАНОВІЧА.**

*Матэрыялы, прысвечаныя юбілею, чытайце на стар. 4, 6—7, 12.*



# КОЛА ДЗЁН

***Апошнімі днямі ў нашай краіне трымаюцца маразы ад 15 да 20 градусаў. Па прагнозах Беларускага гідраметцэнтра, у нядзелю з вышыннымі атмасфернымі патокамі да нас завітае вільготнае паветра. 9 снежня па ўсёй тэрыторыі краіны будзе ісці моцны снег. Падчас снегападу крыху пацяплее. Удзень тэрмометры будуць паказваць ад мінус 2 да 7 градусаў, уначы — 5-7, месцамі да 15 градусаў марозу. Першыя дні наступнага тыдня таксама застануцца халоднымі. І ўсё ж мы мерзнуць не будзем, а тым больш у сваіх кватэрах і на Новы год. Запасы энерганосьбітаў пакуль што на належным узроўні — мазуту ёсць каля 92 тысяч тон, вугалю — 25, пячнога бытавога паліва — 3 тысячы тон. Гэтых рэсурсаў хопіць адпаведна на 52, 81 і 46 дзён абагрэву. Да ўсяго нятрэба забывацца, што запасы папаўняюцца. А там, глядзіш, і вясна. Праўда, многіх жыхароў нашай краіны больш хвалююць даўгі па выплаце зарплаты. А яны ёсць і месцамі немалыя. Аднак, усе спадзяюцца, што Новы год сустрэнем не толькі ў цёплых кватэрах, але і за багатымі святочнымі сталамі...***

### ПАДАТКІ ТЫДНЯ

З 1 снежня Саўмін нашай краіны павялічыў памер мінімальнай заработнай платы з 7 500 да 10 000 рублёў. У сувязі з гэтым з пачатку снежня змянілася стаўка падаходнага падатку для фізічных асоб і цяпер 9-працэнтным падаткам будзе абкладацца сукупны гадавы даход да 1 549 920 рублёў. У лістападзе мінімальная рыса сукупнага даходу дасягала 1500000 рублёў. Калі сукупны гадавы даход вагаецца ад 1 549 921 рубля да 874 800 рублёў, тады падатак складзе 139 493 рублі плюс 15 працэнтаў ад мінімальнай рысы, роўнай 1 549 920 рублям. Пры сукупным гадавым даходзе ад 3 874 801 рубля да 5 424 720 рублёў сума падатку будзе складаць 488 225 рублёў плюс 20 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 3 874 800 рублёў. Наступная стаўка падатку ў памеры 798 209 рублёў плюс 25 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 5 424 720 рублёў, будзе дзейнічаць, калі сукупны гадавы даход не дасягне 6 974 640 рублёў. Самая вялікая сума падатку будзе дзейнічаць, калі сукупны гадавы даход складзе 6 974 641 рубель і вышэй. Такім багацеям давядзецца заплаціць падаткаў за год 1 185 989 рублёў плюс 30 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 6 974 640 рублёў. Новыя стаўкі падаходнага падатку будуць дзейнічаць са снежня і да канца гэтага года. Ужо са студзеня 2002 года мінімальнай стаўкай падатку ў памеры 9 працэнтаў будзе абкладацца сукупны гадавы даход, які не перавышае 2 400 000 рублёў. А пра дэкларацыі ўжо сёння трэба думаць тым грамадзянам, якія атрымоўваюць даходы з дзвюх і болей крыніц і сукупны гадавы даход якіх перавышае 1 549 920 рублёў. Словам, лічыце самі, каб пасля спаць спакойна...

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

У час перамоў з Еўрапейскім Саюзам у Брусэлі афіцыйная дэлегацыя Польшчы заявіла, што сёлета не будзе ўводзіць візавы рэжым з Беларуссю. Увядзенне візавага рэжыму — адна з абавязковых умоў уступлення Польшчы ў ЕС. Няпэўнасцю тэрміну ўвядзення віз для грамадзян Беларусі польскі бок тлумачыць тым, што для гэтага патрэбны вялікія сродкі, каб стварыць дадатковыя консульскія аддзелы, забяспечыць іх персаналам, тэхнікай. Словам, па візах у Польшчу будзем ездзіць, відаць, не хутка. А для нас гэта і нядрэнна...

### СУПАКАЕННЕ ТЫДНЯ

Прайшло ўжо некалькі тыдняў, як у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы п'еса Купалы "Тутэйшыя" перастала ісці на сцэне, а вакол гэтага страсці не сціхлі яшчэ і сёння. Той-сёй гаворыць, што "Тутэйшых" забаранілі, той-сёй — што "Тутэйшых" самі артысты збаяліся далей паказваць, каб не застацца без зарплаты. А прычына, як патлумачыла кіраўніцтва тэатра, вельмі банальная і сур'ёзная — за 11 гадоў паказу "Тутэйшых" састарэлі дэкарацыі і ў тэатры вырашылі да юбілею Янкі Купалы, які будзе адзначацца на высокім дзяржаўным узроўні, абнавіць іх. Рэстаўрацыяй дэкарацый кіруе мастак пастаноўкі Барыс Герлаван, і 7 ліпеня 2002 "Тутэйшыя" зноў выйдуць на сцэну тэатра.

### КОШЫК ТЫДНЯ

Нягледзячы на тое, што наша краіна не такая ўжо і вялікая (хацяі не такая ўжо і малая), але ў розных гарадах кошт "харчовага кошыка", разлік якога быў зроблены па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту, вельмі розны. Жыхар Гродна можа набыць вызначаны МСБ набор прадуктаў за 39,8 тыс., Брэста — за 42,4 тыс., Магілёва — 43,4 тыс., Гомеля — 43,8 тыс., Віцебска — 45,2 тыс., Мінска — 51,3 тыс. рублёў. І хоць Гродна самы танны горад, чамусьці ўсё ж жыхары нашай краіны імкнуцца пераехаць на пастаяннае жыхарства ў Мінск, які з'яўляецца самым дарагім. Відаць, сталіца — гэта сталіца і жыць у ёй для многіх мара ўсяго жыцця...

### ПОШУК ТЫДНЯ

У Жлобінскім раёне пачаліся разведачныя работы алмазных радовішчаў. Падставай для пошуку алмазных трубак стаў аналіз беларускіх нетраў, які засведчыў, што традыцыйныя для алмазных радовішчаў мінералы-спадарожнікі ўтрымліваюцца амаль на 40 працэнтах тэрыторыі Беларусі. Вось вам і край лясоў і балот!

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Пачынаючы з 1 студзеня 2002 года з хадайніцтвам аб афармленні віз у Ісландыю і Каралеўства Нарвегія беларускія грамадзяне змогуць звяртацца ў Французскае пасольства ў нашай краіне, паведаміў на брыфінгу прэс-сакратар МЗС Павел Латушка. Калі вы збіраецеся ў Ісландыю ці Нарвегію, памятайце пра гэта...

### НАВІНКА ТЫДНЯ

Новая мадэль беларускага трамвая, што складаецца з трох секцый, у хуткім часе выйдзе на маршрутную лінію нашай сталіцы. Трамвай мае пераменны ўзровень падлогі, а яго агульная даўжыня 26 метраў. У трамваі 65 месцаў для сядзення, ён разлічаны на перавозку 302 пасажыраў. І самае галоўнае — распрацоўка беларускіх машынабудаўнікоў выраблена з асноўным з камплектуючых нашай вытворчасці.

### УЗНАГАРОДЫ ТЫДНЯ

Што-што, а спіртныя напоі ў нашай краіне ўмеюць рабіць выдатна. Гэта яшчэ раз пацвердзіў V Міжнародны прафесійны конкурс він, на якім было прадстаўлена амаль 400 віна-каньячных узораў больш чым 80 вытворцаў з такіх краін, як Германія, Расія, Францыя, Малдова, Грузія, Арменія, Азербайджан і іншых. Каньякі "Глорыя-люкс" і "Экзюперы" нашага завода "Крышталь" атрымалі бронзу, "Карсар" — серабро, а "Караван-Сараі" і "Водар" — золата. Віно "Чорная дама" атрымала залаты медаль, а бронзавы — "Гайна". Няслаба...

ВІНШУЕМ!

# Машачка

НАРОДНАЯ АРТЫСТКА БЕЛАРУСІ Марыя ЗАХАРЭВІЧ АДЗНАЧЫЛА ЮБІЛЕЙ

...Ад'язджаем на ІІ Фестываль нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Каля Купалаўскага тэатра доўга чакаем аўтобуса, топчамся па снезе — журналісты, крытыкі, рэжысёры, акцёры... "Машачка, віншую цябе", — абдымае актрысу Марыю Захарэвіч нехта з яе аднагодкаў. Учора ў зіхаценні сафітаў славутая актрыса Купалаўскага тэатра, якая "служыць" у ім ужо больш за сорак гадоў, выходзіла на сцэну ў ролі Гурмыжскай. Спектакль "Лес" ігралі ў гонар юбілею М. Захарэвіч. А вось зранку з усімі на марозе яна цярпліва чакае аўтобуса. Актрыса дзякуе за віншаванні, шчыра ўсміхаецца. Яе вялікія блакітныя вочы, у якіх адбілася ці то аблічча Беларусі, ці то яснае неба, будуць неадноўчы лунаць у памяці. Добрыя, ветлыя вочы... Машачкі. Жанчына з гэтым імем для набокаўскага героя сімвалізуе Бацькаўшчыну, шчасце, радасць, а для нас, аматараў нацыянальнага тэатра, — яшчэ і акцёрскі талент, пяшчоту, абаяльнасць...

Дзесяткі жаночых вобразаў стварыла М. Захарэвіч на сцэне. А цяпер спрабуе сябе і як рэжысёр. Славутая актрыса першай сцэны краіны ўжо паставіла ў Маладзечанскім тэатры два спектаклі паводле твораў А. Астроўскага і В. Шукшына. У будучым — пастаноўка па творы І. Мележа.





Шчасця і творчых поспехаў Вам, наша Машачка!

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: Марыя Захарэвіч у жыцці і ў ролі Незнаёмай у спектаклі "Безыменная зорка".*
*Фота Ул. КРУКА*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Адбылося пасяджэнне сакратарыяту СБП. На ім былі разгледжаны пытанні, звязаныя з кнігавыдавецкай дзейнасцю, выпускам і прапагандай мастацкай літаратуры.

З дакладам выступіў запрошаны на пасяджэнне першы намеснік міністра інфармацыі Станіслаў Нічыпаровіч. Ён зрабіў падрабязны аналіз кнігавыдавецкай дзейнасці ў краіне, асабліва вызначыўшы стан выпуску, распаўсюджвання і прапаганды беларускай літаратуры. Дакладчык адзначыў, што ў апошні час узрасла роля Саюза пісьменнікаў у гэтым пытанні, выказаў гатоўнасць з боку міністэрства больш цесна ўзаемадзейнічаць з пісьменніцкай арганізацыяй.

Пра неабходнасць больш дзейснага ўплыву творчага саюза на дзяржаўную палітыку ў галіне кнігавыдавецкай дзейнасці, прапаганды беларускай літаратуры гаварылі Навум Гальпяровіч, Віктар Праўдзін, Сяргей Законнікаў, Кастусь Цвірка, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Навумовіч, Уладзімір Саламаха, Ала Канапелька і іншыя.

З інфармацыяй пра планы выпуску літаратуры на 2002 год выступілі дырэктары выдавецтваў "Мастацкая літаратура" — Георгій Марчук, "Юнацтва" — Алесь Камароўскі, галоўны рэдактар выдавецтва "Беллітфонд" Кастусь Цвірка. У іх адрас былі выказаны прапановы і заўвагі. У прыватнасці, было адзначана, што больш цеснае ўзаемадзейнічанне з Саюзам пісьменнікаў неабходна не толькі на стадыі абмеркавання ўжо гатовых планаў, а ў час іх падрыхтоўкі, каб свет пабачылі найбольш вартыя і цікавыя творы як вядомых, так і маладых, пачынаючых творцаў.

На сакратарыяце былі абмеркаваны таксама пытанні бягучага жыцця творчай арганізацыі.

•

Першае пасяджэнне новага складу прыёмнай камісіі было прысвечана абмеркаванню творчасці дзесяці прэтэндэнтаў на ўступленне ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. З падрабязным аналізам іх творчасці выступілі Ірына Багдановіч, Сяргей Давідовіч, Алесь Бадак, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Навумовіч, Алесь Масарэнка, Вячаслаў Рагойша, Анатоль Кудравец, Галіна Каржанеўская.

У выніку тайнага галасавання на абмеркаванне рады Саюза пісьменнікаў большасцю галасоў вынесены кандыдатуры Алены Гінько, Таццяны Дасаевай, Міколы Ждановіча, Алены Ігнацюк, Ірыны Качатковай, Леаніда Маракова, Ірыны Шаўлякова.

**Н. К.**

•

Вечарына, прысвечаная 110-й гадавіне з дня нараджэння Максіма Багдановіча, адбудзецца ў вялікай зале Дома літаратара 17 снежня ў 18 гадзін.

# "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі"

*Як ужо паведамлялася ў папярэднім нумары штотыднёвіка "ЛіМ", Саюз беларускіх пісьменнікаў ініцыраваў правядзенне пад эгідай ЮНЕСКА Міжнароднага сімпозіума **"Мова і культура народа ў кантэксце глабалізацыі"**. Згодна з нашымі планамі ён адбудзецца ў першай палове ліпеня 2002 года. Мяркуецца, што ў сімпозіуме прыме ўдзел генеральны дырэктар ЮНЕСКА пан Кайчыра Мацуура.*

*Выдатнай нагодай да яго прыезду можа стаць таксама і ўручэнне сертыфіката помніка сусветнай культурнай спадчыны Мірскаму замку.*

*Зразумела, што, пры належнай падрыхтоўцы, гэтыя два мерапрыемствы могуць стаць даволі значнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі і ўнесці сваю лепту ў сусветны культурны працэс.*

*Іменна, зыходзячы з такіх меркаванняў, аргкамітэт правядзе цэлы каскад прамежкавых цікавых і важных "круглых сталоў", рэалізуе іншыя задумкі, якія ставяць на мэту больш глыбокае вывучэнне прадмета размовы і пошук рашэння актуальных пытанняў у сферы культурнага і духоўнага жыцця Рэспублікі Беларусь.*

*У рамках сімпозіума мяркуецца наладзіць асобна "круглы стол" на тэму: "Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ва ўмовах глабалізацыі". Пры падтрымцы аргкамітэта яго падрыхтоўкай займаюцца Беларускі Пэн-Цэнтр і Міжнародная асацыяцыя беларусістаў.*

*А ў цэлым, каб унесці сваю лепту ў падрыхтоўку шырокага, надзённага, высакароднага па сваёй задуме форуму "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", маюць ласку выступіць народні з пісьменніцкай арганізацыяй, Міністэрства адукацыі і яговыя ВНУ — Белдзяржуніверсітэт, Белдзяржпедуніверсітэт імя М.Танка, а таксама "Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны, затым — Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі, Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі, грамадскія аб'яднанні Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і Фонд Льва Сапегі ды іншыя арганізацыі.*

*Зразумела не апошнюю ролю тут адыграе і Нацыянальная камісія па справах ЮНЕСКА.*

*Запрашаюцца да актыўнага ўдзелу пісьменнікі. Ніжэй друкуецца тое, што аргкамітэт павінен правесці ў бліжэйшыя пайгода.*

**Васіль ЯКАВЕНКА,**
**каардынатар праекта**

### ПЛАН

**падрыхтоўкі Міжнароднага сімпозіума "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі".**

**Пасяджэнне аргкамітэта 11 снежня, 2001 г.**

1. Вызначэнне асноўных дакладаў і дакладчыкаў, беларускіх і замежных вучоных—спецыялістаў для запрашэння на сімпозіум.

Асноўныя мерапрыемствы:

1. "Круглы стол": *"Беларусь у кантэксце глабалізацыі"*. Люты 2002 г.

Маючыя быць выканаўцы: Палата прадстаўнікоў, Інстытут сацыялогіі НАН Беларусі, Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў, СБП і інш.

2. "Круглы стол": *"Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу. Іх роля і значэнне"*. Сакавік 2002 г. Міністэрства інфармацыі, Міністэрства гандлю, Міністэрства эканомікі, Белдзяржтэлерадыё, ТБМ.

3. "Круглы стол": *"Мова і адукацыя, падручнікі і методыкі"*. Красавік 2002 г. Выканаўцы: Міністэрства адукацыі, Белдзяржуніверсітэт, Белдзяржпедуніверсітэт імя М.Танка, Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа, ТБМ, СБП.

4. Нарада (пашыранае пасяджэнне аргкамітэта) на тэму: *"Беларускі нацыянальны універсітэт. Грамадскі клопат — дзяржаўная задача"*. Красавік 2002 г.

5. "Круглы стол": *"Мова сродкаў масавай інфармацыі Беларусі"*. Май 2002 г. Выканаўцы: Міністэрства інфармацыі, Белдзяржтэлерадыё, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, СБП, Фонд Льва Сапегі.

6. "Круглы стол": *"Беларуская мова. Інтэрнэт і камп'ютэр"*. Май 2002 г. Міністэрства інфармацыі, Палата прадстаўнікоў, ТБМ, "Фонд Льва Сапегі".

7. Конкурс беларускіх студэнтаў на лепшае сачыненне на тэме: *"Родная мова, яе жыццяздольнасць і перспектывы развіцця"*. Снежань 2001 г. — красавік 2002 г.

Выданне зборніка лепшых сачыненняў.

Выканаўцы: Міністэрства адукацыі, Інстытут мовазнаўства, ТБМ, "Фонд Льва Сапегі".

8. Тэлефільм *"Беларуская мова. Учора, сёння, заўтра"*. Май—верасень 2002г.

Выканаўцы: Белдзяржтэлерадыё, ТБМ, Інстытут мовазнаўства.

9. Выстава: *"Беларуская мова як частка нацыянальнай культуры"*. Чэрвень 2002 г. Выканаўцы: Міністэрства культуры, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Бібліятэка НАН Беларусі.

10. Сімпозіум *"Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі"*. Ліпень 2002 г.

11. "Круглы стол": *"Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ва ўмовах глабалізацыі"*. Ліпень 2002 г. (У дні правядзення сімпозіума).

12. Выданне зборніка матэрыялаў сімпозіума на беларускай і англійскай мовах. Верасень—кастрычнік 2002 г.

ПАМЯЦЬ

# Развітальны паклон

Не люблю начных тэлефонных званкоў. З ночы звычайна прыходзяць нядобрыя навіны. І тая ноч была такой. Раніцай мяне паклікаў да тэлевізара сын, коратка сказаўшы: "Памёр Астаф'еў". Я глядзеў на тэлевізійны каляровы экран з кадрамі хронікі, на такога белазуба ўсмешлівага, жыццярадаснага Віктара Пятровіча і адчуваў, што ў вачах быццам менее і менее святла.

У літаратурнай газеце няма патрэбы разбіраць творы пісьменніка на састаўныя, бо ўсё напісанае сапраўдным талентам такому разбору не паддаецца. Варта толькі нагадаць назвы твораў Віктара Астаф'ева і яны скажуць самі за сябе. "Царрыба", "Апошні паклон", "Відушчы посах", "Зацесі", "Праклятыя і забітыя" і яшчэ, яшчэ аповесці, апавяданні...

У вялікай рускай літаратуры не стала вялікага майстра слова мінулага стагоддзя. У Расіі не стала сапраўднага патрыёта, годнага сына, які мог сказаць свайму народу горкую, часам балючую праўду. Дазволю сабе працытаваць надрукаванае Віктарам Астаф'евым у "Комсомольской правде" ў 1993 годзе.

"Жили нелюди и умрем непокойники" — совершенно справедливо говорила моя бабушка, царство ей небесное, а великий писатель и страдалец за свой народ Василь Быков еще восемь лет назад сказал мне: "Знаешь, Виктор, я иногда уже и радуюсь тому, что скоро умру". И я, дорогой мой далекий друг, радуюсь тому же".

Віктар Пятровіч любіў нас, беларусаў. Аднойчы ў Маскве ён гаварыў нам з Віктарам Казько: "Так хочется побывать у вас в Белоруссии! Придумайте что-нибудь, ребятушки!"

Паспрабавалі прыдумаць, але занадта "праведныя" чыноўнікі ад ідэалогіі не дазволілі збыцца мары пісьменніка.

Згадваю пра просьбу Віктара Пятровіча і ўспамінаю, як у гатэлі "Масква", у вузкім сяброўскім коле наспяваў ён нам беларускую казацкую песню, занесеную ў Сібір нашымі землякамі. Песню гэтую ўпершыню пачуў нават такі дасканалы знаўца фальклору, як Ніл Сымонавіч Гілевіч.

Пра сябе, сваю творчасць Віктар Астаф'еў не любіў гаварыць, хаця творы яму даваліся не лёгка. Чаго каштавала пісьменніку тая ж "Царрыба", якой душэўнай аддачы патрабавала, можна здагадацца з коратка сказанага: "После "Царь-рыбы" думал, что о природе ничего не только писать, но и читать не стану". Аднак і чытаў, і пісаў. Мне пашчасціла перакладаць яго цудоўнае апавяданне пра аленя-важака "На далёкой северной вершине". І трэба ж такое супадзенне: кніга, якую мне Віктар Пятровіч падараваў з аўтографам, мела назву гэтага апавядання.

З усіх каштоўнасцяў, якія пакінуў Віктар Астаф'еў сваім нашчадкам, — найвялікшая цудоўная руская мова яго твораў. Пісаў ён шырока, вольна, сакаўнымі мазкамі, але строга вытрымліваючы лад, не расплываючыся, не размазваючыся.

Цяпер думаю, што тое маё пытанне да Віктара Пятровіча было не зусім тактоўным, бо для пісьменніка дарагія і тыя творы, якія не так удаліся, як хацелася. Гэтак бацькі любяць і тых сваіх дзяцей, лёс якіх склаўся не зусім удала. Але пытанне было зададзена: "А якую кнігу вы лічыце самай галоўнай?"

Віктар Пятровіч паглядзеў на мяне нечакана глыбокімі ўважлівымі вачыма: "Знаешь, все таки "Последний поклон".

Згадваю тую гаворку і прамаўляю: "Развітальны паклон Вам, дарагі Віктар Пятровіч, з беларускай зямлі".

**Алесь ЖУК**

ІМПРЭЗЫ

# Юбіляры — у працы

Два вечары запар выступалі ў Вялікай зале сталічнай філармоніі ўдзельнікі III Нацыянальнага фестывалю эстрадных аркестраў. Лепшыя з іх будуць запрошаны ў праграму новага фестывалю, які па ініцыятыве — зноў жа! — Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з маэстра Міхалам Фінбергам пройдзе летам наступнага года ў ваколіцах возера Нарач. Для гэтага не трэба будзе трывожыць неруш запаведных мясцін будаўніцтвам сцэнічнай пляцоўкі: калектыў прыедзе "са сваім скарбам" і змантуе ўласную, аснашчаную выбітнай тэхнікай, перасоўную эстраду ў зале адпачынку турыстаў і курортнікаў.

А пакуль, завяршаючы 2001 год, заслужаны калектыў рэспублікі спраўляе свой невялічкі юбілей: 15-годдзе. Дарэчы, днямі ён вярнуўся з Масквы, дзе ў канцэртнай зале "Россия" паспяхова правёў аўтарскі канцэрт кампазітара Андрэя Пятрова з удзелам папулярных салістаў. Знаны расійскі кампазітар даверыў сваё свята беларускім музыкантам — даўнім і надзейным творчым партнёрам.

У панядзелак і аўторак на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі мае адбыцца доўгачаканы паказ новай работы аркестра "У свеце музыкі — "Бітлз" і "Песняры". (Як ведаюць нашы чытачы з ранейшага анонса, кампазіцыя і аранжыроўка створаны салістам аркестра Уладзімірам Ткачэнкам). Цырымонія віншавання калектыву, замоўленая на 10 снежня, прымеркавана да паказу новай праграмы. Тыя, каму не пашанцуе трапіць на прэм'еру ў першы вечар, могуць наведацца ў філармонію 11-га снежня: праграма будзе паўторана, хаця, безумоўна, непасрэдныя ўражанні ад выканальніцкага мастацтва, ад магіі жывога гуку, чым і славіцца гэты аркестр, — своеадметная і непаўторная рэч!

З надыходам 2002 года ў аркестра пачынаецца насычанае фестывалямі творчае жыццё. Яно літаральна распісана ўжо на паўгоддзе. Студзень — фестываль камернай музыкі ў Заслаўі, Дні джаза ў Мінску. Сакавік — новы фестывальны маршрут: Мсціслаў. Там у некалькіх камерных праграмах будзе прадстаўлена незаслужана забытая музычная спадчына, прычым, упершыню ў рэпертуары гэтых музыкантаў — творчасць беларускага класіка Мікалая Чуркіна (плённы перыяд дзейнасці кампазітара быў звязаны менавіта з Мсціславам). А травень абяцае чарговую сустрэчу з "Музамі Нясвіжа". У цэнтры ўвагі будзе, як заўсёды, беларуская музычная спадчына і, трэба чакаць, новыя творы нашых кампазітараў, адпаведныя духу і стылю высокіх мастацкіх традыцый.

**С. Б.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Навука драматургіі

З 29 па 2 снежня ў Бабруйску праходзў II Фестываль нацыянальнай драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча. Як заўважыла старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Іпатава (яна ўваходзіла ў склад журы фестывалю), ці мог уявіць сабе славуты драматург, як будуць ушаноўваць яго імя нашчадкі. Бо Фестываль нацыянальнай драматургіі — мерапрыемства, несумненна, вельмі неабходнае ў тэатральным жыцці краіны. П'еса — аснова спектакля, ад таленавітага зместу якой сёння многае залежыць на сцэне і галоўнае — у зале (ці прыемна, калі публіка пазяхае з нуды). Аднак гэты фэст зрабіўся патрэбным не толькі людзям тэатра, а і самому гораду, яго жыхарам, якія з цікавасцю наведвалі кожную пастаноўку (аншлагі былі толькі на спектаклях мінскіх тэатраў).

Сёлета ў фестывалі, які праходзіць раз у тры гады, бралі ўдзел тэатральныя калектывы з Мінска (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, Тэатр-студыя кінаакцёра), Бабруйска, Магілёва, Брэста, Гродна (па прычыне "маскоўскіх" гастроляў адсутнічаў толькі Коласаўскі тэатр з Віцебска). Аматары тэатра паглядзелі восем спектакляў па п'есах вядомых беларускіх драматургаў А Дударава, С. Кавалёва, У. Бутрамеева, А. Паповай, Г. Марчука, а таксама М. Рудкоўскага і С. Бартохавай. Трэба адзначыць, што спектакля-падзеі знаўцы тэатральнага мастацтва не дачакаліся. Журы вырашыла, што лепшага спектакля на Фестывалі нацыянальнай драматургіі не было. (І гэта падстава для роздуму: прынамсі, сёлета на III Фестывалі нацыянальнага кіно журы таксама не знайшло фільма, вартага Гран-пры за лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы.) Аднак дыпломам за адметную рэжысуру быў уганараваны А. Жугжда, які паставіў спектакль па п'есе С. Кавалёва "Навука кахання" (Гродзенскі абласны дармтэатр). На думку журы, арыгінальнае сцэнаграфічнае рашэнне знайшоў рэжысёр Р. Таліпаў у спектаклі "Восеньскі блюз" (Бабруйскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. Дуніна-Марцінкевіча). Дыпломам за таленавітае выкананне роляў былі ўганараваны акцёры А. Гайдуліс (Францішка Уршула Радзівіл, "Навука кахання"), Г. Агейкіна (Ніна Карпаўна, "Восеньскі блюз"), Т. Мархель (Інгрыд, "Жанчыны Бергмана), І. Нарбекава (Тамара Мікалаеўна, "Поле бітвы"), Р. Белацаркоўскі (Лапушынскі, "Успамін пра Вавілон"), А. Кавальчук (Каралёў, "Кім"). Драматург С. Кавалёў быў прызнаны лепшым распрацоўшчыкам гістарычнай тэмы (прынамсі, спектаклі "Навука кахання" і "Саламея Русецкая" знаёмяць гледача з цікавымі жаночымі асобамі, якія пакінулі след у беларускай гісторыі). Па меркаванні журы, удала дэбютавалі ў драматургіі С. Бартохава ("Поле бітвы") і М. Рудкоўскі ("Жанчыны Бергмана").

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

АНОНС

# "Прыгажуня" і "Папялушка"

Гэтым вечарам у Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Беларусі — свята. Цырымонія ўручэння штогадовых узнагарод "Філіп-Морыс-Дэбют" і "Жыццё ў мастацтве". Як заўжды, пасля ўрачыстасцяў адбываецца і паказ спектакля, у якім выступае новы лаўрэат прэстыжнай прэміі. Назваць ягонае імя мы пакуль, зразумела, не можам: яно вызначана кампетэнтным журы на чале з мастацкім кіраўніком тэатра Валянцінам Елізар'евым і абвешчана будзе толькі вечарам, са сцэны. А вось назваць спектакль, які адбудзецца пасля ўзнагароджвання артыстаў, — не праблема. Гэта — "Спячая прыгажуня" П, Чайкоўскага.

Урачыстасцямі ў тэатры балета свята ў музычным жыцці нашай сталіцы сёння не абмяжуецца. На гэты ж вечар замоўлена прэм'ера камічнай оперы Д. Расіні "Папялушка". Не здзіўляйцеся: оперная прэм'ера — у той самы вечар, калі на сцэне Вялікага тэатра гаспадаром будзе балет! Рэч у тым, што "Папялушка" Д. Расіні паўстане ў канцэртным выкананні. У Вялікай зале філармоніі яе прадставяць сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам маэстра Генадзя Праваторава, Дзяржаўны камерны хор Беларусі (мастацкі кіраўнік Наталля Міхайлава), салісты. Галоўную партыю выканае Вольга Сотнікава, па ініцыятыве якой і падрыхтавана прэм'ера оперы, якая ніколі раней у Беларусі не выконвалася і трактоўка якой узноўлена паводле запісу, зробленага на Эдынбургскім фестывалі ў 1971 г.

**С. ВЕТКА**

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Адроджаныя акорды

У абласным цэнтры распачаты міжнародны фестываль інструментальнай музыкі "Рэнесанс гітары". У ім бяруць удзел выканаўцы з Мінска, Гомеля, Гродна, Пінска, Маладзечна, а таксама з Польшчы, Украіны, Расіі, Югаславіі. У праграме фестывалю, акрамя канцэртаў і конкурсаў, — правядзенне семінараў "Імправізацыя", "Методыка перакладання для шасціструннай гітары", "Майстар-клас"...

## На габеленах — радзіма

Гомельскія мастакі муж і жонка Арсен Дваронін і Ірына Двароніна-Данілава — майстры габелена. Іх работы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у прыватных калекцыях ЗША, Германіі, Францыі, Шатландыі. Творы вызначаюцца нацыянальнай тэматыкай. Габелены "Зубры", "Маё Палессе", "Бяленне палатна"... — яскравы таму доказ.

Зараз у карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрыта персанальная выстава лепшых работ Дваронiных.

## Падарункі школе

У Шыіцкай сярэдняй школе Калінкавіцкага раёна працуе этнаграфічны музей. Тут сабрана вялікая колькасць экспанатаў пра гісторыю роднага краю. Спецыяльны раздзел складаюць работы мясцовых майстроў пра быт селяніна-працаўніка. Многія вучні займаюцца ў гуртку народнай творчасці, пастаянна ўдзельнічаюць у самых розных выставах.

Шыіцкая школа адзначыла 160-гадовы юбілей (яна — пераемніца народнай вучэльні, якая дзейнічала да рэвалюцыі). З гэтай нагоды тут адбыліся ўрачыстасці. Старшыня мясцовага райвыканкама В. Піліпец уручыў школе падарункі, а яе былы выпускнік А. Отчык, старшыня абласной арганізацыі Саюза мастакоў, — уласную карціну пра маляўнічую палескую прыроду.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## А беларусам моцы не хапіла

У 14-ы раз Віцебск гасцінна прымаў удзельнікаў міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі. Мяркуючы па водгуках у друку, фестываль стаў падзеяй як у культурным жыцці Віцебска, так і для творцаў сучаснага мастацтва ўсяго свету. Акрамя шасці беларускіх танцавальных калектываў, у конкурсе бралі ўдзел артысты з Польшчы, ЗША, Эстоніі, Латвіі, Аўстрыі, Расіі. Але ўладальнікам Гран-пры стаў выканаўца з Кітая Чу Хай, які ў харэаграфічных кампазіцыях паказаў фантастычную тэхніку бязмежных магчымасцяў чалавечага цела. Спецыяльныя прэміі, прысуджаны Рускаму камернаму балету "Масква" і "Люблінскаму тэатру танца (Польшча). Як адзначыў старшыня міжнароднага журы, народны артыст СССР і Беларусі, дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра балета Валянцін Елізар'еў, без дзяржаўнай падтрымкі сучаснага танца значных поспехаў ад беларускай харэаграфіі чакаць складана.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Гаварылі пра Міколу Трухана

У Бабруйску ў рамках традыцыйнага фестывалю беларускай драматургіі адбылася прэзентацыя пасмяротнай кніжкі Міколы Трухана "Чаканні" ("Беларуская навука", 2001). Дапаможнік, адрасаваны настаўнікам, кіраўнікам тэатральных калектываў, падрыхтаваны намаганнямі ўдавы рэжысёра Соф'і Русак. У яго ўвайшлі інсцэніроўкі Трухана па творах Янкі Купалы, Івана Мележа, Уладзіміра Караткевіча, Францішка Аляхновіча, Уільяма Шэкспіра, Валянціна Распуціна і іншых. Некаторыя з інсцэніровак Мікола Трухан не паспеў ажыццявіць, пра што гаварылі на прэзентацыі галоўны рэдактар аддзела тэатраў Міністэрства культуры В. Валадзько і крытык Л. Лявонава.

У прысутных рэжысёраў, тэатразнаўцаў, артыстаў, гледачоў, кніга абудзіла ўспаміны пра таленавітага рэжысёра, самабытную асобу, стваральніка тэатра "Дзе-Я?", патрыёта роднай зямлі.

**Наш кар.**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Паэт — гэта не прафесія

У ліцэі № 1 Брэста адбылася сустрэча навучэнцаў філалагічнага аддзялення з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным. Рыгор Іванавіч чытаў вершы, гаварыў пра лёс Радзімы, ахвотна адказваў на самыя розныя пытанні. А яго малодшы сябар вядомы спявак Алесь Камоцкі выконваў пад гітару песні, напісаныя на вершы Рыгора Барадуліна.

## У край натхнення

Навучэнцы Брэсцкага ліцэя № 1 традыцыйна наведваюць Пушкінагор'е. Нядаўна яны пабывалі ў Пушкінскіх мясцінах і ў Полацку. Узначаліла экскурсію настаўніца сусветнай мастацкай літаратуры Ларыса Візгульб. Ліцэісты наведалі Міхайлаўскае, агледзелі рабочы кабінет паэта, домік Арыны Радзівонаўны, алею Ганны Керн. З Міхайлаўскага накіраваліся ў Трыгорскае, а потым у Святагорскі манастыр, усклалі на магілу Пушкіна вянок.

Уразіў і старажытны Полацк: Свята-Еўфрасіннеўскі манастыр, музей Сімяона Полацкага.

**Вікторыя БАРЫСЮК**

## Удакладненне

*У мінулым нумары «ЛіМа» ў матэрыяле «Там, дзе жыў Арфей...» 13 радок знізу ў другой калонцы тэксту трэба чытаць: «Унук Міколы Кусянкова паказаў у гэтым сапраўдны міжнародны ўзровень — ён дыпламант многіх конкурсаў».*

## *Тарас вярнуўся на Парнас*

**Першы каляндарны дзень зімы быў у Гарадку на Віцебшчыне сагрэты па вясенняму шчырай падзеяй. Адбылося ўрачыстае адкрыццё пры Гарадоцкім краязнаўчым музеі памятнай кампазіцыі, прысвечанай "Тарасу на Парнасе" і яе аўтару.**

**Адхінаецца зрэбнае покрыва. Перад намі нібыта скрыжальная старонка запавету. Да валуна прымацавана металічная дошка. Чытаем: "Выдатны твор беларускай літаратуры XIX ст. народная паэма ТАРАС НА ПАРНАСЕ напісана ў 1855 г. КАНСТАНЦІНАМ ВЕРАНІЦЫНЫМ, гарадоцкім мешчанінам, ураджэнцам Астраўлянаў".**

**Углядаемся ў адмысловае "метрычнае пасведчанне". Ушанаваны мемарыяльным знакам не толькі сам славуты, паўтара стагоддзя ананімны шэдэўр. Вернута з безназоўнасці імя аўтара сатырычна-парадыйнай паэмы. З 1 снежня ён пазбаўляецца — урачыста-афіцыйна — і ананімнасці, і такіх навуковых меркаванняў-азначэнняў, як "магчымы", "найбольш верагодны" стваральнік лёсавызначальнага для нашай літаратуры, жыццесцвярджальнага для нацыі тэксту. Паэма — Дабравесце пасланца, які, цытую Генадзя Кісялёва, "здолеў атрымаць кніжную адукацыю, вучыўся ў гімназіі, у Гора-Горацкай акадэміі, жыў у Пецярбургу..." Твор К. Вераніцына — гэта прамаўленне празорцы з мудрай хітрынкаю ў сэрцы, з гарчынкай на вуснах...**

**Многа патаемаў заклаў у свой тэкст гарадоцкі самародак. І яго шыфры, сімвалы так і не разгаданы да канца. У 19-м стагоддзі на Парнас — на гару дзяржаўнасці — спрабавала ўскараскацца эліта многіх народаў. А мы — "у яму старчаком". Бо нацыянальная ідэя была ў нас, паводле Вераніцына, на падземным узроўні. 20-е стагоддзе выявіла, што наш "маладзік на неба ўзлез..." Беларусь адчула пад сабой мацярык дзяржаўнасці. 21-е стагоддзе патрабуе новага ўзвышэння, і такога, каб "аж рот разявілі багі" — нашыя суседзі па дзяржаватворчасці, бо безназоўнасці ў Беларусі як снегу на поўначы Віцебшчыны.**

**І вось удзельнікі гарадоцкага свята каля другога, яшчэ большага валуна. Здымаецца заслона — і мы бачым разгорнутую старонку паэмы "Тарас на Парнасе". Злева — пукатыя радкі цытаты:**

*Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса,*
*У палясоўшчыках што быў?*
*На Пуцявішчы, у Панаса,*
*Ён там, ля лазні блізка жыў...*

**У цэнтры — постаць Тараса на Парнасе. Праваруч яго — краявіды Пуцявішча, леваруч — багі, з якімі сустракаўся палясоўшчык. А на бронзавай старонцы выліты словы Алега Лойкі: "Паэма стала патрыятычнай песняй, выражэннем любові да роднага слова, марай аб вялікім будучым беларускай літаратуры, паэтызацыяй узыходжання яе на Парнас".**

**Першы прарэктар Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Анатоль Максімавіч Дарафееў, які быў ініцыятарам стварэння такой памятнай кампазіцыі ў родным для яго гарадку, пераўвасобіўся ў Тараса і натхнёна вёў рэй. Ён у якасці вядучага і даў слова прысутным на свяце — Алегу Лойку, Язэпу Янушкевічу, Уладзіміру Скарынкіну, Францу Сіўко, Анатолю Канапельку, Уладзіміру Папковічу — усім шаноўным гасцям заснежанага Гарадка. Потым імпрэза перамясцілася ў родныя для Канстанціна Вераніцына Астраўляны. І там сагравалі нас жартоўныя сцэнкі паводле тэксту паэмы, прачулыя словы і пашанотныя гасцей, і найбліжэйшых землякоў Вераніцына, Тарасавых пабрацімаў-сатворцаў.**

**А яшчэ мы агледзелі цудоўна аформленыя залы этнаграфіі і народных рамёстваў краязнаўчага музея. Асаблівую падзяку выказалі стваральнікам дасканалай памятнай кампазіцыі ва ўшанаванне Вераніцына і яго несмяротнага твора — выкладчыкам Віцебскага дзяржаўнага універсітэта таленавітым Івану Каладоўскаму і Сяргею Сотнікаву. А героем дня па праву быў натхняльнік і арганізатар гарадоцкага свята — наш "палясоўшчык" Анатоль Максімавіч Дарафееў.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

ЮБІЛЕІ

# Абавязаны сплачваць доўг

9 снежня прыхільнікі таленту Максіма Багдановіча адзначаць 110-ю гадавіну з дня нараджэння паэта. Можа, неяк незаўважна прайшла яшчэ адна дата — 85-годдзе, як ён вярнуўся ў Мінск з Яраслаўля з надзеяй і верай, што назаўсёды. Задуманае не спраўдзілася.

У ліпені гэтага года мне надарыўся шчаслівы выпадак пабываць у Яраслаўлі, наведаць музей Максіма Багдановіча, пазнаёміцца з яго экспазіцыяй, з навуковым супрацоўнікам Нячай Святланай Дзмітрыеўнай. Супрацоўнікі музея прыкладваюць шмат намаганняў, каб дом, у якім некалі жыла сям'я Багдановічаў, быў сапраўдным цэнтрам беларускай культуры.

Палкі патрыятызм Максіма Багдановіча асабліва востра адчуваецца менавіта ў Яраслаўлі, дзе прайшлі ці не лепшыя гады жыцця паэта на чужыне. Тут набіраў моцы і раскрываўся яго талент. Гэты старажытнарускі горад мае багатую і самабытную культуру. Помнікі архітэктуры захаваліся да нашага часу і прываблівалюць шматлікіх турыстаў. Невыпадкова Яраслаўль уваходзіць у лік знакамітага Залатога кальца. І тым не менш Максім Багдановіч не ўславіў помнікі старасветчыны Яраслаўля. Але варта было паэту трапіць у Вільню, каб уражанні ад помнікаў старадаўняй беларускай культуры ўвасобіліся ў вершах, што склалі цыклы "Старая Беларусь" і "Места". І ажыла ў яго паэтычных радках Вільня, сталіца Вялікага Княства Літоўскага, з яе цудоўнай готыкай, з вузкімі вулкамі, брамамі, на якіх герб нашай дзяржавы — Пагоня.

Я пакідала Яраслаўль, музей Максіма Багдановіча і Цэнтр беларускай культуры з пачуццём маральнага задавальнення і пякучага сораму перад паэтам, перад Святланай Дзмітрыеўнай, перад яраслаўцамі. Мы (гэта мой унук і сын, які і наладзіў гэтую паездку) дабраліся сюды пасля шасці ў другой палове дня, уже перапоўненыя уражаннямі ад сустрэчы з выдатнымі помнікамі культуры. У Яраслаўлі найперш рупіла трапіць у музей Максіма Багдановіча. Вельмі трывожылася, што ён будзе зачынены. Парадавалася: яраслаўцы ведаюць музей вялікага беларуса. Яны паказалі, як трапіць на вуліцу Чайкоўскага.

На доме № 21 — дзве шыльды. Першая інфармуе, што тут працуе Цэнтр беларускай культуры. Другая паведамляе, што ў гэтым доме месціцца музей Максіма Багдановіча. Святлана Дзмітрыеўна Нячай, даведаўшыся, што мы з Беларусі, узрадавалася і пачала адразу знаёміць з экспазіцыяй музея. Мае ж вочы забегалі па пакоі і спыняліся то на інтэр'еры першага пакойчыка, дзе была зроблена спроба аднавіць кватэру інтэлігента пачатку XX стагоддзя, то на экспанатах. Куфар з сям'і Багдановічаў, пра які ў свой час пісала Ніна Ватацы, рэпрадукцыя Мадонны Рафаэля, вядомыя фотаздымкі сям'і Багдановічаў... Кінулася ў вочы лаўка, засланая бавоўнянай саматканай посцілкай. Аказалася, што яе падаравалі гарадзенцы.

Перайшлі ў другі пакойчык, у якім не так і шмат матэрыялаў пра Багдановіча. Гэта экспанаты пра сяброў паэта па Яраслаўлі, супрацоўніцтва з мясцовым друкам. Значную плошчу займае інфармацыя пра беларусаў, якіх лёс закінуў у гэты расійскі горад, і яраслаўцаў, што звязаны з нашай краінай. Некалькі экспанатаў прысвечана Мінскаму настаўніцкаму інстытуту, эвакуіраванаму ў Яраслаўль падчас Першай сусветнай вайны. Змешчана тут і фотавыява Наталлі Арсенневай. Пра яе сувязь з гэтым горадам паведаміў у музей А. Белы, прыслаў фотаздымак і зборнік паэзіі беларускай эміграцыі. Спадарыня Святлана з гонарам і захапленнем расказвае, што музей наладзіў па вершах паэтаў беларускага замежжа вечарыну і што яны вельмі спадабаліся слухачам.

У гэтай невялікай зале экспануюцца падарункі музею прэзідэнта і міністра культуры Рэспублікі Беларусь і невялічкая палічка з кнігамі: збор твораў Уладзіміра Караткевіча, трохтомнік Максіма Багдановіча, яшчэ з дзесятак кніг розных беларускіх аўтараў. Перакананая, што ў музеі шмат нашых кніг, спыталася, чаму менавіта гэтыя выбраны для экспазіцыі. І пачула: тут усё, што ёсць беларускага ў Цэнтры беларускай культуры. Чырвань заліла мой твар. Прайшло не так і мала часу, як была ў Яраслаўлі, а тая сіратлівая палічка не-не ды і паўстане перад вачыма, як дакор.

Стала так сорамна, што ўзнікла жаданне пакінуць гэты старанна дагледжаны дамок, у якім з любоўю рупяцца, каб захаваць памяць пра нашага вялікага паэта, пра Беларусь. Дарэчы, у Святланы Дзмітрыеўны па жылах цячэ беларуская кроў. Карані яраслаўскіх Нячаяў па бацькавай лініі на Пружаншчыне.

Я шукала зачэпку, каб як далікатней развітацца з гаспадыняй музея, і такая зачэпка знайшлася. Я сказала, што ўжо цямнее, а хацелася б яшчэ пабачыць будынак Яраслаўскага ліцэя, вучыўся ў якім так не хацелася Максіму пасля заканчэння гімназіі. Пачула такое, што лічу патрэбным пра гэта сказаць. На Яраслаўшчыну ў час зямельнай рэформы Сталыпіна перасяліліся нямала беларусаў. Землі тут аказаліся больш урадлівыя, чым на радзіме, а працавітасці нашаму народу не трэба ні ў кога пазычаць, і нашы землякі сталі жыць тут заможна. Яраслаўль пачатку XX стагоддзя — трэці пасля Санкт-Пецярбурга і Масквы горад Расіі. Тут жыло шмат купецтва, былі раскватараваны воінскія часці. Усе гэтыя сілы, у тым ліку і нашы землякі, аб'ядналіся для барацьбы з бальшавікамі. Штабам гэтай барацьбы стаў будынак Яраслаўскага юрыдычнага ліцэя. Змаганне было надзвычай жорсткім. Калі бальшавіцкая ўлада была ўсталявана, на Яраслаўшчыне, будынак юрыдычнага ліцэя быў знішчаны так, каб ні следу, ні ўспаміну не засталося. Я вяртаю нашу суразмоўцу да лёсу тых беларусаў, хто прыехаў на Яраслаўшчыну за зямелькай. І чую: шмат іх было вынішчана ў грамдзянскую вайну, у час калектывізацыі, але не ўсе. Не асмельваюся спытацца, калі ж род Нячаеў асеў на Яраслаўшчыне.

Фатаграфуемся на ўспамін, развітваемся. Раптам Святлана Дзмітрыеўна папрасіла затрымацца, вынесла нам падарунак — гліняную беларускую лялькую. На маё здзіўленне патлумачыла: пры музеі працуе дзіцячы гурток. Дзеткі з гліны вылепліваюць лялькі, абпальваюць іх, размалёўваюць, "апранаючы" ў беларускія адзенні. І зноў чырвань заліла мой твар... Па вяртанні дадому ляльку перадала ў музей Максіма Багдановіча ў Мінску.

Няўжо мы, беларусы, не можам стварыць сапраўдны Цэнтр беларускай культуры на Волзе, калі там ёсць тыя, хто гатовы прапагандаваць і нашага класіка, і нашу культуру? Няўжо клопат нашага Міністэрства культуры толькі ў тым, каб беларускія мастакі распрацавалі і аформілі экспазіцыю? Няўжо няма ніякіх абавязкаў у музея Максіма Багдановіча ў Мінску перад філіялам у Яраслаўлі? З інфармацыі экскурсавода даведалася, што ініцыятыва адкрыцця тут музея Максіма Багдановіча належыць яраслаўцам, што яны доўга шукалі, але ўсё-такі знайшлі адзін з ацалелых дамоў, у якім жыла сям'я Багдановічаў.

***Тым, хто хоча сплаціць свой доўг Максіму Багдановічу, хто хоча, каб нас ведалі і паважалі ў Яраслаўлі, даю адрас Святланы Нячай: 150014, г. Яраслаўль, ул. Чайковского, 21, тел. (0852) 32-93-54, E-mail: musey@sttec.yar.ru.***

**Вера ЗАРЭЦКАЯ,**
**кандыдат педагагічных навук, загадчыкакафедры методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна**

ВЕЧАРЫНЫ

# "О, Беларусь, мой лёс..!"

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы прайшла вечарына народнага паэта Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Ніла Гілевіча.

На сустрэчу прыйшлі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы паэт Генадзь Бураўкін, вядомы вучоны Уладзімір Конан, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін, пісьменнік Балянцін Блакіт, супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, настаўнікі беларускамоўнай гімназіі СШ № 14 (што змагаецца за званне імя Янкі Купалы), настаўнікі СШ № 19 імя Янкі Купалы, Сеннікаўскай СШ імя Янкі Купалы, беларускамоўнай сярэдняй школы № 89 — "этнашколы XXI стагоддзя", гуманітарна-лінгвістычнага каледжа № 24, СШ №№ 157, 185, выхавацелі адзінага ў Мінску нацыянальнага беларускамоўнага садка № 202, артысты тэатра "Вольная сцэна", настаўнікі школ Мінскага раёна, супрацоўнікі музея Якуба Коласа, навучэнцы музычнага вучылішча імя Глінкі, выкладчыкі радыётэхнічнага каледжа, гімназіі № 13, карэспандэнты газет.

На пачатку вечарыны Ніл Сымонавіч прызнаўся, што ён рады, што менавіта ў Доме Купалы завяршаецца шэраг яго юбілейных мерапрыемстваў, што праходзілі ў Мінску і па краіне. Жаданне "паспавядаць-ца" перад аднадумцамі, перад народам зусім невыпадковае. "Я глыбока перакананы, што без вялікай і шчырай любові да сваёй нацыянальнай мовы нельга стварыць каштоўнага мастацкага твора. Любоў да сваёй Радзімы, да свайго народа, да сваёй мовы — адзіная жыватворная крыніца, бальзам якой можа натхніць на сапраўднае мастацтва". Паэт падкрэсліў, што ў Чырвоным касцёле яму амаль не выпала пазнаёміць прысутных са сваімі вершамі, таму ў Доме Купалы ён чытаў іх амаль дзве гадзіны.

Выстава "Паклон табе, мой беларускі краю, ты — мой, я — твой, ад роду і навек" з матэрыялаў асабістага архіва паэта і з фондаў музея Янкі Купалы аздобіла творчую сустрэчу. Ніл Сымонавіч з цікавасцю разглядаў выставу і адчуваўся, што ён ёю задаволены. За 55 гадоў творчай дзейнасці Н. Гілевіча ўбачылі свет звыш 35 кніг паэзіі, прозы, зборнік п'ес, 15 кніг перакладаў паэзіі і прозы славянскіх народаў, збор твораў у 6 тамах, набярэцца добры том публіцыстыкі. У гэты вечар Нілу Гілевічу давялося пачуць у свой адрас шмат цёплых слоў і віншаванняў. Нельга не працытаваць віншаванне старшыні Федэрацыі дружбы з народамі Расіі і СНД і старшыні фонду "Славяне" прафесара Захары Захаравых: "Есть поэты, которые сотворили так много, что если мы решим сравнить написанное с их жизненным путем, как-то не получается. Не хватает границ и пределов, не хватает человеческих возможностей... Ваша поэзия, Ваши лирические герои с их душевностью и обаянием, могут быть описаны и сотворены единственно таким же щедрым и великолепным Творцом, как Вы... Мы счастливы поздравить Вас за достигнутое, за Вашу отзывчивость, искренность и человечность во имя добра и дружбы. Благодарим Вас за Вашу любовь к Болгарии и славянству... Будьте живы и здоровы, творите еще долгие годы и радуйтесь дружбе и любви людей. 30.09.2001 г. София."

Цэлы стэнд выставы быў прадстаўлены раздзелам "Паэт і музей". Гэта рукапісы вершаў, фотаздымкі розных гадоў святаў паэзіі, сустрэч і вечарын у музеі, адкрыццё філіяла музея ў Акопах:



*Тут, між гэтых пагоркаў, у гэтых барах і дубровах,*
*Каля гэтых азёраў і рэк, каля гэтых крыніц,*
*Узышла і ўзрасла на вякі наша родная мова —*
*І ніякай інакшай яе немагчыма ўявіць.*

"Зямля бацькоў, Лагойшчына мая!". Лагойшчына — гэта творчая калыска Янкі Купалы, дзе таксама пачынаў свае першыя крокі ў літаратуру Ніл Гілевіч. На Лагойшчыне, у знакамітых Акопах, дзе так шчодра засявалася матчына поле Песняра, нараджаўся паэтычны геній Янкі Купалы. І тое, што ў вёсцы Харужанцы зараз працуе філіял нашага музея "Акопы" — найвялікшая заслуга Ніла Сымонавіча. Сапраўды, без яго ўдзелу, без яго намаганняў не здзейсніліся б Купалаўскія Акопы. Клопат гэты быў адчувальны, відавочны, моцны, калі Ніл Сымонавіч працаваў у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.

Напрыканцы вечарыны хор музычнага вучылішча імя Глінкі пад кіраўніцтвам Алеся Рашчынскага выканаў песні на словы Янкі Купалы і Ніла Гілевіча. Акордам прагучала песня "Шлях да Беларусі".

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ,**
**загадчык навукова-асветніцкага аддзела Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

# Тварам да людзей

## НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА “ЛіМа” АДКАЗВАЕ КІРАЎНІК АДМІНІСТРАЦЫІ ПАРТЫЗАНСКАГА РАЁНА г. МІНСКА Станіслаў БУКО

**— Станіслаў Іосіфавіч, перш-наперш мне чамусьці карціць спытацца ў вас вось пра што: вас не здзівіў зварот “ЛіМа” з просьбай аб інтэрв’ю? Пытаюся пра гэта найперш таму, што, нам падаецца, апошнія гады дзяржаўныя службоўцы — не хачу ўжываць нібыта крыўднае слова “чыноўнікі” — неяк адасобіліся ад сферы культуры, духоўнасці, засяродзіўшыся выключна на пытаннях эканомікі.**

—І здзівіў, і не здзівіў. З аднаго боку — за чатыры гады, што я на такой пасадзе, гэта першы зварот газеты даць інтэрв’ю. А з другога, я ведаю, што “ЛіМ” — орган Саюза пісьменнікаў, вялікай грамадскай арганізацыі, якая знаходзіцца на вуліцы Фрунзе, 5, з якой мы неаднойчы праводзілі сумесныя мерапрыемствы. Ну а што да ўвагі, заклапочанасці эканомікай, дык гэта сапраўды так. Пытанням яе развіцця мы аддаём шмат увагі, тым больш, што наш раён — самы прамысловы ў сталіцы, нават у Мінскай вобласці.

**— Раскажыце, калі ласка, нашаму чытачу трошкі пра сябе.**

—Нарадзіўся я ў найслаўнейшым куточку Міншчыны, на Нясвіжчыне, вотчыне славутых Радзівілаў. Бацькі — шараговыя, як кажуць, працаўнікі з калгаса імя Дзяржынскага. У сям’і нашай было чацвёра дзяцей, я — самы старэйшы, пасляваенны. Яшчэ школьнікам менш лайдачыў, а больш працаваў. Зараз гляджу, як дзеці праводзяць летнія канікулы, адпачываючы цэлыя тры месяцы і зусім не рвуцца ў школу. А я чакаў, каб хутчэй надышло тое 1 верасня, хутчэй сесці за парту. Штогод калгас выдзяляў нам дзялку буракоў, лёну, кукурузы, і мы з мамаю ўсё лета з матыкамі ў полі піцуем. А ў дадатак ранічкаю, да дня яшчэ, маці пабудзіць-падыме кароўку папасвіць у лесе, дзе трава лепшая, каб малачка болей дала. Школу, вучобу я любіў, вучыўся заўсёды на выдатна. Пасля васьмі класаў паступіў у мехтэхнікум, дзе спачатку вучыцца было нечакана цяжка. Чаму? У школе ўсе прадметы, у тым ліку хімію, матэматыку, фізіку, выкладалі на беларускай мове, а ў тэхнікуме — на рускай, мне трэба было спачатку мысленна перакласці для сябе на беларускую, каб засвоіць матэрыял. Затое дыктоўкі па беларускай мове я пісаў ці не лепш за ўсіх. Пасля тэхнікума служыў у арміі, потым 15 гадоў адпрацаваў на Мінскім маторным заводзе — пачынаў з рабочага, потым стаў начальнікам цэха, сакратаром парткама. Скончыў політэхнічны інстытут, акадэмію кіравання. Дванаццаць гадоў ужо тут, у адміністрацыі Партызанскага раёна горада Мінска. Маю дарослых дзяцей — сына і дачку, яны жывуць ужо сваімі сем’ямі.

**— Вернемся, Станіслаў Іосіфавіч, да пачатку нашай гаворкі. Калі шчыра, дык газеце творчай інтэлігенцыі Беларусі “Літаратура і мастацтва” даўно трэба было б напрасіцца да вас з інтэрв’ю, тут вы праўду кажаце. Нягледзячы на тое, што раён наш мае назву Партызанскі, што галоўная ягоная тэрыторыя ляжыць, скажам так, у прамысловай зоне Мінска і прылягае да цэнтра толькі краёчкам, усё ж і ў ім ёсць нямала культурна-мастацкіх устаноў і арганізацый. Адна з іх — згаданы ўжо вамі Саюз беларускіх пісьменнікаў. Наш “ЛіМ” рэпрэзентуе найперш яго. Вы заўсёды памятаеце пра гэта, Станіслаў Іосіфавіч?**

—Прынамсі, стараюся не забываць. Пры ўсім тым, што раён наш прамысловы, усё ж пытанні культуры, духоўнасці, выхавання для нас таксама важныя. І якраз Саюз беларускіх пісьменнікаў — тая структура, якая акумулюе і нясе ў масы веды, культуру, духоўнасць, інтэлект.

**— Пасля гэтага нельга не спытаць вось аб чым. Так, Саюз пісьменнікаў — адна з самых буйных і, можа быць, самых значных творчых арганізацый краіны. Яна аб’ядноўвае больш за пяць соцень майстроў прыгожага пісьменства. Гэта немалая ідэалагічная, як казалі раней, сіла. Ці адчуваеце вы, кіраўнік раёна, прысутнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў на падуладнай вам тэрыторыі? Як скарыстоўваеце яго магутны патэнцыял, наколькі і якім чынам?**

—Я ўжо казаў трошкі пра гэта. Мы безумоўна і памятаем аб прысутнасці на нашай тэрыторыі Саюза пісьменнікаў, і адчуваем, працуем у кантакце з ім, найперш — нашы раённыя ўстановы адукацыі і культуры. Ужо не адзін год ёсць у нас такое, напрыклад, свята, як Дзень работнікаў культуры. На яго мы абавязкова запрашаем пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Апошні раз гэтае свята мы адзначалі ў Доме-музеі Заіра Азгура. Асабіста мне вельмі прыемна, што Саюз пісьменнікаў узначальвае Вольга Іпатава, надзвычай таленавітая пісьменніца, а ў дадатак — амаль мая зямлячка. Яна, наколькі мне вядома, з Міра, а мая родная вёсачка — усяго за дзевяць кіламетраў ад гэтага славутага мястэчка. Карацей кажучы, прысутнасць СП у раёне мы адчуваем, але, калі гаварыць шчыра, далёка не ў поўнай меры выкарыстоўваем яго магутны патэнцыял.

**— Станіслаў Іосіфавіч, сёння мы жывём у досыць складаных варунках, найперш, вядома ж, эканамічных. Творцы, у тым ліку і пісьменнікі, і іхні саюз — збядннелі. Няма таго, што раньш было, як спяваецца ў вядомай песні. А між тым не гэтак даўно мясцовыя ўлады таксама рупіліся пра “свае” творчыя арганізацыі і ўсяляк дапамагалі ім і іхнім членам. І яшчэ як дапамагалі! Нават адшуквалі магчымасць выдзяляць з раённых фондаў кватэрку таму ж пісьменніку ці мастаку. Сёння дапамога — і маральная, і найперш матэрыяльная — работнікам культуры і мастацтва тым больш патрэбна. Выбачайце, што, можа, занадта назойлівая ў гэтым плане, аднак жа: ці памятаеце вы пра гэта, Станіслаў Іосіфавіч? Ці мае райвыканкам сёння хоць нейкую магчымасць падтрымліваць “сваіх” творцаў, якім зараз, паўтару, жывецца іншым разам цяжэй, чым людзям іншых спецыяльнасцяў і занятаў?**

—Побач з “ЛіМам” месціцца Таварыства беларускай мовы, якое сёння ўзначальвае Алег Трусаў. З былым старшынёй ТБМ Генадзем Бураўкіным, нашым вядомым паэтам, мы не раз сустракаліся, гутарылі, вырашалі надзённыя праблемы. Скажам, тады, калі ўзніклі цяжкасці з аплатай арэнды за памяшканне, калі ўзнікла пагроза высялення ТБМ, мы знайшлі магчымасць дапамагчы таварыству і застацца на вуліцы Румянцава. У нашым раёне знаходзіцца і Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. На жаль, пайшоў з жыцця яго шматгадовы старшыня Арсень Мікалаевіч Ваніцкі, з якім мы кантактавалі вельмі цесна і плённа. Зараз там выконвае абавязкі старшыні Ніна Сымонаўна Іванова, і мы падтрымліваем з ёй добрыя сувязі, наша супрацоўніцтва з таварыствам не парушылася. Плённа працуем мы і з музеем З. Азгура. На яго базе часта праводзім семінары, сюды мы па традыцыі прыводзім і замежныя дэлегацыі. Маем мы і некалькі палацаў і дамоў культуры, найперш МАЗа і МТЗ, дзе мы, работнікі і супрацоўнікі адміністрацыі, часта сустракаемся з жыхарамі раёна на самых розных імпрэзах і з самае рознае нагоды. Нам не ўсё роўна, як адпачываюць, праводзяць свой вольны час людзі. У нас добрыя, падрыхтаваныя і кваліфікаваныя кадры, назаву, дзеля прыкладу, Лілію Барысаўну Сеннікаву, якая ўзначальвае аддзел культуры і да глыбіні душы захоплена сваёй справай.

**— Пісьменнікі — людзі датклівыя, тонкай душэўнай канструкцыі, скажам гэтак. Сёння іх ці не больш чым матэрыяльныя нястачы засмучаюць іншыя негатыўныя з’явы. Найперш адчуванне таго, што іхняя творчасць, іхнія творы і кнігі, урэшце і самі яны — не запатрабаваныя грамадствам. Раней пісьменнікі былі пастаяннымі гасцямі ў школах, інстытутах, заводскіх клубах і інтэрнатах, іхнія кнігі рэгулярна папаўнялі фонды самых розных бібліятэк. Як вы мяркуеце, Станіслаў Іосіфавіч, сёння не лішне было б вярнуць сёе-тое з гэтых раней апрабаваных форм узаемадачыненняў творцаў і чытачоў ці слухачоў, улады і творчых саюзаў?**

—На жаль, змянілася дзеючае заканадаўства і шмат што іншае ў нашым жыцці за апошнія гады. Пра тое ж бясплатнае колішняе жыллё... Практычна мы сёння бясплатнае жыллё выдзяляем надзвычай рэдка. Зрэшты, сёння яно называецца не бясплатнае, а — сацыяльнае жыллё. Яно строга дацыраванае, строга абумоўлена, хто на яго можа прэтэндаваць. Жыллё сёння выдзяляецца шляхам уключэння прэтэндэнтаў у жыллёва-будаўнічыя кааператывы, заключэння самых розных дамоў на долевае будаўніцтва. Я ведаю, што жыллёвыя праблемы ёсць і ў Саюзе пісьменнікаў, у іншых творчых саюзах і ўстановах, ды, на вялікі жаль, зрабіць тут што-небудзь мы бяссільныя. Маральнае заахвочванне — гэта прасцей. Яшчэ і яшчэ раз падкрэсліваю: без супрацоўніцтва з творчымі саюзамі мы не абыходзімся ні ў чым. Аднак жа праўда і ў тым, што, напэўна, апошнія гады стала менш праводзіцца творчых сустрэч, кніжных кірмашоў, іншых культурна-мастацкіх мерапрыемстваў. І гэтую справу трэба папраўляць. Безумоўна ж, пісьменнікі павінны быць частымі гасцямі ў школах і каледжах. Я пастараюся нагадаць пра гэта работнікам нашага аддзела адукацыі. Творчая інтэлігенцыя — гэта носьбіты культуры, народных традыцый, духоўнасці, і нам трэба рупіцца пра тое, каб іх кантакты з народам былі больш цеснымі.

**— А зараз давайце пагаворым пра іншае, што, безумоўна, таксама цікавіць нашых чытачоў. Наш Партызанскі раён сталіцы — не апошні сярод раёнаў па многіх, так бы мовіць, паказчыках. А канкрэтна, Станіслаў Іосіфавіч: чым ён адметны?**

—Найпершая адметнасць нашага раёна ў тым, што ён, як мы ўжо гаварылі, самы прамысловы. У нас амаль тры дзесяткі прадпрыемстваў, і сярод іх такія буйныя, як трактарны, маторны заводы, завод шасцерняў, электратэхнічны, інструментальны, гіпсавы... Згадаем “Белкамунмаш”. Сёння гэта не проста рамонтнае прадпрыемства. Ён выпускае свае беларускія тралейбусы і трамваі. Раней, за савецкім часам, трамваі мы атрымлівалі з Рыгі, тралейбусы — з Энгельса Саратаўскай вобласці. А сёння самі выпускаем гэтыя машыны, і не горшыя, а лепшыя, яны з поспехам бегаюць па вуліцах горада і радуюць нашых мінчукоў і гасцей. А яшчэ ж — завод шыпучых він, піўзавод, два малочныя заводы, кандытарская фабрыка “Слодыч”... Аб’ём прамысловай вытворчасці нашага раёна — да 28 працэнтаў вытворчага аб’ёму вытворчасці сталіцы. Апрача гэтага, у нашым раёне месцяцца і такія вядучыя ВНУ сталіцы і краіны, як Лінгвістычны універсітэт, зусім яшчэ малады Экалагічны універсітэт імя Сахарава, Вышэйшы каледж сувязі, Рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі... Раён наш стары, пасляваеннай забудовы, асабліва пасёлак трактарнага завода. Новага будаўніцтва ў нас практычна не вядзецца. У будучым годзе раён адзначыць сваё 25-годдзе — ён быў створаны ў 1977 годзе



на базе чатырох раёнаў сталіцы — Ленінскага, Савецкага, Першамайскага і Заводскага. Ну, а галоўны наш гонар — гэта людзі, перадавікі вытворчасці, інжынерна-тэхнічныя работнікі і гаспадарнікі. Шмат жыве ў нас і інтэлігенцыі, работнікаў дзяржаўнага кіраўніцтва — асабліва ў раёне вуліц Захарава і Пуліхава. Немалы ў раёне і так званы прыватны сектар — больш чым 2 тысячы домаўладанняў. Урэшце, нельга не згадаць і таго, што прамысловая база “Метрабуда” знаходзіцца ў нашым раёне, і славуты 15-ы будтрэст — таксама наш. Увесь Мінск стаіць на інжынерных сетках, узведзеных гэтым будтрэстам!

**— А чым вы самі, кіраўнік адміністрацыі раёна, найперш заклапочаны? Што складае ваш так званы “галаўны боль”?**

—Я лічу, задача і мая, і ўсёй нашай раённай адміністрацыі — стварыць нармальныя ўмовы для жыцця і працы людзей, забяспечыць іх цяплом, гарачай і халоднай вадою, электрычнасцю, стварыць неабходныя ўмовы для выхавання і вучобы дзяцей у садках і школах. Мы клапоцімся пра тое, каб жыхары раёна маглі своечасова і эфектыўна лячыцца, каб для іх быў разгорнуты шырокі спектр розных бытавых паслуг, каб былі запоўнены самым розным таварам прылаўкі крам і універмагаў. Адным словам, клопат пра людзей, іхні дабрабыт і здароўе — галоўнае!

**— З чым, з якімі просьбамі і скаргамі прыходзяць да вас людзі? З якім настроем яны часцей за ўсё пакідаюць будынак адміністрацыі, кабінеты і залу прыёму?**

—Адміністрацыя раёна — гэта самая блізкая прыступка ўлады, скажам так, куды звяртаюцца людзі. Тут павінны працаваць такія кадры, якія з разуменнем, увагай і павагай паставяцца да кожнага наведніка і ягоных праблем. Тут не павінна быць чэрствых і абыякавых чыноўнікаў. Ад таго, як сустрэнуць чалавека ў кабінетах адміністрацыі, як выслухаюць і дапамогуць, залежыць ягонае меркаванне аб уладзе. Маё патрабаванне да сябе і да падначаленых -—да людзей трэба ставіцца гэтак, як бы вы хацелі, каб ставіліся да вас. Я прымаю кожны панядзелак па папярэдніх запісах. Практыкуем мы прыёмы па асабістых пытаннях не толькі ў сценах адміністрацыі, а і па месцы жыхарства. Гэта часта раблю і я, гэта робяць і мае намеснікі. А прыходзяць людзі з самымі рознымі просьбамі і праблемамі — найперш гэта атрыманне, набыццё жылля, утрыманне дамоў і кватэр, рамонт дахаў, пад’ездаў.... Хоць жыллё пераважна і прыватызаванае, аднак жа людзі па-ранейшаму і па гэтых пытаннях ідуць да нас, і мы стараемся па магчымасці дапамагчы. Адным словам, усе пытанні і праблемы, з якімі прыходзяць да нас людзі, — нашы, і мы не застаёмся да іх глухімі.

**— Як, на ваш погляд, мяняецца наша жыццё? Ці ёсць зрух да лепшага? Калі ёсць, у чым ён праяўляецца?**

—Вядома ж, павінен быць зрух да лепшага, і ён ёсць, інакш не можа быць. Калі мы будзем таптацца на месцы і азірацца назад, то — што гэта за жыццё будзе? Мы звычайна супастаўляем цяперашняе наша становішча з 1991 годам. Калі параўноўваць, дык заўважаюцца і станоўчыя, і адмоўныя моманты. Дзякаваць Богу, людзі нашы жывуць больш-менш нармальна. Так, на трактарным заводзе сярэдні заробак — недзе за 200 тысяч. Галоўнае ж у тым, што сёння ў кожнага ёсць магчымасць праявіць свае здольнасці. І хто гэта хоча рабіць, хто імкнецца да гэтага, той і жыве досыць нармальна, нават добра. У цэлым жывём мы пакуль што небагата. Аднак жа ў нас ёсць усе магчымасці жыць з цягам часу лепш, і да гэтага трэба імкнуцца. Ніякі чужы дзядзька не зробіць для нас лепшае жыццё, рабіць яго лепшым трэба нам самім.

**— А ў якім часе мы жывём, Станіслаў Іосіфавіч? Адной нагой — у старым, савецкім, а другой — у новым, рынкавым? Як доўга можна гэтак жыць? Вы, напэўна, часта задумваецеся над такімі пытаннямі? Падставу для разваг пра гэта даюць, найперш, вашы сустрэчы з людзьмі, жыхарамі раёна. Падзяліцеся, калі ласка, гэтымі сваімі думкамі з чытачамі “ЛіМа”.**

—Адназначна, у Савецкім Саюзе мы ўжо не жывём. У многіх нашых людзей, праўда, настальгія па тым жыцці, асабліва ў людзей старэйшага веку, у нашых мацярок і бацькоў, бабуль і дзядоў, якія прайшлі праз цяжкія гады Вялікай Айчыннай вайны, хто адбудоўваў пасля яе краіну, падымаў з руінаў гарады і вёскі. Канечне ж, ім балюча, што ранейшага жыцця не стала, і іх трэба разумець... Сёння, зноў жа — адназначна, мы жывём у рынкавай эканоміцы, і вяртання назад — няма і не будзе. За дзесяць апошніх гадоў нарадзілася новае пакаленне, падраслі і падрастаюць людзі, якія думаюць зусім па-іншаму, чым мы і нашы бацькі. Мы раслі, выхоўваліся ў тым, савецкім часе, я асабіста быў і піянерам, і камсамольцам, і камуністам. Усяго таго не выкінеш. Было ў тым жыцці нямала і добрага. Лепшае з таго, што было, трэба браць на ўзбраенне і сёння. А горшае? Было, вядома ж, нямала і благога, і такога, што сёння выклікае горкую ўсмешку, іронію, здзіўленне... Хай усё яно застаецца ў сваім часе...

**— Не магу, Станіслаў Іосіфавіч, як беларуска і супрацоўніца пісьменніцкай газеты не задаць вам і такога пытання. Пытання пра нашу родную беларускую мову. Неяк гэтак сталася, што яна выціскаецца адусюль з ужытку, і з кожным годам ці не шпарчэй. Вось ужо і сталіца наша нават вонкава траціць аблічча акурат як сталіца Беларусі, з вуліц і плошчаў Мінска знікае беларуская мова. Практычна ўсе новыя шыльды і назвы крам, кавярняў, розных устаноў і арганізацый пішуцца па-руску, часта — і па-англійску, але не па-беларуску. Як вы лічыце, гэта нармальная з’ява?**

—У нас дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская. У Мінску жывуць прадстаўнікі розных народаў: беларусы і рускія, яўрэі і палякі, украінцы і татары... Таму я думаю, што гэта правільна, разумна — дзве дзяржаўныя мовы. Ёсць магчымасць карыстацца любой з іх. Назвы вуліц робяцца па-беларуску. А шыльды, вывескі? Дык гэта ўжо часта прыватныя ўстановы, ім не загадаеш. У нашым выканкаме справаводства вядзецца па-руску, гэтак нібыта прынята, але я асабліва не супраць, каб яно вялося па-беларуску. Лічу, што наша мова — і прыгожая, і сакавітая, і багатая, і мы павінны яе ведаць, берагчы і шанаваць.

**— І апошняе, Станіслаў Іосіфавіч. Перш чым падзякаваць вам за ўвагу да “ЛіМа”, за тое, што знайшлі час адказаць на рэдакцыйныя пытанні, хачу паведаміць, што 26 лютага наступнага года газета “Літаратура і мастацтва” будзе адзначаць сваё 70-годдзе. Запрашаем і вас раздзяліць з намі радасць з гэтай нагоды. А калі знойдзеце магчымасць завітаць да нас і раней, не чакаючы юбілею, паглядзець, як мы жывём і працуем, дык будзем яшчэ больш рады і ўдзячны.**

—Дзякую за запрашэнне! Абавязкова пастараюся прыйсці — і павіншаваць лімаўскі калектыў, і ўручыць падарунак!

**Інтэрв’ю правяла**
**Марыя МІХАЙЛАВА**

**P.S.** Пакуль гэтае інтэрв’ю рыхтавалася да друку, стала вядома, што Станіслаў Іосіфавіч ужо не ўзначальвае адміністрацыю Партызанскага раёна сталіцы. Ён пайшоў на павышэнне: указам Прэзідэнта краіны прызначаны старшынёй Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Віншуючы Станіслава Іосіфавіча з гэтым прызначэннем і жадаючы яму поспехаў у працы на новай пасадзе, “ЛіМ” вырашыў усё ж надрукаваць, няхай сабе і са спазненнем, інтэрв’ю з ім. Спадзяёмся, што яго з цікавасцю ўспрыме наш чытач.

ЧАСАПІС

## “От сердца — к сердцу”

**Сёлета 25 кастрычніка народнаму артысту СССР і БССР кінарэжысёру Віктару Тураву споўнілася б 65 гадоў, але ўжо прайшло пяць гадоў як Віктара Цімафеевіча не стала: цяжка хворы, пайшоў з жыцця, ледзь паспеўшы адзначыць сваё 60-годдзе. Кніга вядомага кінакрытыка і даследчыка кіно Ефрасінні Бондаравай “От сердца — к сердцу”, выпушчаная выдавецтвам “Мастацкая літаратура”, дае мажлівасць**




**перагарнуць старонкі жыцця і творчасці Майстра, які зрабіў вялікі ўклад не толькі ў беларускае, а і ў сусветнае кінамастацтва, што падмацавана і рашэннем ЮНЕСКА. У 1995 годзе, калі святкавалася 100-годдзе сусветнага кінематографа, фільм В. Турава “Праз могілкі” быў унесены ў спіслепшых ста мастацкіх стужак свету. У падачы матэрыялу Е. Бондарава прытрымліваецца храналагічнага прынцыпу, але перад намі не манаграфія ў яе звыклым разуменні. Аўтар выкарыстоўвае ўспаміны людзей, якія ведалі В. Турава, гавораць пра яго асабістае жыццё. Як свайго роду дапаўненне да асноўнай размовы ўспрымаецца дыялог яе, Ефрасінні Леанідаўны, з рэжысёрам «Трывогі і спадзяванні”, што адбыўся ў маі 1996 года за некалькі месяцаў да заўчаснай смерці В. Турава. Ці не ў самым пачатку гаворкі Е. Бондарава акцэнтуе ўвагу на тым, што імкнецца паказаць В. Турава як мага аб’ектыўней: “Не збіраючыся накласці нейкія “бялілы” на воблік чалавека, аб якім імкнуся расказаць аб’ектыўна, зазначу ўсё ж, што “жыццё ў свеце ўспамінаў” не было “адзіным” (аб чым сведчаць яго фільмы — разнастайныя па тэмах, жанрах, характары вобразнасці). І “запоі” не тое слова, што прымальна да В. Турава. Інакш ён не змог бы ствараць карціны, якія дазволілі яму заняць у беларускім кінематографе 60—80-х гадоў галоўнейшае месца. Прыхільнасці В. Турава яго саратнікі па творчасці вызначаюць так: любіў жыццё і кіно, жанчын і кіно... Без чаго ён сапраўды не мог ні жыць, ні тварыць, таму гэта любоў у розных формах яе праяўлення”. Гаворка Е. Бондаравай пра творчасць В. Турава — гэта і развагі пра тое, як ён паступова ішоў да спасціжэння мовай кінематографа беларускай літаратуры. Першыя захады ў гэтым кірунку былі зроблены тады, калі экранізаваў раманы Алеся Адамовіча “Вайна пад стрэхамі” і “Сыны ідуць у бой”. Было таксама супрацоўніцтва з В. Казько, па матывах аповесці якога “Уратуй і памілуй нас, чорны бусел” быў пастаўлены фільм “Чорны бусел”, было прачытанне “Шляхціца Завальні...” Яна Баршчэўскага, але, безумоўна, асобна ў творчасці В. Турава стаіць экранізацыя “Палескай хронікі” Івана Мележа. Аб рабоце В. Турава над фільмамі “Людзі на балоце”, “Апейка”, “Дыханне навальніцы” расказваецца падрабязна, пры гэтым Е. Бондарава засяроджвае ўвагу над тым, як адбывалася не проста прачытанне “Палескай хронікі” мовай кіно, а як В. Тураў імкнуўся перадаць на экране сам дух творчасці І. Мележа. Творчасць В. Турава разглядаецца не ізалявана, а ў кантэксце набыткаў таго пакалення кінематаграфістаў, да якога ён належаў: “Тураў ганарыўся тым, што належаў да пакалення, якое тэарэтыкі аб’ядналі агульным паняццем “Шасцідзесятнікі”. З іх “выраслі”, гаварыў ён, і “сямідзесятнікі”. Яны — гэта мы, якія пасталелі, некаторыя пазбавіліся рамантыкі, вясёлкавых спадзяванняў, але прафесійна пасталеўшыя. Не згаснуў той, хто не адмовіўся ад ідэалаў. Сам Тураў меркаваў, што менавіта гэта дазволіла яму адарвацца аб “балот” і “паляцець у неба” ў сваіх карцінах-раманах аб лёсах народных, аб Радзіме — “Час яе сыноў” і “Палеская хроніка”. А ідэалы “шасцідзесятнікаў” да таго “выплеснуліся” ў аповесцях-споведзях “Праз могілкі” і “Я родам з дзяцінства”. Кніга “От сердца — к сердцу” напісана з вялікай любоўю да Майстра, з глыбокім разуменнем яго творчасці. Прачытаўшы яе, застаешся ўдзячным аўтару за такую зацікаўленую і шчырую гаворку.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ЮБІЛЕЙ

# Абпаленыя крылы лёсу

Я толькі збіраўся цытаваць той жарліва трапяткі па змесце і такі будзённы фразеалагічна ліст, пачаў гартаць адпаведную кнігу, а сам ужо паўтараў на памяць першыя радкі, што выбеглі некалі з-пад пяра Паэта. Паштовы зварот хворага сына да бацькі. Звесткі пра лячэнне. Падрабязнасці доктарскага дыягназу. Скарга на тое, што неўзабаве там. адкуль гэты ліст пішацца, распачнецца крымская гарачыня і трэ было б з’ехаць куды-небудзь з Ялты, ды ў такім стане здароўя хіба паедзеш...

“Стары верабей, маладому вераб’ю блага...”

Чаму гэты зварот Максіма Багдановіча да бацькі ўрэзаўся ў тваю памяць адразу і ты паўтараеш яго нібы пачатак верша?.. І ўвесь гэты ліст да Адама Ягоравіча больш падобны на развітальнае слова. На апошняе слова напярэдадні долі немінучай. І гэта пры ўсіх вонкавых прыкметах звычайнай манеры ў перапісцы родных людзей, калі і пра самае балючае стараюцца сказаць як мага далікатней, аднак трывога ўсё ж такі прабіваецца праз самыя, здавалася б, загадзя ўзважаныя лагодныя сказы.... Ды вось імя “маладога вераб’я”, што маланкавай успышкай зарніцы кідае нейкае абноўленае святло на паштовае паведамленне адрасанта.

Адрасант — Максім Багдановіч!

І таму, чытаючы альбо ўспамінаючы гэты жартаўліва-трагічны зварот — “Стары верабей, маладому вераб’ю блага...” — у цябе... Магчыма, тое тлумачыцца ўзростам, бо ў пажылых людзей развіваецца, можа, і зусім недарэчная сентыментальнасць, але ў мяне асабіста бывае, камяк слёз падступае да горла, калі перада мною тыя словы: “...маладому вераб’ю — блага...”

Адчуваеш, што надзвычай чулы і вытанчана тактоўны дваццацішасцігадовы Максім Адамавіч гэтым лістом развітваецца не адно толькі з адрасатам, з бацькам, прыватныя адносіны з якім былі даволі складаныя. То развітанне і з паўнамоцным прадстаўніком тае культуры... таго народа... той краіны, якой адданы дарэшты ён, хворы на сухоты выхаванец юрыдычнага ліцэя і звычайны клерк у Мінскай гарадской харчовай камісіі; ён — паэт з божай ласкі. Паэт з вялікай літары. Жорсткі лёс, ды так наканавана яму было развітацца з Радзімай. Удалечыні ад бацькоўскага краю У белым доме ля сіняй бухты... у краіне светлай...

Загнаны ў падтэкст трагізм, якім працінаецца Максімаў ліст да бацькі, адчуваеш больш востра, калі ведаеш, што ён зрабіўся яўным праз якое паўгоддзе пасля надта ж сціплага святкавання ў заснежаным Мінску Максімавага дня нараджэння. І рыпучыя гурбы ўздоўж іскрытай ад зіхатлівых махроў інею на тапалёвай алеі ўздоўж Падгорнай вуліцы... і па-сонечнаму залатыя ў мроіве сняжынах ліхтары на Аляксандраўскім скверы... па-свойму зладжаны спеў званоў, што рэхам перагукаецца ад Петрапаўлаўскага кафедральнага сабора ды Марыінскага касцёла на Саборным пляцы ажно да Залатагорскага касцёла Святога Роха. І гэтыя ружовашчокія ад марознай сцюжы сябры і сяброўкі, што гарэзліва, заліваючыся смехам, шпурляюць у віноўніка вясёлай урачыстасці рассыпістымі снежкамі... Хай адчувалася ўсімі тады падспуднае прадвесце непазбежна блізкай ростані, нешматлюдны кампанейскі гурт спяваў асанну ў гонар “Адамыча”, раз-пораз устаўляючы ў свае віншаванні і радок з ягоных вершаў. Маўляў, вакол вас кветкі прыгожа красуюць, вам сіняй галоўкай ківае наш родны, забыты ў цяні васілёк... каб хвалявалася жыццё, каб больш разгону ў ім было, каб цераз край душы чуццё не раз, не два пайшло...

Шолахам буслінага крыла быў незабыўны дотык одуму Максіма Адамавіча: я — дома. Узбаламучаны вайной, мітынгоўшчынай пераваротаў і гэтым бежанствам бядотных і асірацелых людзей родны край тутатка, у правінцыяльна зацішным усё ж Мінску, абнадзейваў... суцяшаў... абуджаў мроі... “Маладыя гады, маладыя жаданні...”

І вось — Ялта. Апошні прытулак. У краіне светлай... Ён скажа пра яе рашуча і канчаткова — як прысуд: “дзе я ўміраю...” У лісце бацьку не дазволіць сабе нават намёкам вымавіць тое, а самому сабе адкрыта: я — паміраю...

Не, сам ён ніколі таго, аб чым я вяду гаворку, не сказаў бы, а нам дазволена заместа Багдановіча даўмецца да грэшнай, але хваравіта патрэбнай высновы: ты, смерць, дурніца, калі забіраеш ад нас такога чалавека, такі талент, такога генія. Дурніца яшчэ і таму, што Максім Багдановіч з адзінай выдадзенай пры яго жыцці кніжачкай вершаў сустрэў цябе ля сіняй ялцінскай бухты Бессмяротным ужо. Прынамсі, Бессмяротным да тае пары, “пока в подлунном мире жив будет хоть один пиит” (Пушкін).

(Мушу ў дужках зазначыць наступную акалічнасць. У сваіх цяперашніх нататках я наўмысна буду паўтараць некаторыя азбучныя ісціны і даўно зробленыя высновы, звязаныя з праблематыкай жыцця і творчасці М. Багдановіча, вось з якой прычыны. Зусім нядаўна нечаканая маркота прывяла мяне ў Купалаўскі сквер, туды — бліжэй да Опернага, у засень надта прыгожа ўбраных ва ўсе колеры восеньскага золата тутэйшых дрэў. І постаць Паэта на невысокім п’едэстале прыгожым абрысам цямнела пад беласнежнымі воблакамі ў хмураватым небе. Настрой не дужа... От сабе журыцца без дай прычыны — і ўсё тут! Бывае. Здалёк блазенскім зямным паклонам вітае мяне... Хто гэта? Ага, даўні знаёмы. М-да, паэтам я не назваў бы яго, хутчэй — вершаскладальнік. Версіфікатар — і нават не благі. Асабліва ў жанры пародый ды эпіграм.

Падсеў да мяне.

Ад яго я і пачуў тое, што вымушае мяне зноў і зноў вяртацца да, здаецца, канчаткова вырашаных пытанняў. Асыпаў ён мяне з галавы да ног сваімі з’едлівымі пародыямі — “з патэльні, гарачанькія” — на ўласных сабрацціяў па вершаскладальніцкім рамястве. Дзіўна зняважлівым кіўком звярнуўся да аддаленай ад нас фігуры Паэта. Замахнуўся на эпіграму, ды схамянуўся і насмешліва паправіў самога сябе: маўляў, вось А-дамыч... “выдаў вунь такусенькі зборнічак...” — ён адмераў аб’ём “Вянка”, таго — з друкарні пана Марціна Кухты. “Аб’ём — на мезены палец. І таўшчынёй не назавеш”, — не супакойваўся наш іраніст з вершаплётаў.

Ну што я буду вам даваць аповед нашай зусім недарэчнай спрэчкі?! Нагадваю тое не для таго, каб сказаць пра вечных зайздроснікаў, якія гатовы раскрыжаваць любога літаратурнага Гулівера толькі таму, што ён прымушае іх завіхацца на сваіх ліліпуцкіх аблогах недзе каля ягоных батфортаў. Балюча іншае. Нават сярод гэтых нашых... адукаванцаў, ці што... людзей, як той казаў, пі-шу-чых... сустракаюцца па-дзікунску глухія да тае беларускай духоўнай велічы, увасабленнем якой з’яўляецца Максім Адамавіч Багдановіч... Цяпер закрываю дужкі).

Але, у Багдановіча нават у недапісаных дарэшты эцюдах і накідах усё зроблена настолькі дасканала, што ты зусім забываеш пра зробленасць вершаванай альбо празаічнай мовы, пра паэтычную аздобу і іншыя выразныя сродкі і толькі адчуваеш сардэчную пакору перад боскімі і адначасова такімі чалавечнымі думкамі... метафарычнымі зваротамі... вобразнай сімволікай... Карацей кажучы, перад тым паэтычным, што ва ўсім яго харастве могуць і ацаніць толькі паэтычныя натуры. “Пока... жив хоть один поэт”!

Пасля пушкінскіх слоў дазвольце спаслацца яшчэ на Мікалая Бярдзяева: “Смерць — самы глыбокі і самы значны факт жыцця, які ўзвышае і апошняга з нас, смертных, над звыкласцю і пошлай трывіяльнасцю жыцця”. Звернем увагу на ўзвышэнне “самага апошняга са смертных”. Што ж датычыцца асобаў маштабу Багдановіча, то спыненне зямной жыццядзейнасці заспявае іх на парозе Вечнасці. Ды толькі і на гэтым парозе паэтычная натура не можа не думаць — адкрыта або ў падсвядомасці — пра тое, чаго ён не паспеў і не здолеў зрабіць... напісаць... стварыць... адлюстраваць... якім уражанням не даў вобразнай красы... аб чым са зразуметага не праспяваў... не пракрычаў... не прашаптаў нават...

Сапраўды, што такое дваццаць шэсць гадоў? Калі б то быў рубеж для мастака немінучы, то якое багацце хараства ў мастацтве страціла б наша грамадства! У эпічнай паэзіі, да прыкладу, не было б паэмы “Эдэм” Змітрака Астапенкі; у прозе — “Палескай хронікі” Івана Мележа; у тэатры — геніяльна сыграных Глебам Глебавым Пранцыся Пустарэвіча, мальераўскага Скупога і кранальна смешнага Тулягі; у музыцы — непаўторнай красы “Раманса для кларнета, скрыпкі і фартэпіяна” Аляксея Туранкова; у драматургіі — камедыі “Хто смяецца апошнім” і “Брама неўміручасці” Кандрата Крапівы; у лірычнай паэзіі — пысінскай споведзі “Забыта многае ў жыцці, З дарогі змецена і змыта. Мне ў жыта хочацца ўвайсці, Мне вечнасцю здаецца жыта”, споведзі, на якую адзываецца тваё сэрца, колькі той верш ні перачытвай...

Што падараваў бы нам Максім Багдановіч, калі б... Ах, “калі б”, “калі б”! Магчыма, і ён у тыя адзінокія дні і ночы ў Ялце на сваёй смертнай пасцелі думаў аб тым жа. Пра няздзейсненае ім, паэтам Максімам Багдановічам, і чаго ўжо не зробіць у паэзіі ніхто. Бо талент — гэта адзіны ў сваім родзе дар, які ўпотай даецца індывіду воляй Гасподняй. Таленавіты — гэта здольны абсалютна асабіста... уласным тэмпераментам — сваім “я” — бачыць і ўспрымаць яву. Сучаснае наваколле. Сусвет. Кожную сцяблінy ў алешніку і ўсякую краску на лугавіне. Слязу ў вачах дзіцяці і пераможную сілу ў мужчынскім “Маю гонар!”.

Менавіта такі дар быў выдзелены Максіму Багдановічу. І вось жа не адно пакаленне закаханых перажывае самыя шчаслівыя хвіліны, калі адчувае сугучча сваёй душы з “Зоркай Венерай”, радкі якой нібы ў сваім зародку былі спеўнымі, пранікнёныя лірычнай рамансавасцю. І не дзіва, што “Зорка...” палоніць... зачароўвае... і дасведчанага ў галіне паэтычнага слова гурмана і далёкага ад гэтага слова аматара рознай чытаніны, і ўвогуле неафіта, які ўпершыню далучаецца да беларускай паэзіі, і навічка чыстай непасрэднасці ў сустрэчы з мастацкім хараством.

Некалі сам Багдановіч, захоплены творчай веліччу паэта, які таксама, як і Максім Адамавіч, загінуў на парозе свайго дваццацісямігоддзя, гаварыў пра Лермантава ці не малітоўна: “У тых рэчах, якія ён паспеў...."

Чуеце?

“...паспеў зрабіць, ёсць шмат такога, што стала радасцю жыцця для вельмі многіх людзей”. У гэтым водгуку на лермантаўскую дужасць паэзіі верша можна ўгадаць і вельмі важнае Багдановічава крэда: мастацкі твор прызваны дарыць радасць эстэтычнага і інтэлектуальнага стасункаў чытача



з адлюстраваным хараством і драматызмам жыцця.

Мне здаецца, што Багдановіч пагадзіўся б з даволі арыгінальным вызначэннем самой паэзіі, зробленым некім парадаксалістам: свет паэтычнага слова — гэта фантастычны сад, у якім водзяцца свае жабы і рэптыліі. Знаўцы Багдановіча не забываюць пра даволі палемічны адказ паэта аматарам “чыстага мастацтва дзеля мастацтва”, што абсалютызуюць “дзіўныя вершы” паэта, душа якога “нябесным агнём абагрэта”: ён дзякуе ягамосцю за гэткія прамовы і хоча запэўніць усіх, што і яго, Багдановіча, душа была бы шчаслівай, “калі б я не ведаў, панове, што пекна спяваюць і жабы”. Колькі паламана коп’яў тлумачальнікамі верша “Вы кажаце мне...”, які датуецца, дарэчы, наступным чынам: 1909—1912 гг. Дзве гэтыя страфы выношваліся, пісаліся і чаканіліся на працягу трох гадоў. Значыцца, іх сутнасць хвалявала Багдановіча не на жарты! І я схільны да таго меркавання, якое выводзіць з гэтых Багдановічавых радкоў важную для яго думку пра арганічную знітаванасць паэта з зямлёй, з рэчаіснасцю ва ўсёй яе супярэчлівай блытаніне, разам з агіднымі праявамі і істотамі. Паэт нязмушана спявае, як тое дадзена рабіць любому жывому стварэнню. Спяваецца — дый годзе!

Зразумела, думаючы аб тым, што невядомае нам узбагаціла б нашу літаратуру, калі б такі пісьменнік займаўся творчасцю яшчэ дзесяць... дваццаць... нават і пяцьдзесят гадоў, мы стараемся суаднесці сваё ўмоўнае ўяўленне пра магчымыя... пра “напісаныя М. Б. пасля яго адыходу ад нас”... з найбольш каштоўнымі і важнымі для нас з таго, што зроблена Багдановічам, з яго спадчыны. Выбар тут багаты. Публіцыстычная пропаведзь і традыцыйна-спавядальная лірыка, блізкі да балады аповед у вершах і жанравая замалёўка, паэтычны роздум пра месца і ролю мастацтва ў гісторыі і зусім інтымнае, бадай, мімавольна выказанае летуценне або жаданне. Мастак абвострана нацыянальнай свядомасці і пачуцця, ён дае ўзоры вышэйшага майстэрства, калі верш і сапраўды гэта “найлепшыя словы ў найлепшым спалучэнні” (Колрыдж).

А якое багацце метрыкі і самае формы верша — ад фальклорнай стылізацыі да рафініраванага санета, побач з баладай — трыялет альбо рандо, тэрцыны і актава... Гармонія змястоўнага хараства і адточанай тэхнікі паэтычнага слова Багдановіча дае падставу нашым сучаснікам і на пачатку новага — дваццаць першага — стагоддзя сцвярджаць, што ягоная творчасць мае працягненасць у наш час і яшчэ далей — у будучыню. Гэта трапна было заўважана ўдумлівым Міхасём Стральцовым, які аддаў шмат сіл дзеля разгадкі таго, што завецца — “Загадка Багдановіча”.

І ўмоўна магчымая яго творасць, ...тое мажлівае і, на жаль, незваротна страчанае багацце, пра якое я тут кажу, таксама ж нешта таемнае... я сказаў бы, містычнае... прывіднае... Мой роздум пра тое, аб чым гаварыў бы, пра што пісаў Максім Адамавіч, скажам, дажыўшы да сярэдзіны мінулага веку ці да мяжы цяперашняга, пачынаецца з аднаго пытання, мабыць, і больш публіцыстычнага накірунку, чым эстэтычнага. Праўда сягонняшняе маё меркаванне наконт гэтага — незваротна страчанага — усё ж падобна на новае пытанне да вечнага Паэтава "Я".

Чаму менавіта да Паэтава? Ці ж бяднейшыя на веды філосафы і палітолагі, мудрацы і пракокі! Не, не бяднейшыя. Паэтычны геній такога значэння, як на Беларусі Максім Багдановіч, чэрпае сваю сілу ў сваёй адзіноце, і з гэтай адзіноты звяртае свой погляд і абуджае роздум у непарыўнай знітаванасці з усім зямным... рэальным... рэчаісным... І — з Красою. З Хараством. Па-руску кажучы, Прекрасным. І тады, калі такі паэт, прапаведуе пэўныя ідэі альбо ўпадае ў разумовую разважнасць, ён ва ўсім Адметным і ва ўсім Агульным не выпускае з-пад увагі таго, што мае адно імя — Краса. Няма чаго спрачацца, Паэт свядома ці не, але разам з намі, грэшнымі, шукае вышэйшую дабрыню жыцця і справядлівую ісціну ў глыбінях назапашаных чалавецтвам ведаў і ў рознагалоссі цяперашніх красамоўных лідэраў ды так званай эліты. У мітусні ментальных штодзённых спраў і ў змрочных лабірынтах мінулага.

Разам з намі, грэшнымі... Ды ў адрозненне ад нас Паэт, мы гаворым пра Багдановіча, як звер у глухіх нетрах ці ў начным змроку інстынктам чуе небяспечную пагрозу, усёй істотай свайго духу прадчувае набліжэнне далёкага... шукаемага намі ўсімі... чаканага і патрэбнага сэнсу. Або набліжае да нас жаданую намі ісціну.

Я разумею, што зайшоў у сваіх развагах да абстрактных меркаванняў. А гэты занятак — не мая, зрэшты, справа. Мяне здавён цікавіць, так бы мовіць, выток... гучанне тады і цяпер... месца аднаго верша Багдановіча, які на першы погляд здаецца аддаленым ад тае Красы, што з'яўляецца неад'емнай ад Паэтава светаадчування. Падкрэслю: на першы погляд.

Аднак бліжэй да мэты нашае размовы.

Я кажу пра права Паэта на адкрыты і сумленны, на смелы ўчынак: ён вядзе размову... вінаваціць у нечым... ухваляе нешта і захапляецца нечым... тлумачыць сваё разуменне надзённага... ён звяртаецца і гаворыць з н а р о д а м "З цэлым народам гутарку весці", — якая высакародная місія! Звяртацца да н а ц ы і ад імя нібыта аднаго толькі свайго "я", Асабістага. "Я" — як адзінкі ў асяроддзі супольнікаў-спаўбацькавічаў.

Прозвішча "Багдановіч" — сімвалічнае. "Богам дан" беларусам такі спаўбацькавіч. І такое яшчэ адценне: яму, Паэту, Богам дадзены талент. Богам дадзенае права казаць на ўвесь голас пра набалелае.

***Народ! Беларускі Народ!***
***Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.***
***Табою ўсягды пагарджалі,***
***Цябе не пушчалі з ярма***
***І душу тваю абакралі, —***
***Ў ёй нават мовы няма...***

Паставіўшы вялікія "Н" і "Б" у звароце да народа, аўтар рашуча выказаў сваю павагу і нат любоў да яго, да ўсіх ліцвінаў, крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў, да свядомых беларусаў і да тутэйшага люду ўвогуле. Нашчадкі Вялікага Княства Літоўскага, насельнікі этнічных межаў Беларусі да пачатку XX стагоддзя жылі марай... спадзяваннямі... верай... расчараваннямі... адчаем прыстасаванства адных і ахвярнай вернасцю ідэалам нацыянальнай дзяржаўнасці іншых. І вось паэт з бяздомных вандроўнікаў, які мог бы з аднолькавым поспехам п і с а ц ь свае творы на любой з усходнеславянскіх моў, па загадзе свайго сэрца г а в о р ы ц ь люду т а к о е: "...сляпы, быццам крот..."

Вы скажаце, нібы адрасат тут пэўны — у межах Расійскай Імперыі сапраўды большасць жыхароў была альбо зусім непісьменнымі, альбо "асветленай" тае праграмай навучання, што завецца "царкоўнапрыходскай". Большасць — бяспраўных і прыгнечаных. Ачмурэлыя ад усялякіх прымхаў і забабонаў. І калі з гэтага асяроддзя вылучаўся апостал нацыянальнай ідэі... прарок будучыні... важак узбунтаваных касінераў, то ўсё адно пясняр мусіў заклікаць змагароў: "Крыкі пужлівых людзей Не стрымаюць хай бітвы размах", бо нясцерпна бачыць навокал "столькі нуды без патолі", столькі кпрыўды і пакоры, столькі абразы, як то выпадае беларусам. У паэта ёсць усе падставы т а к абагульняць тадышнія грамадскія трывогі і заклапочанасць.

Ваш апанент можа запярэчыць вам. "Быццам крот..." Гэта пра каго? Пра той люд, што даў не адно беларусам, а ўсяму чалавецтву такіх адраджэнцаў, як Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі, Сымон Будны... Што ўзводзіў непаўторнае красы замкі — Навагрудскі, Мірскі, Лідскі, Крэўскі... Што аднымі толькі слуцкімі паясамі зачароўвае любога знаўцу ўсіх унікаў сусветнага рукадзельнага мастацтва...

Зірнём на дату напісання верша — 1913 год. Распаўсюджваюцца ўжо як паэтычныя пракламацыі і "Хрэст на свабоду" Цёткі, і "Мужык" з "Песняй маёй" і "Ворагам Беларусі" Янкі Купалы. Ігнат Буйніцкі ладзіць Першую тэатральную трупу, што папярэднічала стварэнню прафесійнага нацыянальнага тэатра. А "Наша Ніва", сярод энтузіястаў і аўтараў якой быў і М. Багдановіч, робіцца своеасаблівым агменем інтэлектуальнай і духоўнай дужасці беларусаў... Такіх фактаў неабвержнага станаўлення і пасталення беларускага грамадства наш дыспутант будзе прыводзіць шмат, каб зноў перапытаць вас: "Быццам крот?!"

А хто іншы наогул будзе ці не ў роспачы даводзіць, што гісторыя на працягу ўсяго мінулага стагоддзя так і не змяніла нічога істотнага ў сапраўднай рэчаіснасці, каб Багдановічаў зварот "Народ! Беларускі Народ!", якім ён прагучаў дзевяноста гадоў таму, набыў бы цяпер архаічнае значэнне "на тэмы мінуўшчыны". Бо і сёння...

Разгарніце сёлетні восьмы нумар "Полымя": верш нядаўна памерлага Максіма Лужаніна (узростам — амаль равеснік веку) "Адказ не ў паветра". З якім высакародным гневам адказвае паэт на прапанову яму нейкага дабрахота загаварыць "на общепринятом языке" і адцурацца тае, што ёсць матчынай... "З нашай мовай... Жыць давеку прызначыў лёс, не змяню нават на арамейскую, хоць на ёй размаўляў Хрыстос". Гэта ж імператыў нашага сучасніка!

І ў такога жаласніка знойдзецца свой спрачальнік. Будзе гнуць сваё. Хай, маўляў, і пры дзіўным і далёка не для ўсіх прыдатным, не для ўсіх дапушчальным дзяржаўным двухмоўным статусе, але на ёй, на роднай, на матчынай мове можна цяпер у суверэннай Рэспубліцы Беларусь вучыцца ў школе, ліцэі або гімназіі... можна выступаць з прамовамі і рэплікамі з высокіх кафедраў і на дзяржаўных урачыстасцях... выдаваць энцыклапедычныя даведнікі і дзіцячы лемантар... На тэатральнай сцэне перад вамі ажывае "Князь Вітаўт" і "Чорная панна Нясвіжа", нават і балет танцуе "Страсці па Рагнедзе"... Імёны беларусаў пазначаны ў спісе першых заваёўнікаў касмічнай прасторы... І ўвогуле "не называйце маю рэспубліку краінай балот і лясоў...".

Але, той народ, якога на пачатку нашага веку са справядлівым палемічным запалам... у адкрыта публіцыстычных радках... пад уражаннем зусім канкрэтных гістарычных варункаў... Паэт быў вымушаны параўнаць са сляпым... Той народ сёння ўжо і не зусім "той". Га? Якія віхуры з сярэдзіны, з сарцавіны Беларусі і з навакольнага свету віравалі на крывіцкіх землях і тое накладае свой адбітак на людскім мысленні і поглядах, змяняючы веру на бязвер'е (і наадварот) і спадзяванні на бязвольную роспач як асобнага чалавека, так і грамадства ўвогуле.

Канешне, хтосьці яшчэ дадасць, быццам роспачлівым і пазбаўленым веры ў лепшую долю не было б чаго абмяркоўваць глабальныя праблемы на сесіях ААН. Не было б месца для Беларусі і ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Ці ж "краты" маглі б праславіцца ў свеце талентамі Васіля Быкава і Міхаіла Савіцкага, Платона Цясэвіча і Міхаіла Забэйды-Суміцкага (бас і тэнар з Беларусі спявалі на лепшых сцэнах Еўропы, захапляючы самых патрабавальных слухачоў, у тым ліку і італійскіх меламанаў)...

Я спрабую абазначыць тое рознагалоссе, што пануе, як вядома, і сёння ў галовах цяперашніх палітычных дзеячаў і звычайных тутэйшых насельнікаў. Не аціхаюць гарачыя спрэчкі нават пра самыя ўстойлівыя ў іншых цывілізаваных краінах атрыбуты дзяржаўнай улады — пра гімн Рэспублікі Беларусь, пра сцяг, пра герб. Хочаш не хочаш, але і ў гэтым рознагалоссі аргументы Максіма Багдановіча гучаць надта надзённа.

Помню, яшчэ ў "савецкія часы" працаваў я ў Доме творчасці імя А. П. Чэхава ў Ялце. Па суседстве займаў пакой Міхась Машара — гарбацеў над празаічнай трылогіяй пра змаганне так званых Крэсаў супроць прымусовай паланізацыі. Мы пакланіліся ўсім ялцінскім мясцінам, адзначаным імем Багдановіча. Надта радавала нас, што замест валошак, якіх не знайшлі нават у раскошнай аранжарэі, паклалі на надгробны камень Паэта ў Аўтцы вельмі падобныя на васількі кветкі цыкорыю. Дадалі асляпляльнай прыгажосці гронкі гліцыніяў. Навокал квітнела японская вішня-сакура. Белае з ружовым. Машара задуменна прамовіў нешта пра белружова-белы колер... бел-чырвона-белы.... Маўляў, Максіму Адамавічу то было б па душы... Я тады і думаць не падумаў, што меў ён на ўвазе, гаворачы пра ружовы з пераходам у чырвань колер, пра кветкавае бел-чырвона-белае хараство. Сорамна цяпер у гэтым прызнавацца, ды Машараў намёк пра суквецце Грунвальдскага Рэха не дайшоў да мяне пад шум вадаспаду Учан-Су і пасля таго як былі прадэкламаваны хрэстаматыйна вядомыя радкі "У белай пене праносяцца коні, — Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць... Старадаўняй Літоўскай Пагоні Не разбіць, не спыніць, не стрымаць..."

Мабыць, такі немудрагелісты эпізод з побыту літаратараў таксама можа засведчыць нешта істотнае для лёсу Слова Паэта.

З намі ягоны Дух.

*(Заканчэнне на стар. 12)*

# Паэты — паны па-над панамі

## ТЭМА КАХАННЯ Ў ТВОРЧАСЦІ Максіма БАГДАНОВІЧА і Тараса ШАЎЧЭНКІ

Сувязь імёнаў Максіма Багдановіча і Тараса Шаўчэнкі неаднаразова прыцягвала даследчыцкую ўвагу. Тычылася яна пераважна таго аспекту гэтай шырокай праблемы, што звязаны з аналізам вядомых крытычных артыкулаў беларускага паэта пра Кабзара: "Краса и сила", "Памяти Т. Г. Шевченко". Спасціжэнне Багдановічам мастацкага генія Шаўчэнкі трансфармавалася не толькі ў грунтоўны аналіз ягонай паэзіі, аднак, што натуральна, плённа спалучылася з уласнай творчай інтуіцыяй беларускага паэта. Гэта праявілася ў перакладчыцкім майстэрстве М. Багдановіча (ён пераклаў на рускую мову вершы "В неволе", "И серое небо, и сонные воды...", "Готово! Парус распустили..." і інш.) і, безумоўна, паўплывала на развіццё яго мастацкай індывідуальнасці. Увогуле, у распараджэнні Багдановіча была найбагацейшая палітра сусветнай паэзіі, праз арыентацыю на яе шэдэўры складваліся мастацка-эстэтычныя прынцыпы маладога паэта на такой трывалай культурнай глебе развіваліся народнасць, дэмакратызм ягонай творчасці. І, трэба адзначыць, у гэтай шматстайнай палітры імя Шаўчэнкі займае адметнае месца. Багдановіч пісаў: "В лице его (Шаўчэнкі. — **Ж. Ш.**) мы имеем прежде всего "Божиею милостию — поэта". Чей стих был полон изящной простоты, поэта, который в формах строго национальных выявил общечеловеческое содержание, заставляя читателя переживать целую гамму самых разнообразных чувств, начиная от страстного гнева и негодования и кончая чувствами любви и всепрощения".

Можна канстатаваць тыпалагічную блізкасць твораў Максіма Багдановіча і Тараса Шаўчэнкі, якая праяўляецца на ўзроўні іх ідэйна-вобразнай структуры пры распрацоўцы некаторых устойлівых матываў (асабліва народна-песеннага характару). Адным з такіх блізкіх, падобных, агульных матываў можна лічыць матыў адзінокага, непадзеленага, нешчаслівага кахання.

Вядома, што ў "Вянку паэтычнай спадчыны" праектаванага зборніка "Палын-трава" ды цыкла вершаў пра Аню Максімам Багдановічам прыводзяцца два эпіграфы, адзін з якіх з "Думкі" Тараса Шаўчэнкі:

***Одну сльозу з очей карих***
***І — пан над панами!***

Безумоўна, скарыстанне гэтага эпіграфа не было выпадковасцю для М. Багдановіча. Зварот да Шаўчэнкі ўтварае за сабой цэлы ланцужок невыпадковых супадзенняў і лагічна-заканамернай тоеснасці ў распрацоўцы любоўна-псіхалагічнай тэматыкі. Глыбей зразумець і патлумачыць гэтую сувязь можна ў кантэксце ўласных лёсаў паэтаў, падабенствам некаторых важных момантаў: гэта і ізаляцыя ад роднага краю, адзінота, выпакутаванае, але непадзеленае, непрынятае каханне.

Падкрэслены ў эпіграфе і скразны для творчасці Шаўчэнкі вобраз карых вачэй актыўна ўжываецца і развіваецца Багдановічам: цёмныя, цёмна-карыя вочы. І справа тут, мусіць, не ў выпадковым супадзенні колеру, а ў глыбінным сімвалічным змесце гэтага ёмістага вобраза. Ён нясе ў сабе не столькі апісальную, але, найперш, ацэначную функцыю, якая раскрывае цэлы комплекс бясконца прыгожых і таямнічых, загадкава прыцягальных і чароўных якасцей жаночай натуры, трагічна наканаваную ролю жанчыны ў лёсах паэтаў.

Карыя вочы каханай ў Тараса Шаўчэнкі поўныя жывой, гарачай страсці, зямнога агню:

***І тими очима,***
***Аж чорними — голубими,***
***І досі чаруєш***
***Людські душі...***

Цёмныя вочы ў вершах Максіма Багдановіча месцяць у сабе ірацыянальнасць, містычнасць, невыпадкова ён параўноўвае іх з далёкімі, цёмнымі зорамі. У іх непераадольнай далечыні, аддаленасці растварaецца, знікае, губляецца каханне, саступаючы месца спакойнай развaжлівасці і далікатнай абачлівасці.

***Цемнавокая пані, сябе***
***Я на гэтым агні не спалю:***
***Шмат на свеце ёсць розных агнёў,***
***Усе яны вабяць душу маю.***

Аднак імкненне падпарадкаваць сардэчны боль жыццёвай мэтазгоднасці перапыняе падсвядомае трызненне пра каханую, якое выдае сапраўдны стан паэтавай душы.

***Толькі чаму ж гэта ў ночы глыбокія,***
***Даўшы спачынак стамлёным вачам,***
***Я шапачу цераз сны адзінокія:***
***"Аня... мая... нікаму не аддам".***

Прыведзены вышэй эпіграф вельмі выразна выяўляе асноўны, устойлівы матыў лірычных вершаў паэтаў. Звязаны з жаданнем знайсці шчасце ўзаемнага кахання, якое духоўна пераўвасабляе чалавека, узвышае над любымі неспрыяльнымі абставінамі і выпрабаваннямі лёсу. Мастакамі ў самых розных варыяцыях настойліва развіваецца думка аб выключнай ролі жанчыны, дзякуючы каханню, спагадлівасці, разуменню якой магчыма паўната жыццёвай і духоўна-творчай самарэалізацыі. Страсць у іх вершах набывае рысы ідэальныя, трансфармуючы зямныя вобразы ў дасканалыя, велічныя, боскія формы ("Марыя", "Муза", Шаўчэнкі, "Мадонны" Багдановіча).

Такое глыбока ўсвядомленае абагаўленне жанчыны ўвасабляе асаблівасці нацыянальнай ментальнасці, у якой жанчына з'яўляецца сімвалам велічнай прыгажосці, ахвярнасці і выратавання. Украінскія даследчыкі адзначаюць: "У такім частым звяртанні да гэтай тэмы, у шаноўным стаўленні да жанчыны ды абагаўленні жанчыны-маці Шаўчэнка ўвасобіў асаблівасці душы ўкраінскага народа. Са старажытных часоў нашы продкі, якіх называлі арачамі, займаючыся земляробствам, і стварылі сабе культ Маці-Зямлі (В. Пахарэнка), што пасля перарасло абагаўленне жанчыны, маці, а здзек над ёю лічыўся вялікім грахом. Аб гэтым сведчаць шматлікія абрадава-каляндарныя дзеі, што прыйшлі да нас з глыбіні вякоў, а таксама народныя песні, легенды, пераказы.

Глыбокія карані мае культ маці-зямлі ў беларускім фальклоры, адсюль і бярэ пачатак трывалая традыцыя выяўлення вобраза жанчыны ў айчыннай літаратуры, яго далучанасць да вышэйшых, духоўных сфер быцця ("Бандароўна" Купалы, Ганна з "Сымона-музыкі" Я. Коласа, "Вераніка" Багдановіча і г.д.). Моцны ідэальны пачатак гэтых мастацкіх вобразаў сцвярджае рэальнасць, жыццяіснасць, праяўляецца ў духоўнай і фізічнай велічы і прыгажосці гераінь.

Тарас Шаўчэнка змяшчае жанчыну ў цэнтры быцця: яна — яго вызначальная субстанцыя, а каханне не толькі працягвае жыццё, але і выратоўвае ад крызісу адзіноты, які так абвострана адчуў паэт у свае апошнія гады:

***Минули літа молодії,***
***Холодным вітром од надії***
***Уже павіяло. Зима!***
***Сиди один в холодній хаті,***
***Нема з ким тихо розмовляти,***
***Ані порадись. Нема!***
***Анікогісінько. — Нема!***

Нешчаслівы асабісты лёс не знясільвае, не робіць пакрыўджаным на ўвесь свет і не спустошвае паэта, наадварот, магутная страсць скіроўвае ўсе духоўныя і фізічныя сілы на актыўны пошук вышэйшага сэнсу жыцця, спасціжэнне гарманічнага ідэалу, які настойліва і адназначна звязваецца з універсальным пачуццём любові. У сцвярджэнні самадастатковасці жанчыны і яе кахання ў вырашэнні быційных праблем Тарас Шаўчэнка імкнецца да абсалюту. Таму каханне выступае спрадвечным гарманізуючым чыннікам у жыццёвым хаосе.

***Мені ж, мій боже, на землі***
***Подай любов, сердечний рай!***
***І більш нічого не давай!***

На думку многіх даследчыкаў, у Максіма Багдановіча пад уплывам складаных жыццёвых абставін тэма інтымнага шчасця адыходзіць на другі план. Больш таго, паэт абыгрывае яе ўжо ў сатырычным плане (паэма "Мушка-зелянушка і камарык насаты тварык"). Аднак літаратурна-культурная адукаванасць мастака не магла прымірыць прыніжана-фальклорны кампраміс з жыццёвымі абставінамі, таму гэта сатыра не стала заключным акордам лірыкі кахання Багдановіча. Бясконца пяшчотнае і сумна-шчымлівае лірычнае пачуццё, разлітае і ў апошніх яго творах, нагадвае пра сябе:

***...адну***
***Старадаўнюю казку —***
***Аб любоў і вясну***
***І жаночую ласку.***

У паэме "Страцім-лебедзь" выразна адчуваецца горыч усведамлення фатальнай немагчымасці паўнаты шчасця:

***Ад усіх цяпер патомкі ёсць,***
***Ды няма адных — страцімавых!***

Праз па-філасофску глыбока выяўленую тэму кахання Максім Багдановіч і Тарас Шаўчэнка падышлі да канцэптуальнага асэнсавання шырокага спектра актуальных праблем маральна-этычнага зместу. Сэнс творчасці мастакі бачылі ў служэнні жанчыне, каханню, як аснове сям'і, — на думку В. Розанава, "самай дарагой і бліжэйшай да нас Айчыне".

Толькі так і можна патлумачыць катэгарычны імператыў радкоў:

***Одну сльозу з очей карих,***
***І — пан над панами!***

**Жана ШАЛАДОНАВА**





## “Варажба травы”

**Перш чым дачакацца сваёй першай кнігі паэзіі “Варажба травы”, якая стала ліпеньскім зборнікам “Бібліятэкі часопіса “Маладосць” за сёлетні год, Алена Котава друкавалася на**





**старонках часопісаў “Полымя”, “Работніца і сялянка”, “Бярозка” і іншых перыядычных выданняў. Прадстаўляла яе і “Маладосць”. А нарадзілася Алена Адамаўна ў 1952 годзе ў вёсцы Крупец Докшыцкага раёна. Скончыла Мінскі каледж мастацтваў і Акадэмію дызайну ў Санкт-Пецярбургу. Працуе выкладчыцай на аддзяленні дызайну Мінскага дзяржаўнага архітэктурна-будаўнічага каледжа.**

**Як бачым, дэбют у якасці аўтара першай кнігі запазніўся. На гэта звяртае ўвагу і вядомы паэт Казімір Камейша, напісаўшы да зборніка невялікую, але надзвычай шчырую і цёплую прадмову “Далёкае і блізкае”: “Да сваёй кнігі Алена Котава ішла хадою няспешнай. Зрэдчас з’яўляліся ў друку яе вершы. І паэтку, несумненна адметную, са сваім усхваляваным, уласцівым толькі ёй позіркам на свет, здаецца, так і не заўважылі”. К. Камейша дакладна схоплівае адметнасць напісанага аўтарам “Варажба травы”: “...тое, што сабрана ў кнізе, мяне па-чалавечы кранула. А. Котава ў сваіх вершах імкнецца паяднаць далёкае і блізкае. І калі блізкае ўбірае ў сябе ўсё тое дарагое, што акаляе душу, то далёкае суаднОсіцца і з адлегласцю, і з памяццю, а значыць, і з нашай гісторыяй”.**

**Дарэчы, адзін з твораў так і называецца — “Далёкае-блізкае”. Ява і мінулае ў ім і сапраўды суседнічаюць. Дзень сённяшні — гэта тое, што сваёй асязальнасцю кранае цябе, не зважаючы на звыкласць:**

*Пожні ржавы абшар*
*Азірае жняя.*
*Жыта жоўты пажар —*
*Жніўня шчодрага дар.*
*Як духмяны узвар —*
*Цуд-вада з ручая.*
*Ў жменях холад і жар*
*Студзяць вусны і твар.*

**Мінулае ж урываецца спакваля. Гэта таксама — рэальнасць, але быццам спрэсаваная з таго даўняга, што імкнецца ў сучаснасць, прамаўляючы сваёй маўклівасцю:**

*Чарада курганоў —*
*Старажытнасці знак —*
*Шляху вольнага ўздоўж*
*Вартай-рацою глядзіць.*
*Раздарожжа вятроў —*
*Пылу горкага смак.*
*На сустрэчы шляхоў*
*Крыж каменны маўчыць.*

**У вершах “Барысавы камяні”, “Князёвы загадкавы свет” прысутнасць мінуўшчыны, калі можна так сказаць, канкрэтызавана. Паэтэса звяртаецца да гістарычных рэалій, каб выказаць сваё стаўленне да таго, што схавалася за сівой імглой стагоддзяў, але дайшло да нас. Ёсць у А. Котавай і творы метафарычна насычаныя. Здзіўляючая вобразная напоўненасць — сведчанне, бадай, таго, што аўтар паяднОўвае ў сабе паэта і мастака:**

*Над нудой мікрараёна*
*Гром-гарэза пазяхнуў.*
*Ветразь стромкія рамёны*
*Ў сінім моры разгарнуў.*

*І нажніцамі маланка*
*Недзе кроіць хмарны шмат.*
*Мройных зорак калыханка*
*Уплялася у канат.*

**А за ўсім гэтым — замілаванне жыццём, тое захапленне ім, якім валодаюць людзі па-сапраўднаму ўражлівыя і паэтычныя. З шэрагу іх і А. Котава.**

**Міхась ГЕНЬКА**

ВІНШУЕМ!

# Лань — рака паэтычная

## Алесю КАСКО — 50

Помню Лань — не цяперашнюю, каналізаваную, дарэшты сапсаваную меліяцыяй, а тую — ранейшую, лясную, рыбную і ў прамым сэнсе раку паэтычную. Убаку ад вялікіх дарог, за сорак вёрст ад Ганцавіч, разумныя нашчадкі дрыгавічоў калісьці заснавалі на Лані па ўсіх мерках немалое паселішча, збудавалі з дрэва праваслаўную Юр’еўскую царкву, якая захавалася да нашых дзён, і назвалі гэты абжыты куток Палесся надта ж прыгожа — вёска Чудзін.

Ажно не верыцца: мінула ўжо 36 гадоў, калі я ўпершыню трапіў сюды ў якасці карэспандэнта раённай газеты. Аўтобусы тады яшчэ не былі ў модзе, таму ехаў спачатку на спадарожнай машыне, а далей, значную частку шляху, праз лес, дабіраўся ў Чудзін пяшком. У ваколіцах вёскі ўразіла незвычайным хараством летняя Лань, і я доўга стаяў на вялізным драўляным мосце, любуючыся мясцовымі абшарамі і з добрай зайздрасцю думаў: “Мне б у дзяцінстве такую блакітную Лань і такія боскія краявіды!” Аднак, як заўсёды здараецца, святое месца пустым не бывае. На той час у Чудзіне настаўнікам літаратуры працаваў Мікола Купрэеў, а лепшым вучнем у яго быў Алесь Каско — будучы вядомы беларускі паэт.

Тут, на ўлонні маляўнічай прыроды, яшчэ школьнікам Алесь Каско напісаў свае першыя вершы і на пачатку сямідзесятых надрукаваў іх у газетах “Савецкае Палессе” і “Чырвоная змена”. Паэт скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут, служыў у войску, працаваў у сельскіх школах выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, быў тэлежурналістам, карэспандэнтам раённай газеты ў Жабінцы. Бацькоўская зямля, пракаветная прыгажуня Лань з яе маляўнічай поймай не забыліся, як кажуць, праз дзесяцігоддзі і адлегласці, таму што, будучы ўжо вядомым паэтам і згадваючы гэтую сваю зацяжную ростань, Алесь Каско напіша:

*Зусім не адзінокі я,*
*хоць і гнятлівы, бы ў скляпенні.*
*Душа захоўвае адценні*
*былых і гукаў, і выяў.*

*У ёй такая відната,*
*што мрою белае абліччы,*
*блакіт вачэй, з якіх крынічаць*
*давер, цярплівасць, дабрата.*

Канечне, гэта вялікае шчасце — пабываць дома, дзе “самому сабе не належыш”, дзе “ў вёсцы і хвіля — для спраў”. Вось ускапаны збуялы за лета агарод, пасечаны на дровы пасохлы алешнік, “шукаючы занятку любога”, адпуснік “быў цесля, садоўнік, грыбнік” — якая ні ёсць, а падмога старэнькім бацькам. Ды ўсё ж лірычны герой верша “Дома” дужа патрэбныя гаспадарчыя справы лічыць за нейкі адробак. І тады прыходзіць крыўда — “ад горкае спробы знайсці апраўданне сабе”. Родны дом маркотным стаўся, можа, яшчэ і таму, што на ўзгорачку дзірваным “Далёкі свет мой пахаваны з суседам, дзядзькам, дружбаком...” Алесь Каско на ўсе з’явы жыцця, радасныя і сумныя, мае свой уласны погляд, свежую думку, і хоць душа, акрамя “былых і гукаў, і выяў”, захоўвае боль і пакуты, ён не кідаецца ў роспач. Гэты светлы настрой надта паэтычна выказаны ў вершы “О лёс мой...”

*Дай новым песням узрасці:*
*на іх бацькоўскі край багаты.*
*Шчаслівы сейбіт і араты,*
*на жніва часу адпусці.*

*Не стане моцы — і няхай! —*
*у памяці, руцэ, у зрэнцы...*
*Усё вазьмі —*
*і толькі сэрца*
*пакінь і выказацца дай.*

Алесь Каско аўтар паэтычных кніг “Вестка”, “Скразная лінія”, “Набліжэнне”, “Час прысутнасці”, зборніка выбранай лірыкі “45”, яму прысуджана Літаратурная прэмія імя Аркадзя Куляшова, шмат гадоў ён паспяхова кіруе Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў, асабіста сам нямала зрабіў для ўвекавечання памяці Уладзіміра Калесніка, Васіля Праскурава, Міхася Рудкоўскага. Дзякуючы нястомным намаганням Алеся Каско, Берасцейскае літаратурнае вогнішча разгарнулася досыць ярка, з’явіліся новыя таленты, наладжаны цесныя сувязі з творцамі суседняй Валыні.

Але, бадай, самы час вярнуцца на Палессе, у дзіўную вёску Чудзін. Тут, як я ўжо згадваў, набіраўся моцы няўрымслівы Мікола Купрэеў, у глыбокіх вірах пад мостам лавіў шчупакоў і звабліваў вадзяных русалак Алесь Каско, трохі пазней тут жа нарадзілася маладая паэтэса Ірына Дарафейчук. Палескі край і сапраўды багаты на шчодрыя дараванні. І не толькі паэтычныя. Чудзін — вёска мудрых казачнікаў, народных лекараў. Гартаючы аднойчы акадэмічную кнігу “Замовы”, я са здзіўленнем падлічыў, што амаль трыццаць арыгінальных замоў ад усялякага ліха і напасцяў запісаны менавіта ў Чудзіне. Паблізу паэтычнай Лані, у лясной глушы на хутары Шарпутоўшчына калісьці жыла сям’я вядомага асветніка і фалькларыста А. Сержпутоўскага, які праславіўся тым, што рупліва збіраў у кнігі мясцовыя казкі, паданні, легенды, прымхі, забабоны. Думаецца, мудрасць продкаў перадалася і Алесю Каско. Нядаўна ён надрукаваў у выдавецтве “Юнацтва” цудоўную кнігу сучасных беларускіх казак “Усё чыстае нячыстага баіцца”, большасць з якіх запісаў у родных надланьскіх ваколіцах, пацвердзіўшы простую ісціну: мудрасць народа перадаецца самым вартым і ўдзячным яго нашчадкам.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

Алесь КАСКО



# Межава́я пара

•

*Пабольш бы ў песні светлыні,*
*паболей звонкасці, спакою...*
*Ды стане песня не маёю,*
*не пра мае раскажа дні.*

*Сярод хлусні і мітусні*
*ёй сорамна перад сабою*
*ўзнікаць з прытворнага настрою,*
*з фальшывай слоўнае гульні.*

*Матыў вясёлкавы саткаць?*
*Атручаныя дождж, рака,*
*плынь мовы роднай*
*ледзь крынічыць...*

*Я ўсё ж не прыхадзень, не госць,*
*не зносак: не спяю цынічна,*
*што без святла вясёлка ёсць!*

## Сцяна

*Спадзеў на новы год ці на*
*тысячагоддзе?*
*Стаіць упоперак сцяна*
*на пераходзе.*
*Крычы ўтрапёна “каравул”*
*ці горбі спіну —*
*памкненні трушчацца аб мур,*
*надзеі гінуць.*
*Ні зрушыць. Ні пераўзысці.*
*Ні пералезці.*
*Ні сцежку ў абыход знайсці.*
*Ніякіх лесвіц.*
*Ні пэўнасці, што за сцяной*
*ёсць шлях, ёсць воля...*

*...Час па цагліначчы адной*
*сцяну расколе.*
*Сам па сабе настане год*
*спрыяльны вельмі —*
*адслоніць зноўку пераход,*
*надзею верне.*
*Люд чынна справіць па сцяне*
*жальбу-хаўтуры*
*і задаволіцца, што не*
*ён сам разбурыў.*
*З былога скінуўшы даўгі,*
*былым завершыць:*
*няўхільна ўстане мур другі,*
*такі ж, як першы.*

•

Дзе мой край?..
**У. КАРАТКЕВІЧ**

*Дзе мой край? За небакраем,*
*за палоскаю ружовай,*
*дзе анёла не карае*
*Бог за тое, што спявае*
*ён сваёй анёльскай мовай.*

*Дзе мой край? У свеце зорным,*
*ілюзорным свеце чыстым,*
*дзе няма прамоў казённых,*
*алілуйнікаў падзённых*
*і пагоннікаў плячыстых.*

*Там жыву зусім нядаўна,*
*там жыву пакуль часова —*
*рана шчэ мне жыць расстайна*
*з той зямлёй, дзе мне світальна*
*падарыла маці Слова.*

*З той зямлёй, дзе за вякамі*
*Слова роднае збылося, —*
*і калі яно гукае,*
*стаць у шэраг з дзецюкамі*
*апускаюся з нябёсаў.*

## Карабель

*Вецер у спіну не вецер.*
*Хваля не хваля,*
*што кошкаю трэшча аб бераг.*
*Дый бераг не бераг,*
*калі ён без стромы...*

*Зведаў я вецер сустрэчны,*
*раз’юшанасць хвалі,*
*паўставаў небасхілам мне бераг,*
*куды не даплыў я,*
*куды не даплыць аніколі.*

*Усцешна ў стыхіі!*
*Мне радасна ведаць:*
*яна не сцішэ, не скончыцца,*
*не знікне разам са мною —*
*па-за маёю вечнасцю.*

*Іду на бяздоннае дно*
*і расстайна ківаю мачтаю*
*таму караблю ацалеламу,*
*які, аб мой борт ледзь паранены,*
*спяшаецца стлець на якары.*

## Дзень народзін

*Стрэлкі-нажніцы*
*рэжуць і рэжуць на стужкі*
*нябачную*
*тканіну часу.*
*Але — уяўляю:*
*белую-белую,*
*як палосачкі*
*снегу,*
*што таксама знікаюць —*
*растаюць у лужынах.*
*Снегу не стане,*
*дня народзін не стане —*
*стрэлкі-нажніцы*
*будуць.*

## Тапалям дзяцінства

*Паклон вам! Прычакалі.*
*Калышаце зару.*
*Як я, старыя сталі...*
*Малюся — каб не ўпалі*
*раней, чым я памру.*

## Жабрачка

*Яна папрасіла кус хлеба:*
*“Цяпер я ні сеяць, ні жаць,*
*а жыць па-ліхому — ды лепей,*
*чым добра ў магіле ляжаць...”*

## Краявід

*Чужы для бязлюднага краявіду,*
*пазіраю на попельнае поле,*

*дзе вугольчыкамі*
*тлеюць забытыя бульбінкі,*
*дзе стырчакі сланечніку*
*спрабуюць падвысіць смугу,*
*нібы ўсё яшчэ шукаюць*
*сонца... Яно*
*ўжо даўно пад імі —*
*зжоўклымі скарынкамі гарбузоў,*
*лісцем голых кустоў і яблынь.*
*Чужы для бязлюднага краявіду,*
*заўважаю, як многа*
*пакінутых тут "крыжоў" —*
*маркотных агародных пудзілаў,*
*і нясмела, бы ўлетку,*
*над імі кружляюць вароны.*
*Хоць бяры ды і сам*
*шырока растапырвай рукі —*
*дапасоўвайся*
*да бязлюднага краявіду.*

## Дакор

(ВЕРШ, НЕ НАПІСАНЫ БРАТАМ)

*Ці то не было, ці не стала*
*надзеяў, кахання, вясны:*
*так рана сухімі лістамі*
*засланы ўспаміны і сны.*

*Ты кінь ліст зялёны на вечка,*
*як згадку, — а больш не вазьму...*
*Каханне, вясна — не навечна,*
*але быў без брата чаму?*

*Ты нават тады не хапіўся*
*і следу шукаць не пайшоў,*
*калі я блудзіў — і згубіўся*
*наўзбоч скрыжаваных шляхоў.*

*Што ж плачаш? Мне не адазвацца,*
*сыходжу глыбей і глыбей...*
*Шчаслівa, мой брат, заставацца,*
*зялёнага лісця табе.*

●

*Гэта восень мая... Ні тугі, ні адчаю.*
*Сыдзе час, як пясок.*
*Праплыве, як вада.*
*Што, папраўдзе,*
*для Госпада я азначаю,*
*каб умольваць Яго,*
*каб сябе шкадаваць?*

*Што ж, абступяць,*
*абхопяць апошнія хвілі,*
*і на рукі сяброў ападзе галава...*
*Ці я многа аддаў,*
*ці ў мяне шмат прасілі,*
*каб па мне галасіць,*
*каб па мне гараваць?*

*Шлях за краем міне.*
*Неўпрыкмет, непарадна...*
*Быццам восень іду — межавая пара.*
*Гэта горкая,*
*ды найпраўдзіўшая праўда:*
*трэба так, як трава,*
*як лісцё, паміраць.*

*Той бяды, што якоесь*
*былінкі не стане!*
*Напамінкам хіба,*
*што свет жыў і жыве,*
*хоць калі, хоць каму*
*ціхі позірк прагляне*
*ці ў лісці маладым,*
*ці ў вясновай траве.*

## Нявыказанае

*Я вераю ў сябе грашу:*
*паспею выспеліць такое,*
*што не адно маю душу*
*трывалым ахіне спакоем;*
*складу наймоцныя радкі*
*хаця б за нейкія два крокі*
*ад тое вечнае ракі,*
*дзе не люструюцца аблокі,*
*дзе ні гарлачыка няма,*
*дзе хвалі ў прысмерках дрыготкіх,*
*дзе — анічога, акрамя*
*бязвёсельнай самотнай лодкі...*

ПРОЗА

# ДВА АПАВЯДАННІ

Віктар СУПРУНЧУК



## Міма бяжыць сабака...

Як даўно я нічога не пісаў! Нават лістоў сваякам ці сябрам. Мо іх ужо ў мяне няма? Дзе той край, дзе бераг, ля якога можна спыніцца? У мітусні і нікому не патрэбнай калатнечы, у п'янстве і блудзе мінаюць дні, гады, і раптам адчуваеш, што зусім блізка — парог вечнасці. Былі сябры і — няма. А мо іх і не было? Хто мне скажа?

Гляджу ў акно з дзесятага паверха: з сабакам ідзе жанчына, размахваюць рукамі трое мужчын. Перад імі — бутэлька, у цэлафанавым пакеце — яшчэ некалькі. Яны п'юць ужо з паўгадзіны. Іх твары мне знаёмыя. Штораніцы яны гучна гамоняць унізе — п'юць з рыльца і аб нечым гучна, зрываючыся на крык, гавораць. Твары спакойныя, абыякавыя, толькі рукі нешта ўсё шукаюць у паветры. І такія мужчыны стаяць і злева, і справа, і ля дзіцячага садзіка. Штораніцы. У іх шэрыя, задуменныя твары, але ніводнай думкі ў вачах. Неяк я ішоў міма і паспрабаваў зазірнуць у іхнія вочы. Пуста, бы ў калодзежы ў вёсцы Забічаны, у якой я быў учора: туды скідваюць анучы, паперу, бітае шкло. Але куды будуць кідаць усё гэта, калі запоўняцца калодзежы? Праўда, недалёка лес, дом, запушчаныя, удзірванелыя гароды, гаспадары якіх памерлі альбо з'ехалі ў горад. Тады, пэўна, смецце памалу папаўзе да хат, да двароў і ў іх ужо завіжуюць пацукі. Бо сабакі, нават і каты не хочуць там паляваць. Дарэчы, учора я ўбачыў сабак, што сядзелі на катах, і катоў на сабаках. І мужчына быў ля мужчыны, а жанчына ля жанчыны…

Я выйшаў з дому, удыхнуў ранішняе паветра. Даўно яго не адчуваў, а проста дыхаў. Толькі смурод ад сметніка нудзіў мяне. Такая ў мяне прырода, хоць і не вырас у палацах, і бацька, калі я быў малы, вазіў з фермы ў бочцы "дабро". Птушкі пяюць, у суседнім доме жанчына крычыць: "Аддай, аддай!.." Нехта нешта ў яе ўзяў. Потым чую: "Забяры, сабака! Ай-яй-яй!.." І вецер дзьме саладкаватымі хвалямі. Я думаю, ці ёсць Бог, дзе ён, калі, нарэшце, мы ўсе будзем у яго верыць. І не таму, што трэба аддаць грошы святару ці прасвітару, кожны з якіх рады бачыць нас у сваёй царкве. І кожны лічыць, што ён найгалоўнейшы прадстаўнік Усявышняга на зямлі.

Ну, вось ідзе чалавек з вялікаю торбаю. Не першы раз бачу яго. Паўапухлы твар, вочы — бы ў змяі, падціснутыя вушы. Ён не алкаголік —бізнесмен. Збірае бутэлькі ля кустоў, гандлюе віном. У шэсць раніцы ўжо радуе былых мужчын, якія, падштурхнутыя смагаю і калатнечаю ўсяго цела, — цішком ад жонак з ложка і на вуліцу. Але ж яны даўно не мужчыны і ложка ў іх няма. Учора я дакрануўся да рукі жанчыны ў тралейбусе, і яна, відаць, пра нешта падумала. У яе вачах, стомленых і састарэлых, успыхнула мара, якую я адразу распазнаў. Але яе мару, надзею даўно адабраў гэты мужчына з торбаю. Ды — пры чым тут ён? Яны захацелі, каб ён быў і ёсць.

Ён ідзе, я стаю, пазіраю. Доўга маўчу, пытаюся: "Збіраеш грыбы?" Ён адказвае: "Але ж, баравікі."

Я з усёй моцы б'ю яму кулаком у твар, па носе. За што? Ён не абараняецца, плача. Вочы ў яго не змяіныя, а зайцавы. Злосць кіпіць ува мне, нібы кіпень у маім задымленым чайніку, які ўчора ўкралі з двара той хаты, дзе мае дзіцячыя сляды. За што я б'ю яго, навошта хапаю за каршэнь і валаку па траве? Ён плача, як некалі мой маленькі сын. Вакол ці не пяць купак мужчын, яны п'юць віно, што купілі ў гэтага чалавека. Усе маўчаць і не бачаць, што я валаку іх ратоўцу па зямлі, бы куль саломы. Мне гэта не даспадобы. Я падыходжу да бліжэйшае купкі і бац! — аднаму з мужчын у нос. Ён пабялеў, кроў на твары, бутэлька — на зямлі. Мусіць, яму не баліць. У бутэльцы на два пальцы віна. Штурхаю яе нагою. І сам кудысьці лячу. Мяне падбіваюць нагамі, рукамі. Без слоў. Хоць — не, зрэдку адно слова праскоквае, бы ўздых.

Баляць рэбры, спіна, левая нага. Я — на зямлі. Мужчына з сумкаю —пада мною. У яго вочы змяі, а не зайца. Дастаю з кішэні грошы, аддаю яму. Ён мне лье з бутэлькі віно проста ў рот.

Як высока мой дзесяты паверх! Яшчэ вышэй — неба. Па-ранейшаму стаяць мужчыны і пра нешта гамоняць. Ім усё роўна, ці жывы я, ці памёр. Раніца ці вечар.

Трава шуміць. Прабег міма сабака і памачыўся на мяне. Мабыць, я быў для яго карчом.

Шкада, што бізнесмен не выліў мне ў рот усё віно. Палову аддаў прыдурку Яшку, які за гэта станцаваў, уздымаючы клубы пылу. Я сказаў: "Дурань ты, дай лепш руку…" Але ён працягнуў мне нагу і прапанаваў яе пацалаваць. Тады я сказаў, што ён геній. Мо нават варта яго выбраць старшынёй… Калі пастух здольны пасвіць статак кароў, дык чаму дурань не можа кіраваць грамадою людзей? Я, разумны, адукаваны, і ляжу на пяску, сабака нават зрабіў на мяне сваю патрэбу. Дакраніся, панюхай, як пахнуць штаны ад сабачай мачы. Зараз вантробамі варачаць буду ад гэтага паху.

Я пачую смех з усіх бакоў. Яшку пацікалі рукі. У мой бок — плявалі. Ім не хацелася да ветру, інакш мае штаны былі б зусім мокрыя. Яшка плюнуў і зноў заскакаў. Дзіўна, але ж ён няблага апрануты: чорная скураная куртка, джынсы, туфлі з жоўтай скуры з гузікам на спражцы. Што будзе, калі сарву гэты гузік? А што будзе, калі я памру? Нават лісце не зварухнецца. Нехта з тых, хто быў сябрам ці знаёмым, нешта скажа. Прабяжыць сабака, падыме нагу і пальле траву, якая будзе расці недзе там…

Я іду, іду… Нарэшце разумею тое, што ніколі нікому не скажу. Хоць чаму не… Я не іду, мяне зямля нясе на сваім баку.

Кожны заяц хоча быць змяёй. Кожны мядзведзь не хоча быць кароваю. Кожны сабака хоча з'есці ўсе яйкі. Кожны дурань — найразумнейшы дырэктар. Чаго? Хоць бы туалета… А я хто?

Ладна. Я бачу снежныя крупы, сіняе неба. На мой твар падаюць кроплі, вельмі гарачыя кроплі. Аблізваю іх з вуснаў: яны салёныя, як слёзы. Хто нада мною плакаў, каму ўзарваў я душу?

З усіх бакоў я вінаваты. Перад небам? Перад сваімі блізкімі? Мы заўсёды ў даўгу? Хто гэта мовіў? Той сабака, які падняў на мяне нагу? Вось чаму такі змрок, сум… У людзей радасць, весялосць, смех. Кожны жыве, як можа.

Мне балела рабрына, па якой біў нагою прыдурак Яшка. Боль быў такі, што хацелася гэтага ідыёта ўкусіць.

Ах вы, ах вы!.. Хай усё гэта застанецца толькі ў маёй індывідуальнай душы, не трэба, каб лішнія вушы слухалі мае сумныя словы.

Урэшце я стаў на ногі і сказаў: "Не, усё-ткі ты прыдурак, а я старшыня!" Мужчыны, якія дапівалі астатнюю кроплю, уважліва на мяне зірнулі, але нічога не сказалі. Мусіць, яны падумалі, што з неба зараз пасыплецца манная каша. Хоць — не, якая каша? Яны хацелі б, каб дождж з градусамі. Трасцу! Лепш бы панюхалі мае штаны. Моўчкі глядзяць у неба і чакаюць воблака з градусамі. Праз дарогу крама, у якой усё ёсць. Нават тое, што яны не елі і не пілі. Абы была бульба і вайны не было… Вазьмі бляшанку з жабінымі кумпячкамі і з'еш. Не твая ежа, дарога?

Я рагачу, бы кныр, да якога прывялі трэцюю свінню. Ён зможа праз дваццаць ці пятнаццаць хвілін? Вы мяне здзіўляеце: ёсць настрой?! Які? Жэрці, пляваць і, магчыма, — на мае штаны. О, божа!

Пайшоў дождж. І я пайшоў. І сабака.

Якаў танцуе, мужчыны стаяць, а ўваччу — бы куры ў Анюты здохлі. Гэта я прыдумаў. Анюты ніякай не ведаю. Хоць — не: была некалі Анюта. А, можа, Галя? Галю, мая Галю…

У маёй кішэні ёсць грошы. У вас смага?Я — гаспадар.Я забыўся на ўсё. Кожнаму — на запалкі, а разам — на бутэльку. Толькі плюньце адзін аднаму ў твар. Зашумелі: мала атрымалі? Дабавім. Мне смешна. Прыдурку Яшку абяцаю на чвэрць бутэлькі. Ён бяжыць ад мужчыны да мужчыны і на ўсіх плюе. Я з ім разлічваюся. І тады пачынаюць усе пляваць адзін на аднаго. І кожнаму даю на запалкі, каб маглі сабраць на бутэльку. А збоку стаіць той, з торбаю бутэлек, і чакае ад іх грошай. А сабака вяртаецца назад і здзіўлена глядзіць на ўзбуджаны натоўп і, мабыць, думае: над кім зноў задзерці нагу? Шкада, што ў мяне ў кішэні мала грошай. Я сабраў бы вакол сябе ўвесь мікрараён і стаў бы яго пастухом… Тфу-тфу, кіраўніком. Аднак усё яшчэ наперадзе…

## Антонаўка з пахам маліны

Лета адстаяла халоднае, з дажджамі, ветрам. Я не здымаў з плячэй плашч, парасон увесь час быў у маіх руках. Людзі хадзілі панурыя, раздражнёныя. І адна гаворка: ні агуркоў, ні памідораў, бульба пагніе. Эх, каб на Чорнае мора пад ласкавае сонейка! Па тэлевізары штодня паказвалі разамлелых ад шчасця галапузых дзяцей, бронзаваскурых жанчын. Што казаць пра мужчын: ім усюды добра, а тым больш — пад гарачым паўднёвым сонцам ды калі побач столькі красунь, а віно таннае і смачнае.

Надышоў час, і прырода злітавалася над намі. У пачатку верасня раптам парваліся на бруднае шмаццё хмары, іх разнесла ва ўсе бакі, як курыны пух.

Амаль за ноч дрэвы, як абсыпала золатам. Блакіт неба, рыжае лісце, яшчэ зялёная трава. Вось ужо табе і залатая восень. Стала цёпла, зайграла сонца, і на душы ад гэтай прыгажосці зрабілася спакойна і радасна.

Я няспешна ішоў па алеі парку. Яркія промні сонца прабіваліся праз гушчэчу лістоты, сцелючы перада мною залаты дыван з аксамітавымі фарбамі лета. Прэлы пах лісця не перашкаджаў.Я адчуваў дыханне прыроды і меў ад гэтага асалоду.

Паперадзе гаўкнуў сабака, зашаргацеў у кустах. Выскачыў ля мяне, ледзь не пад самыя ногі, і пабег прэч — маленькі, чорненькі і вясёлы, па вушы хаваючыся ў траве.

— Жоржык, Жоржык! — пачуў я мілагучны і ласкавы жаночы голас, нечым падобны на голас польскай спявачкі Ганны Герман, песні якой я тады вельмі любіў. Памятаеце: "Светит незнакомая звезда, снова мы оторваны от дома…" Хутка з-за дрэў і кустоў паказалася і сама сабачая гаспадыня. Яна трымала ў руцэ жоўты раменьчык з бліскучымі цацкамі-аздобаю. Я чуў, што такі ашыйнік каштуе з павадком нямала, але колькі канкрэтна — не цікавіўся, бо сабакі не маю і трымаць у кватэры жывёлу лічу здзекам з яе. Але гэта — мая думка, і яна не азначае ісціну ў апошняй інстанцыі. Можа, гэтая жанчына нават стаяць не захоча побач са мною, не тое што слухаць.

Яна была немаладая. Прынамсі, значна старэйшая за мяне. Я надаўна адгуляў трыццаць. Мусіць, ці не ўсе дваццаць можна было накінуць ёй зверху на мае.

Яе рыжыя валасы, колерам падобныя да гэтага восеньскага лісця, былі закручаныя на патыліцы ў адмысловую гулю. Ружовашчокі твар, паўнаватая постаць. На ёй быў светла-зялёны плашч.

Яна ўсміхнулася і затрымала мяне: «Прабачце, не маглі б вы дапамагчы мне…» Я спыніўся. Да пачатку працы было яшчэ некалькі гадзін, спяшацца няма куды. Ды, зрэшты, калі жанчына просіць… Гэта я цяпер так думаю. А тады? Папрасіла, дык чаму б не памагчы.

— Слухаю…

— Нешта во з раменьчыкам. Не магу надзець на Жоржыка.

Што з раменьчыкам? Я няўмела, без спадзеву на карысць пакруціў нейкія жалезкі, шчоўкнуў колькі разоў замочкам і аддаў раменьчык гаспадыні.

Твар засвяціўся ад радасці, нібы я зрабіў нешта неверагоднае. Аж мне стала прыемна і няёмка ад яе ўдзячнасці.

— Ведаеце, Жоржык такі ласкавы, вясёлы… Што б я рабіла, каб яго не было ў нас.

(Заканчэнне на стар. 13)

 ЧАСАПІС

## Клас Ніжнікавай!

Вельмі радасна, што ў такі складаны час знаходзяцца людзі, якія займаюцца прапагандаваннем нашай культуры, захоўваюць і перадаюць нашчадкам гэты бясцэнны скарб. 27 лістапада ў гасцёўні У. Галубка адбыўся канцэрт студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі класа народнай артысткі СССР прафесара Т. Ніжнікавай.



Тамара Мікалаеўна ўсё сваё жыццё прысвяціла музыцы, каля 40 гадоў яна выкладае ў БАМе, перадае сваё майстэрства і веды студэнтам. Перад канцэртам яна прызналася, што за ўвесь дзень выпіла толькі два кубкі кавы, а паесці не было часу: заняткі. "Але ж я не магу інакш, музыка — маё жыццё", — заўважыла Т. Ніжнікава.

І ў час канцэрта Тамара Мікалаеўна натхнёна дапамагала выканаўцам, дырыжыравала за кулісамі, нешта падказвала. І колькі запалу было ў яе рухах! Як яна хвалявалася за сваіх вучняў!

У канцэрце бралі ўдзел студэнты розных курсаў: Ван Фан, Гуань Сюэ Цынь (Кітай), А. Аўдзеева (Казахстан), В. Косарава, І. Цемчанка. Сусветна вядомыя творы гучалі на рускай, беларускай, французскай, нямецкай, італьянскай, кітайскай мовах. Завяршыў канцэрт выдатны дуэт А. Буйніцкай і выкладчыка БДПУ імя М. Танка А. Аўраменкі.

Цудоўны музычны вечар не мог не крануць чалавечыя душы і сэрцы: усе разыходзіліся ўсхваляванымі. Сапраўды, пакуль ёсць такія людзі, наша культура не прыйдзе ў заняпад, не знікне.

**Л. КАМАРОЎСКАЯ,**
загадчыца гасцёўні У. Галубка

*На здымку: прафесар Тамара НІЖНІКАВА на занятках са студэнтамі.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## "Мастацтва", № 10

Т. Гаробчанка ("Белы параход у беларускай Швейцарыі") знаёміць са спектаклямі Мазырскага драматычнага тэатра імя І. Мележа. А. Ахметшын гутарыць з народнай артысткай Беларусі М. Захарэвіч ("Каб у доме не было зла..."). Субяседнік Н. Кардаш — лаўрэат міжнародных конкурсаў спявак А. Мельнікаў ("Акцёр павінен адчуваць мацней за гледача..."), Л. Фінкельштэйн ("Азірнёмся з памежжа на "вострай свабоды"...") дзеліцца ўражаннямі ад выстаўкі "Беларусь — трэцяму тысячагоддзю". Г. Нячай прамаўляе слова пра В. Роўду ("У кожным творы вы з'яўляецеся сааўтарамі..."), Е. Бондарава ("Ад чаго расце душа") дазваляе бліжэй пазнаёміцца з В. Туравым, з дня нараджэння якога споўнілася 65 гадоў. Традыцыі замоўнага кіно асэнсоўвае К. Рэмішэўскі ("Рэкламна-інфармацыйнае кіно"). В. Угрыновіч ("Рукі мастака") прадстаўляе кераміста В. Калтыгіна. "Убіраючы сілу таемных крыніц" — паслясловы Г. Багданавай да выстаўкі "Уздоўж Бесядзі" у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Прадстаўлены рубрыкі "Хроніка мастацкага жыцця", "Старонкі календара...", прапануецца шэраг іншых матэрыялаў.

## "Всемирная литература", № 10

Адметнасць гэтага нумара штомесячніка ў тым, што ў ім дзякуючы супрацоўніцтву рэдакцыі "ВЛ" з пасольствам Казахстана ў Рэспубліцы Беларусь прадстаўлены як бы часопіс у часопісе "Альманах казахскай літаратуры", прысвечаны 10-годдзю незалежнасці Рэспублікі Казахстан. Называецца гэты альманах "Вялікі стэп". Чытачы могуць пазнаёміцца з выступленнем Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Казахстана ў Беларусі У. Алесіна "Адзінства гісторыі нашых народаў". Сярод аўтараў — А. Сарсенбаеў, А. Бакееў, А. Сулейменаў, К. Сарсекееў, М. Скакбаеў, К. Акішаў, А. Хакслі. А адкрываецца нумар развагамі П. Яніка "Славянскі свет у годзе першым". Публікуюцца вершы Э. Балашова, В. Бялова, Т. Бондар, раман У. Голдзінга "Бог-скарпіён", "Імгненні" Ю. Бондарава, артыкул Э. Вясеніна "Шэкспірызм: замах на абарону".

ВЫСТАВЫ

# Мастак і грамадзянін

***Усяго дзесяць дзён (з 24.10. па 3.11.2001 г.) доўжылася юбілейная выстава Алеся Марачкіна — вядомага мастака і грамадскага дзеяча, да таго ж паэта і педагога, першага старшыні мастакоўскай суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў.***



*"Купальскія мары"*

Нашаму пакаленню, дзецям вайны, у школах не выкладалі сапраўдную гісторыю Беларусі, не распавядалі пра яе багатую старажытную матэрыяльную і духоўную культуру. А. Марачкін здабыў гэтыя веды самастойна. Ён з маленства ўвабраў у сваю свядомасць годнасць і высакароднасць сваіх бацькоў і дзядоў, — потым увасобіў іх вобразы ў палотнах, мілагучнасць роднай мовы; прыгажосць прыроднага ландшафту (карціны "Пава", "Прывіды зімы"); своеасаблівае замілаванне рэчамі матэрыяльнай культуры — керамічнымі гладышамі ("Дзісненская кераміка"), абрадавымі ручнікамі і ткацкімі калаўротамі ("Успамін пра маё дзяцінства"), прасніцамі ("Прасніца"). Натуральнае беларускае асяроддзе фарміравала мастака з дзяцінства як грамадзяніна Бацькаўшчыны.

Багатыя ўражанні дзяцінства і набытыя пазней веды ў пэўнай ступені адлюстраваліся ў шматграннай творчасці і грамадскай дзейнасці А. Марачкіна, якая мае не толькі вялікую мастацкую каштоўнасць, але і значную — асветніцкую.

У 80-х гадах А. Марачкін стварае галерэю партрэтаў гістарычных дзеячаў, якія шанавалі беларускую дзяржаву і стваралі беларускую культуру — партрэт Вялікага князя Вітаўта (1980), партрэты гістарычных дзеячаў беларускай культуры XII—XVII стст. Еўфрасінні Полацкай і Сімяона Полацкага (1986), Кірылы Тураўскага (1987).

Пасля абвяшчэння незалежнасці Рэспублікі Беларусь у 1991 г., А. Марачкін піша нізку партрэтаў дзеячаў сучаснага Беларускага Адраджэння.

Каб аналізаваць творчасць А. Марачкіна, трэба мець яго глыбокую эрудыцыю ў галіне сусветнай гісторыі і культуры і ўласна Беларусі, каб зразумець часам амаль зашыфраваны метафарычны змест многіх яго кампазіцый (нізка "Беларускія паданні і легенды", "Хто з вас без граху?", "Размова аб вечнасці. Скарына і Парацэльс" і інш.). Тэматычны дыяпазон мастака вельмі шырокі. Ён імкнецца сваімі творамі звярнуць увагу гледача на пэўныя падзеі, факты і з'явы беларускай гісторыі (культурнай і палітычнай), сучасны стан беларускага грамадства.

Ад вузкіх і доўгіх палотнішчаў беларускіх абрадавых ручнікоў ідзе фармат большасці яго карцін. Ад традыцыйных маляванак (вельмі папулярных у пасляваенныя часы) — "дывановы" характар многіх кампазіцый з падкрэсленай лапідарнасцю колеравых плям. Адзін з любімых вобразаў для мастака — птушка, знак сувязі зямлі і неба. Гэты сімвал прысутнічае ў творах — "Зімовыя мроі" і "Пава" (1991), "Кароль птушак" і "Птушкі на снезе" (1992), "Дзяўчына з птушкай" (1995).

Звяртаецца мастак да тэмы старажытнага ткацкага рамяства, у якім беларусы дасягнулі высокага тэхналагічнага і мастацкага ўзроўню "Успамін аб маёй вёсцы" (1977), "Суладдзе" (1983), "Прасніца" (1992).

Менавіта асноўныя элементы ткацкай геаметрычнай арнаментыкі (трохкутнік, ромб, зігзаг, блокі паралельных простых і хвалістых ліній і інш.), у якую нашы прашчуры заклалі сэнс пэўных абярэгаў, мастак выкарыстоўвае ў якасці сімвалічных сродкаў дзеля ўзмацнення алегарычнай вобразнасці кампазіцый. Найбольш відавочна гэта ў роспісах-абярэгах на драўляных дзвярах, створаных у 1992 г. "Жывы куст", "Знак", "Лесавік", у якіх адчуваюцца ўплывы старажытных пластоў паганскага мастацтва.

Глыбінны сэнс старажытнай міфалогіі беларусаў ён адлюстраваў праз таямнічыя міфалагічныя вобразы, напісаныя ў сюррэалістычнай стылістыцы ў карцінах "Сон на воўчым востраве" (1993), "Снегавік" (1996), "Кара з неба" (1995), "Не з тае галавы карона" (1996), "Зімовыя прывіды" (1992).

Мастак чуйна рэагуе на падзеі ў грамадскім жыцці. Часам жывапісным творам папярэднічаюць яго ўласныя вершы. Так адбылося з карцінай "Дарога" (1975), якой папярэднічаў уласны верш мастака "Дарога ідзе налева, дарога ідзе направа. А побач лугі, сенажаці. Чужыя сляды. Патрава". Менавіта "чужыя сляды" ў выглядзе адбіткаў на глейкай паверхні дарог гусеніц танкаў.

Балюча ўспрыняў мастак звесткі пра тое, што па загадзе з "цэнтра" над Беларуссю асадзілі радыеактыўныя аблокі, якія вецер нёс з Чарнобыля на Маскву. І Марачкін адлюстраваў "выпадзенне" радыеактыўных асадкаў на родную вёску ў карціне "Хадора. З Чарнобыльскага цыкла" (1989), дзе на другім плане выпісаў змрочна цямнеючыя абрысы зубцоў маскоўскага Крамля. Хадора — гэта імя яго маці.

Разгледзеўшы асноўныя тэмы і сюжэты твораў мастака, варта адзначыць выяўленчыя сродкі, дзякуючы якім палотны А. Марачкіна вылучаюцца на выставах. На працягу больш чым трыццаці гадоў творчасці мастак некалькі разоў змяняў жывапісную тэхніку і агульную стылістыку.У канцы 60-х — пачатку 70-х ён прытрымліваўся традыцыйна рэалістычнага накірунку ў жывапісе і бліскуча выкарыстоўваў лесіровачную тэхніку. Сярод твораў той пары вылучаецца партрэт яго бабулі "Бабка Марыля" (1973). Твор набыў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. На маю думку, гэты партрэт будзе годна прадстаўляць гісторыю беларускага выяўленчага мастацтва 70-х гадоў, як і партрэт 90-х гадоў "Ваша Ларыса Геніюш" (1998) напісаны ў рэалістычнай стылістыцы.

У такой жа стылістыцы напісаны партрэт "Маці" (1975) і "Бацька" (1977), у цемнаватым каларыце адзення якіх, вылучаным на залаціста-жаўтаватых фонах, адчуваюцца ўплывы старажытнага іканапісу.

Паступова мастак замяняе лесіровачную тэхніку жывапісу на пастозную, але пры гэтым выкарыстоўвае ўласны дробны экспрэсіўна-нервовы мазок, які надае дрыготкасць асобным элементам на тле нерухомай прасторы; такіх, як "Мара аб палёце. Партрэт сына" (1975), у арыгінальна пабудаванай кампазіцыі партрэта "Вітаўт" (1980); у карціне "Сведкі мінуўшчыны" (1977—1978). У такой жа стылістыцы і тэхніцы напісана ў 1975 г. карціна "Дарога".

СУСТРЭЧЫ

# Ірландцы не памыліліся

На паўднёвым усходзе Ірландыі прайшоў 50-ы Міжнародны фестываль оперы. Ладкуецца гэтая імпрэза пад патранатам Міністэрства культуры і ўрада краіны, з дапамогай кампаній-фундатараў. Арганізатары запрашаюць арт-дырэктара (сёлета ім быў Луіджы Ферары), фарміруецца рэпертуар і склад выканаўцаў.

Звычайна ўдзельнікам фестывальнага паказу быў Нацыянальны сімфанічны аркестр Ірландыі, пост галоўнага дырыжора якога з 1998 па 2001 г. займаў маэстра Аляксандр Анісімаў. З прычыны занятасці дублінскага калектыву ў іншым творчым праекце, на замену яму сёлета запрасілі Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, які ніадзін узначальвае А. Анісімаў і які добра паказаў сябе падчас гастролей у Барселоне.

Мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі прафесар Юрый Гільдзюк таксама пабываў на фестывалі ў Ірландыі. Ён і паведаміў мінскім журналістам пра годнае выступленне там нашых музыкантаў.

Наколькі прэстыжны гэты оперны форум? Маркуйце самі. Аказваецца, у шэрагу такіх сусветна знаных асяродкаў, як "Ла Скала", "Гран-апера", "Метраполітэн-опера", Вялікі тэатр Расіі, паўстагоддзя існуе аднасна маладая оперная сталіца — Уэксфард. На штогадовы фестываль сюды з'язджаецца сусветная мастацкая эліта: музыканты, рэжысёры, сцэнарысты, крытыкі, артысты, сцэнографы. У праграму ўключаюцца тры оперныя творы, пастаноўкі якіх практычна не сустракаюцца ў рэпертуары тэатраў. Кожны спектакль ідзе падчас фестывалю па 6 разоў, а ўдзельнічаюць спевакі з розных краін: Германіі, Італіі, Расіі, Францыі, Балгарыі, ЗША, Ірландыі, Славакіі, Чэхіі, Англіі, Паўднёвай Радэзіі, Аўстрыі.... Дырыжыруюць зазвычай прадстаўнікі тых краін, оперы якіх выконваюцца на фестывалі.

Юбілейная афіша адкрыла для многіх меламанаў такія малавядомыя творы, як "Сафо" Ж. Маснэ, "Алесандра Страдэла" Ф. Фон Флотаў, "Якабінцы" А. Дворжака. Кожны з іх, як ужо зазначалася, прайшоў 6 разоў. А самы першы паказ кожнай оперы кампанія "Бі-Бі-Сі" трансліравала "жыўцом" на ўвесь свет.

Апроч амаль забытага рэпертуару, меламаны адкрывалі для сябе і незнаёмых выканаўцаў, у тым ліку маладыя галасы Расіі, вакальная школа якой высока цэніцца на Захадзе. Юрый Гільдзюк назваў адкрыццём Уэксфардскага фестывалю імёны Т. Манагаравай, Г. Марозавай. Падкрэсліў высокі мастацкі ўзровень знакамітага Камернага хору з Брно. І адзначыў поспех нашых музыкантаў, якіх таксама "адкрылі" ўдзельнікі і госці юбілейнага опернага свята.

У чым была складанасць працы для Дзяржаўнага акадэмічнага аркестра Беларусі (які, магчыма, атрымае-такі, нарэшце, статус Нацыянальнага)? Здагадацца не цяжка. Музыкантам упершыню давялося... пакінуць сцэну і спусціцца ў аркестравую яму. Упершыню выступіць у чыне тэатральных артыстаў, улучыўшыся ў атмасферу



*"Абуджэнне"*

У другой палове 80-х — пачатку 90-х гадоў Марачкін адчуў патрэбу змяніць жывапісную тэхніку — кароткі пастозна-рэльефны мазок на доўгі і плоскі мазок лакальнага, без нюансаў колеру, а рэалістычную стылістыку наблізіў да фармалістычнай (у партрэтах "Еўфрасіння Полацкая" (1986)), "Кірыла Тураўскі" (1987), тэматычных карцінах "Святаяннік" (1991), "Начны прывід", "Вецер" і "Настальгія па белым снезе" (1992), "Маска" (1996) і інш.

Пачынаючы з 1991 г. мастак адчуў патрэбу змяніць не толькі тэхніку і стылістыку жывапісу, але і каларыстыку. Ён больш шырока ўжывае белы колер, надае яму амаль сакральны сэнс. Дарэчы будзе ўзгадаць, што ў традыцыйным беларускім адзенні таксама пераважае белы колер, які спалучаецца з чырвоным дэкорам, тканым альбо вышываным.

З гэтага часу мастак найстойліва эксперыментуе, выпісваючы вывы белым па белым, альбо па бела-серабрыста-шэрым, імкнецца захаваць пры агульнай фармалістычнай стылістыцы пэўную рэалістычную аўтэнтычнасць вобразаў. Ён выпрацоўвае ўласную "фармалістычную" стылістыку: захоўвае ледзь бачную "рэалістычнасць" галоўных сэнсавых выяў, выпісваючы іх танюткім графічным абрысам. ("Сон на воўчым востраве" (1993), "Кара з неба" (1995), "Не з тае галавы карона" (1996) і інш.)

Неабходна адзначыць, што гэтую жывапісна-графічную стылістыку Марачкіну ўдалося стварыць, дзякуючы яго выключным здольнасцям графіка-рысавальшчыка. Ён з маладых гадоў адным рухам рукі рысуе ўпэўненай імклівай лініяй партрэты — "Аўтапартрэт" (1966), "Ігар малюе" (1970), а таксама тэматычныя аркушы "Птушкі майго дзяцінства" і "Піліпаўка" (1980), "Роздум ля чыстага палатна" (1985) і інш.

У творах Алеся Марачкіна адлюстравана наша мінуўшчына і сучаснасць. Спасцігнуўшы глыбінны духоўны змест беларускага традыцыйнага мастацтва, ён стаў адметным нацыянальным мастаком, самабытныя творы якога з'уляюцца візітнай карткай сучаснага мастацтва Рэспублікі Беларусь.

**Мая ЯНІЦКАЯ**

---

сінтэтычнага мастацтва — опернага спектакля! "Дэбютанты" адаптаваліся і вытрымалі выпрабаванне свайго прафесіяналізму ў годнасцю. Апроч таго, далі тры сімфанічныя канцэрты пад кіраўніцтвам дырыжора фестывалю Даніэла Калегары. А на заканчэнне свята адбылося выкананне імшы В. Беліні ў вялікай царкве "віктарыянскіх" часоў.

У беларускіх музыкантаў бралі інтэрв'ю карэспандэнты такіх вядомых газет, як "Нью-Йорк Таймс", "Файнэншыал Таймс", "Айрыш Таймс". Запісы оперных прэм'ер будуць выдадзены на трох адмысловых CD, якія атрымае і Беларуская дзяржаўная філармонія.

Словам, ірландцы не памыліліся, абраўшы беларускі музычны калектыў на ролю аднаго з галоўных чыннікаў юбілейнай імпрэзы. У нашым фестывальным жыцці, зазначыў Ю. Гільдзюк, дамінуе песня, а ёсць жа ў свеце і такая вось з'ява... Усцешна, што гэтак годна спрычыніліся да яе прадстаўнікі Беларусі. Уэксфардскі вопыт сур'ёзнага міжнароднага музычнага супрацоўніцтва будзе мець працяг.

**С. ВЕТКА**

---

НАДЗЁННАЕ

# У пошуках выйсця

***14 снежня ў Мінску мае адбыцца II з'езд Беларускага саюза музычных дзеячаў. Старшыня яго праўлення, народны артыст Беларусі прафесар Міхась Дрынеўскі рыхтуецца выступіць са справаздачным дакладам, у якім будуць падсумаваны вынікі дзейнасці саюза і яго кіраўніцтва за 1997—2001 гг. А цяперашняе становішча гэтага грамадскага аб'яднання, аднаго з самых маладых у краіне, ніяк не назавеш бязбедным. Таму ўвага дэлегатаў на з'ездзе будзе абавязкова скіраваная не толькі на дасягненні БСМД, але і на праблемы, якія замінаюць паўнавартаснаму арганізацыйна-творчаму працэсу. Пра гэта сведчыць і сённяшняе інтэрв'ю намесніка старшыні праўлення БСМД Наталлі ВІТЧАНКІ.***

**— Наталля Васільеўна, калі ласка, некалькі слоў пра асаблівасці жыцця Беларускага саюза музычных дзеячаў паміж з'ездамі.**

— Вы памятаеце, наш мінулы з'езд у лютым 1997 года заканчваўся на трагічнай ноце: паўставала пытанне пра самароспуск саюза. Гэта здарылася з-за таго, што ў 1996 годзе былі адмененыя апошнія льготы, якімі карысталіся творчыя саюзы, а ў выніку — павялічаная тысячакроць плата за арэнду памяшкання "з'ядала" ўсялякія фінансавыя паступленні ў наш саюз. Усе супрацоўнікі апарату праўлення былі звольнены, засталіся весці ўсе справы толькі два намеснікі яго старшыні...

**— Не сакрэт, што саюз трываў дзякуючы энтузіязму і аптымізму і самога Міхася Паўлавіча Дрынеўскага, і яго першага намесніка Томаса Мацвеевіча Курылы, і ваша: ведаю, што вы прыцягвалі да справы ў якасці памочнікаў ці не ўсю сваю сям'ю! Што вымушала кіраўнікоў БСМД трымацца і працаваць у той, здавалася б, безнадзейнай сітуацыі?**

— Думаю, толькі адчайная надзея ды адказнасць за слова, дадзенае дэлегатам Устаноўчага з'езда... Ды, дзякуй Богу, нарэшце ў 1998 год, калі для творчых саюзаў была ўстаноўлена прымальная арэндная плата і пачалося фінансаванне творчай дзейнасці з дзяржбюджэту.

Мы рады, што ў гэтых цяжкіх варунках удалося захаваць формы дзейнасці нашага саюза, найперш — прафесійныя асацыяцыі. Дарэчы, "ЛіМ" неаднойчы пісаў пра тое, як выдатна зарэкамендавала сябе Асацыяцыя беларускіх цымбалістаў пад кіраўніцтвам народнага артыста, прафесара Яўгена Гладкова. Распачатае, дзякуючы намаганням БСМД, трыумфальнае шэсце беларускіх цымбалаў на міжнароднай арэне найлепшым чынам паўплывала на развіццё сучаснай нацыянальнай школы выканальніцтва на гэтым інструменце. Яскравае пацвярджэнне — выступленні музыкантаў на рэспубліканскім фестывалі "Срэбны звон цымбалаў", які мы ўжо двойчы праводзілі, сумесна з Міністэрствам культуры.

Стабільна і грунтоўна працуюць Беларуская асацыяцыя дамрыстаў і мандалiністаў, якую ўзначальвае заслужаная артыстка Галіна Асмалоўская, а таксама Беларуская перкусійная асацыяцыя пад кіраўніцтвам Уладзіміра Судноўскага ды Ігара Аўдзеева.

Прыярытэтнай формай дзейнасці саюза застаецца праца па павышэнні прафесіяналізму нашых музыкантаў. Штогод па 2-4-х спецыяльнасцях праходзяць Курсы вышэйшага выканальніцкага майстэрства, рэспубліканскія семінары ды канферэнцыі. Для іх кіраўніцтва запрашаюцца спецыялісты з краін бліжняга ды далёкага замежжа. БСМД удзяляе ўвагу правядзенні нацыянальных святаў і фестываляў. Сябры саюза, якія маюць вострую патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе, атрымліваюць яе.

**— Такім чынам, Беларускі саюз музычных дзеячаў сустрэў сваё 10-годдзе з пэўнымі дасягненнямі...**

— Можна, думаю, казаць, што, нягледзячы на цяжкія ўмовы свайго існавання, саюз зрабіўся прыкметнай з'явай у культурным жыцці краіны, сюды ідуць музыканты са сваімі пытаннямі, прапановамі, праблемамі, тут імкнуцца заўжды ім чым-небудзь дапамагчы. Нашы аддзяленні працуюць на грамадскіх асновах у Брэсцкай, Гомельскай, Мінскай, Магілёўскай абласцях, у сталіцы. Яны аб'ядноўваюць каля 700 музыкантаў. Толькі ў Беларускай акадэміі музыкі пярвічная арганізацыя БСМД налічвае 106 чальцоў: гэта выкладчыкі, прафесары.

Безумоўна, уся шматгранная дзейнасць саюза не магла б ажыццяўляцца намаганнямі толькі двух штатных супрацоўнікаў апарату праўлення. І я выказваю велізарную ўдзячнасць усім, хто працуе з намі дзеля росквіту нацыянальнай музычнай культуры, асабліва — Беларускай акадэміі музыкі, Беларускай дзяржаўнай філармоніі, Рэспубліканскаму каледжу пры БАМ, Беларускаму інстытуту праблем культуры, ДМШ № 10 і шматлікім іншым нашым сябрам.

**— Падчас пленумаў праўлення саюза, што адбываліся за гэтыя 10 гадоў, вяліся і крытычныя размовы наконт яго дзейнасці. Праблемы застаюцца?**

— Вядома, з-за ўжо названых аб'ектыўных прычын не ўсё ўдалося ў нашай дзейнасці захаваць. Прынамсі, дагэтуль на пленумах гучаць прапановы ўзнавіць выдавецкую дзейнасць, якая ў свой час пачала плённа развівацца. Раней мы выдавалі серыю "выдатныя дзеячы беларускай музычнай культуры". Цяпер гэтая справа спынілася. І аналагаў ёй няма. Як і няма ў краіне сур'ёзнага спецыялізаванага музычнага часопіса ці газеты, што маглі б сфарміравацца на аснове інфармацыйна-публіцыстычнага бюлетэня "Музыка". Мы выдавалі яго ў 1992—93 гадах.

Але ж на ўсё патрэбны грошы. Вось калі б творчым саюзам ды іх падведамасным установам вярнулі сістэму падатковых ільгот — гэта дало б магчымасць зарабляць грошы на самазабеспячэнне нашай дзейнасці. Вядома, што нядаўна творчым саюзам былі вернуты льготы па падатках на прыбытак і на дадатковы кошт. Ды справа ў тым, што само праўленне саюза ніякай вытворчай гаспадарчай дзейнасцю не займаецца! Так што гэтыя льготы рэальнага выніку не даюць. Трэба, каб такія льготы былі прадстаўлены прадпрыемствам, што знаходзяцца ва ўласнасці саюза, тады частка іх прыбытку магла б накіроўвацца на выкананне статутных задач.Як у пачатку 90-х, калі нам хапала сродкаў на ажыццяўленне ўсіх праектаў і планаў.

**— Надзея ёсць?**

— Надзеі мала. Будзем шукаць выйсце з сённяшняга становішча БСМД на з'ездзе.

**Гутарыла С. БЕРАСЦЕНЬ**

---

ПАМЯЦЬ

# "Успамінайце мяне дабром..."

"Расказвайце пра мяне хоць зрэдку. І, калі ласка, успамінайце мяне дабром. Артысты жывуць толькі ў памяці людзей..." Гэтыя словы сэра Джона са спектакля "Касцюмер" Р. Харвуда купалаўцы нездарма выбралі ў якасці эпіграфа да вечара памяці Мікалая Мікалаевіча Яроменкі-старэйшага. Нездарма не толькі таму, што гэтая роля для вялікага акцёра стала апошняй на купалаўскай сцэне. Роля англійскага трагіка, які збягае з бальніцы ў вельмі цяжкім фізічным стане, каб адыграць свой апошні спектакль, стала сімвалам лёсу і яе выканаўцы. Гэты спектакль — сапраўдны гімн тым, хто ахвярye свам жыццём дзеля тэатра.

27 лістапада зала купалаўскага была запоўнена сябрамі і прыхільнікамі таленту Мікалая Мікалаевіча. На сцэну выходзілі людзі, якім пашчасціла працаваць і сябраваць з Яроменкам многія гады: народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі, старшыня Беларускага саюза журналістаў Леанід Екель, пісьменнік Мікалай Чаргінец, рэжысёр Мікалай Пінігін. Вялі вечар Віктар Манаеў, колішні партнёр Мікалая Мікалаевіча па "Касцюмеру" і Святлана Сухавей, актрыса Тэатра-студыі кінаакцёра, дзе Яроменка-старэйшы сыграў у п'есе Б. Шоу "Мілы лжэц" сваю апошнюю ролю ў тэатры.

Цудоўны чалавек, акцёр, грамадзянін. Удзельнік Вялікай Айчыннай, ардэнаносец, сенатар беларускага парламента, лідэр беларускай інтэлігенцыі, прэзідэнт Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў... Да "дзядзькі Колі" ішлі з творчымі і асабістымі пытаннямі не толькі пачаткоўцы, але і сталыя творцы. Ішлі, бо добра ведалі, што ён выслухае, дасць параду, услрыме праблему, як сваю, і калі трэба — дапаможа.

Кінематограф прынёс Мікалаю Мікалаевічу вялікую папулярнасць. На рахунку Яроменкі-кінаакцёра 50 мастацкіх і тэлевізійных фільмаў, сярод якіх "Напярэдзе круты паварот", "Крушэнне імперыі", "Вызваленне", "Руіны страляюць...", "Полымя", "Салдат свабоды", "Смак хлеба", "Пятроўка, 38", "Зала чакання" і многія-многія іншыя. Калі на экраны Саюза выйшаў фільм "Людзі і звяры", паводле апытання часопіса "Советский экран" гледачы назвалі Мікалая Мікалаевіча лепшым артыстам года. На вечары памяці гледачы ўбачылі некалькі ўрыўкаў з самых вядомых фільмаў, дзе здымаўся акцёр, — гэта "Масква—Генуя" У. Корш-Сабліна, "Людзі і звяры" С. Герасімава і, вядома, "Сын за бацьку...". Нагадаем, што гэты рэжысёрскі дэбют Мікалая Яроменкі-малодшага быў адзначаны на фестывалях "Кінатаўр" і "Залаты віцязь", а на Першым нацыянальным фестывалі беларускіх фільмаў, што праходзіў у Брэсце, Мікалай Мікалаевіч-старэйшы атрымаў Гран-пры за лепшую мужчынскую ролю і за вялікі ўклад у беларускае кінамастацтва.

Калі кінаплёнка захавала талент і майстэрства кінаакцёра, дык тэатральныя ролі Мікалая Мікалаевіча засталіся толькі ў памяці гледачоў ды яшчэ на фотаздымках. 11 год жыцця Яроменка аддаў віцебскаму тэатру імя Я. Коласа, больш 30 — галоўнай сцэне краіны, купалаўскай, прычым тры з іх — у якасці дырэктара тэатра. Многія прыходзілі ў тэатр не на спектакль, прыходзілі — "на Яроменку". Што можа быць больш высокай адзнакай акцёру? Грэкаў у "Варагах" М. Горкага, Міканор у "Людзях на балоце" І. Мележа, Канстанцін Заслонаў у аднайменнай п'есе А. Маўзона, Вяршыла ў "Мудрамеры" М. Матукоўскага, Вышнеўскі ў "Даходным месцы"А. Астроўскага... Ён быў ідэальным сацыяльным героем, і толькі "Касцюмер" у таленавітай пастаноўцы Мікалая Пінігіна паказаў гледачу, якога цудоўнага Гамлета, Макбета, Ліра ў свой час не заўважылі рэжысёры за ягоным "гераізмам" і мужчынскай абаяльнасцю.

У гэты ж дзень у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў на будынку па вуліцы Максіма Танка, 16 была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар Мікалая Мікалаевіча — яшчэ адзін знак пашаны і ўдзячнасці Чалавеку з вялікай літары. Дзякуй богу, і пры жыцці яго талент, яго чалавечыя якасці былі




ацэнены належным чынам: у сваe 29 гадоў ён стаў самым маладым заслужаным артыстам рэспублікі, потым была Дзяржаўная прэмія за ролю Вяршылы ў спектаклі "Мудрамер" М. Матукоўскага, а ў 1989-м — ганаровае званне народнага артыста СССР.

"Я пражыў вялікае жыццё. Ніякіх подзвігаў не здзейсняў, але ў душы веру, што здолею пакінуць свой след, захаваўшы сябе чалавекам. Я больш аддаў людзям, чым узяў ад іх. І назаўсёды застануся верным гэтаму прынцыпу", — гаварыў пра сябе акцёр у кнізе "Тры "Я", прысвечанай творчай сям'і Яроменкі. І гэта было сапраўды так. А цяпер людзі аддаюць яму — памяццю і пашанай. Мы помнім вялікага чалавека і ён жыве.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*Фота М. ПРУПАСА*

# Два вянкі

**У Другім міжнародным літаратурна-мастацкім пленэры "Ля вытокаў Бебжы" ў Дуброве Беластоцкай (Польшча), пра які мы сёлета расказвалі (гл. нумар за 14 верасня), бралі ўдзел і дзве нашыя паэткі — Галіна Каржанеўская і Людка Сільнова. Вершы, напісаныя падчас пленэру, пад іх рукамі паступова сплаліся ў вянкі, якія прыплылі ўрэшце да нас — з таго рамантычнага польскага лета ў беларускую восень. Ці то па хвалях той самай таямнічай Бебжы, ці проста на плыні безупыннай, нябачнай ракі часу...**

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

•

*Як сырадой, піла паветра*
*Каля дубровы маладой.*
*Куды падзеўся смутак мой?*
*Вакол пейзаж у стылі рэтра.*

*З аблокаў шэрых, нерухомых*
*Упалі кропелькі на твар.*
*Не трэба безжыццёвых мар,*
*Яны пакінуты ўсе дома.*

*Азваўся конік між ячменю.*
*Не так далёка да мяжы...*
*І кажа сэрцу край чужы,*
*Што падае мне доля —*
*жменяй...*

## Зайдзіце ў храм

*Зайдзіце ў храм,*
*пакуль адкрыты дзверы,*
*Адкрыйце сэрцы*
*радасці і веры.*
*Бо можа наступіць*
*той час ліхі,*
*Калі зачыняць*
*наглуха грахі*
*І станеце як бункер*
*ці як склеп —*
*Згубіліся ключы*
*і дух аслеп*
*У цемры падсвядомаснай,*
*жывёльнай...*
*Чым болей раскрыцца,*
*тым болей волі...*

•

*Мне папалася ранняя ліпа,*
*Што раней за другіх зацвіла.*
*Разварушаным роем гула,*
*У пахкім цвеце*
*купалася нібы.*

*Прыгажуняй была, маладухай,*
*Аддавала да рэшты мілосць...*
*Я ж была толькі зморань госць,*
*Што хацеў прытуліцца ды слухаць.*

•

*Каля кляштарнага мура,*
*Дзе кожны камень — сведка,*
*Шчаку сагрэла дый пара.*
*Не толькі ружа — кветка.*

*Калі на сэрца ляжа змрок,*
*Мне промнем думка будзе:*
*На свеце ёсць Ружанысток,*
*Дзе людзі не як суддзі...*

•

*Хто маці сцураўся,*
*Каму не баліць,*
*Хто ў норцы сваёй, халадзеючы,*
*Спіць,*
*Хто жыцце марнуе*
*І ў спрэчцы з сабой —*
*Той будзе разбуджаны*
*Суднай трубой.*

*І дзесь угары,*
*Азіраючы свет,*
*Арханген рыхтуе, відаць,*
*Інструмент.*

•

*Усё абсалютна пакінула дома —*
*Клапоты і спрэчкі,*
*задуху і стому,*
*І бабскае долі сяброўку — пліту.*
*Я тут, як садовае дрэва, расту.*

*Пакуль мастакі выбіралі натуру,*
*Я грэла бакі ля касцельнага муру.*
*Прыгоршчамі сонца высокае брала,*
*Штовечар*
*ваколіцай соннай блукала.*

*Пакуль мастакі малявалі эцюды,*
*Прыходзілі вершы*
*пра гэтае цуда —*
*Памежны, смугою атулены край.*
*Да кропелькі, памяць,*
*яго захавай...*



Людка СІЛЬНОВА



## Тры эцюды

### МАСТОК

*Мастак, здаецца мне, — масток*
*Між берагамі рэчкі...*

*Прыехалі ў Ружанысток —*
*Злучылі дух і рэчы.*

### РАКА

*Цячэ цяпершчыны рака,*
*Дымяцца хвалі — з малака*
*І мёду, яснага агню,*
*Сцяблін, працяўшых глыбіню...*

### ЛЮБІЦЬ

*Вучуся любіць*
*І кахаць,*
*І здавацца*
*Спакойнай і чыстай,*
*Калі хваляваца*
*Патрэбна: ад палкі,*
*Кароткай і мокрай,*
*Кругі па вадзе*
*І з глыбіняў — дымок як.*

## Ружанысток

*Набліжэнне да Польшчы.*
*Да Ружовага Сцёку,*
*Да ручаіны,*
*Якая імкне свае воды*
*З зялёнай гары — уніз*
*І нясе ў сваіх хвалях,*
*Як на сподках лагоды,*
*Ружы:*
*Белая — то журба,*
*Чырвоная — то каханне,*
*Жоўтая — то прыязнь,*
*Ружовая — Боскія цноты...*

## Інтэрнат

*Прыехалі ў Ружанысток*
*І разгрузілі рэчы:*
*Эцюднікі — цары дарог,*
*Палотны, фарбы, печыва,*
*Хусцінкі, пэндзлі і пастэль,*
*Алоўкі, шорты, акварэль...*

*Нас пасялілі — у Хрыста*
*За пазухай як быццам.*
*Метамарфозаў пекната*
*Павінна тут адбыцца...*
*Адсюль у невядомы край —*
*Пленэрскі рай — штодня сягай!*

## Вечар на беразе Бебжы

*Мы каштавалі "Бабровыя слёзы"*
*З маленькіх кілішкаў пад смутнай бярозай.*

*Долам туман рассцілаўся ракой —*
*Таемны, малочны, начны сырадой.*

*І бэзавых кветак каменьчыкі ўроссып*
*Нагадвалі Бебжы празрыстыя слёзы...*

*Агністая ружа сцякала праз дым*
*Уверх, да люстэркаў нябёс маладых.*

## Дыпціх

1.

*Мастакі за палотны — і ў поле*
*Замалёўваць прыроду і волю.*

*У зялёна-блакітнай хусціне*
*Завязаць — і за плечы закінуць.*

*І панесці па свеце далёка,*
*Праз гады каб гукаць і галёкаць —*

*Птушка птушку. З тых дзіўных чародаў,*
*Што знікаюць у рай назаўсёды.*

2.

*Мастакі за палотны — і ў поле,*
*А паэтка — клубніцы ў прыполе*

*Прынясе і згатуе гарбаты,*
*Побач цюцік заскача калматы.*

*А яна, мастакам не пярэча,*
*Свой малюнак нягеглы скамеча,*

*Раскладзе на стале сваёй веры*
*Нож, аловак, асадку, паперы.*

*Плён паэткі — не горшы, не лепшы,*
*Але ўласны: ўладарныя вершы...*

*Мы на сонечным Боскім пленэры —*
*Усе! — уяўнай зямлі піянеры.*

## Жанчына малюе кветкі

Ганне-Луізе ЮСЬКЕВІЧ,
польскай мастачцы,
удзельніцы пленэру

*Жанчына малюе кветкі...*

*Гародчыкі і сады*
*Стварае пяшчотным пэндзлем*
*На белай шурпатай паперы,*
*Даверлівай і — удзячнай*
*(Толькі — здзіўленай трохі*
*Яе нежаночай сіле).*

*Жанчына малюе кветкі*
*И кладзе на падлогу малюнкі,*
*Развешвае іх па сценах*
*І — пасылае ў неба*
*Свой квяцісты бунтоўны плён...*

*І пачынае павольней*
*Круціцца гарбуз планеты.*
*І мальвы далёкіх сузор'яў*
*Хістаюцца ў замілаванні.*

*А жанчына-мастачка — сядае*
*У крэсла спакою і любасці*
*І, расправіўшы фальбоны хмараў,*
*Марыць пра недаступнае — Бога.*

# ДВА АПАВЯДАННІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар.9)

Я моўчкі слухаў яе, а яна расказвала і расказвала. Пра кошку Алісу і пудзеля Дзіка, пра спаніеля Освальда, якія раней жылі ў іх кватэры. Проста — лавіна слоў. Нібы год не размаўляла, а цяпер яе прарвала. Я парываўся пайсці: што мне да яе сабак і катоў? Я не снедаў, і да пачатку працы можна было б перакусіць у кавярні.

— Мы так даўно размаўляем, — раптам сказала яна, — Як вас завуць? Я — Галя.

— Анатоль, — нічога не заставалася, як назваць сябе.

— Не здзіўляйцеся, што шмат гавару. Я ўвесь час адна дома. Муж і дачка на працы. З суседкамі не надта сябрую — адны пляткаркі. А хочацца калі-нікалі перамовіцца... Я часта бачу праз акно, як вы ідзяце на працу, з працы... Вось знайшла момант пазнаёміцца. Кавы выпіць не хочаце?

— Тут, пад гэтымі дрэвамі? — пажартаваў я.

— Навошта. Унь у тым чырвоным доме я жыву, трэцяе акно ад кута.

Чаму б і не! У кішэні ў мяне — толькі на чай ды булачку. Пап'ю кавы. Можа, і бутэрброды будуць. А калі муж дома? Што б я сказаў жонцы, убачыўшы з ёю чужога мужчыну?

— Дома нікога няма і да вечара не будзе, — сказала яна, нібыта прачытаўшы мае думкі.

І я пайшоў. Дома яна зняла плашч. Формы ў яе былі рубенсаўскія. Пры ўсіх размовах пра моду на высокіх і худых жанчын, думаю ніводзін мужчына не абміную бы сваім позіркам гэткую постаць. Яе вочы сутыкнуліся з маімі, і ўсмешка ажно зайграла на вуснах Галіны: у ёй былі радасць, жаданне, страсць і голад.

— Я ведаю цябе даўно, назірала за табою. Ты неяк ішоў... Высокі, здаровы. У мяне грудзі, бачыш, якія вялікія? Урач сказаў, каб у мяне быў мужчына. Інакш — рак... Я назірала за табою. Рашыла: чым з абы-кім, дык лепш з табою... Я цябе заўважыла... Ты мне спадабаўся. Мы ўсе жывем пад богам. Ты ішоў па вуліцы высокі, малады... Я за табою назіраю даўно, як ты толькі пачаў працаваць у сваёй канторы. Ты мяне, канечне, не ведаў... — яна прыхілілася да мяне. — Не думай, я не вар'ятка. Адной гэтак сумна... А жыццё, здаецца, такое кароткае... Муж на дваццаць гадоў старэйшы за мяне. Ты ж бачыш, якая я. Абы з кім не хацела. Пра цябе ўсё ведаю. Я — вар'ятка. Відаць... Мне ўсё роўна... Ты праводзіў некалькі разоў жанчын.Я раўнавала.Я ўяўляла як вы ў ложку, як ясце, цалуецеся... Пацалуй мяне... Не бойся... Не ўкушу... Ідзі да мяне... Ты — як белы наліў, а я — антонаўка перасепая, але ж — не гнілая?

Што мне казаць? Уцячы? Не на таго натрапіла. Помню, у студэнцкія гады да Лёшы Казака, які прыкінуўся хворым на туберкулёз і меў асобны пакой, а пасля стаў святаром, бегала амаль штодзень пяцідзесяцігадовая Валя. Яна абрыдла яму, і ён яе не пускаў у пакой. Валя крычала: «Лёшка, пусці! Хачу цябе!» Казак праз зачыненыя дзверы адказваў: «Пайшла, с..., л..., б...!»

— Ты — цуд, ты — маліна... — кажу я. — Ты — антонаўка з пахам маліны. Ты — смаката!..

Ад яе гарачых пульхных грудзей патыхала жарам. Мы цалаваліся і цалаваліся. Зноў і зноў. Здалося, яна праглынула ўсяго мяне сваім вялікім прагным целам. Мільгалі думкі: а калі муж, дачка? Добра, што першы паверх, паспею выскачыць. О, божа, яна нічога і нікога не баіцца.

Я забыў, наколькі Галя старэйшая за мяне.Я забыўся пра ўсё. Хто я, дзе я. Я бачыў столь, падлогу, потым — падлогу, столь...

Гэтае шаленства доўжылася, здалося, вечна. Мне было так добра. Як кажа адзін мой сябра, не я рабіў з ёй чорта, а яна са мною... Пасля, калі я зірнуў на гадзіннік, пабачыў, што мінула толькі паўгадзіны, а здалося—прайшла вечнасць. Мабыць, яна абцалавала ўсяго мяне. Я нават падумаў: ці не дурнаватая яна?.. А пасля і сорамна стала: вось як думаюць мужчыны пра жанчын. Яна — табе ўсё, а ты... Ты — нішто...

Потым мы сядзелі за сталом — акуратныя, трошкі расчырванелыя. Яна адзела шыкоўны зялёны халат, на шыі — кальє з вялікіх караляў. Частавала мяне бутэрбродамі з чырвонай рыбай і кілбасой, халоднай курыцай. Выпілі паўбутэлькі гарэлкі. Больш ужываў я, вядома, яна толькі мачыла вусны.

Яна расказвала пра сябе, сваіх дзяцей, мужа. На развітанне папрасіла не забываць яе. Праз тыдзень ёй у бальніцу. Маўляў, будзеш ісці на працу — загляні, мне будзе свята, пасля дзесяці заўсёды можна пазваніць... І падумаў я: нешта робіцца з нашымі жанчынамі? А, можа, з намі мужчынамі? Скажу адно: мне было добра!

Назаўтра ў мяне надарылася нечаканая камандзіроўка ў Ерэван. Я ляцеў у самалёце і ўспамінаў сваё новае знаёмства. Перад вачыма ўзнікалі рубенсаўскія грудзі і сцёгны, на вуснах адчуваў гарачыя пацалункі з пахам маліны. Ад гэтых малюнкаў у мяне быццам узнялася тэмпература. Я марыў як хутчэй вярнуцца ў Мінск, зноў убачыць рыжыя доўгія валасы і прагную галодную усмешку на мяккіх салодкіх вуснах...

Але — апынуўся дома толькі праз некалькі тыдняў. Збіраючыся на працу, патрапіў вачыма ў запісной кніжачцы на нумар тэлефона, побач з якім было напісана: Галіна. Я пазваніў. Ніхто не падымаў трубку. На трэці ці чацвёрты раз пачуў дзіцячы голас.

— Гэта хто, дзядзя Міша?

— Не, не дзядзька Міша. Пакліч, калі ласка, Галіну... — як яе па-бацьку — не запісаў, паўтарыў: — Пакліч Галіну...

— А бабушка Галя памерла, — неяк нават амаль радасна паведаміла дзіця.

— Хто гэта, хто пытае? — перахапіла трубку сталая жанчына.

— Знаёмы...

— Мама памерла тры дні назад...

Я паклаў трубку і доўга-доўга сядзеў ля вакна, углядаючыся ў пачарнелае лісце дрэў, у сівое халоднае неба, мітусню машын на вуліцы. Чырвонае золата восені было ўжо ледзь прыкметнае...

## Богазваная нявеста

<u>**Сёння святкуецца дзень святой велікамучаніцы Кацярыны.**</u> **Ужо само імя, дадзенае бацькамі, запраграмавала яе лёс на Прыгажосць, на Каханне. Кацярына ў перакладзе з грэцкай мовы — "заўсёды чыстая". Яе лёс — гэта аповесць Кахання. Чыстага. Высокага. Прыгожага. Сам Гасподзь абраў яе сваёй Нявестай. Чытаем у "Жыціях Святых": "Богородица прия руку отроковицы и глагола к Сыну: "Даждь ее. Чадо мое, перстень в обручение и уневести ю себе, яко да сподобиши ю царствия твоего". Тогда владыка Христос дал ей один краснейший перстень, глаголя сия: "Се днесь приемлю тя в невесту себе, невесту вечну". Без сумнення, гэта цудоўнае абручэнне стала падставай для дзяўчат, якія шукаюць шчасця ў сямейным жыцці, абраць Кацярыну сваёй заступніцай. "Блажэнная невесто, блажэнная Екатерино", — гучыць у трапары ў яе гонар.**

**Ёй прысвячаю гэтую нізачку старажытных малітваў, якія калісьці бытавалі ў вёсцы Старое Сяло Веткаўскага раёна.**

•

*Добрае утра*
*зоры-заранiцы*
*месяцавы памашніцы*
*вы далёка ходзіце*
*еслі відзілі майго любімага*
*то паляціце на мора*
*палажыце маю пячаль у ваду*
*нараджоны храшчоны будзя піць*
*будзя мяне нараджоную*
*храшчоную любіць*

•

*месячку*
*яварычку*
*кандрацiку*
*не вей*
*ты*
*па лугах*
*па лясах*
*ды павей*
*ты*
*па тых дарогах*
*куды раб божы ідзець*
*да схапі*
*яго*
*за русыя косы*
*ў сярэдзіне за сэрца*
*за белыя пяты*
*каб не змог перайсці*
*без рабы божай*
*ні сяней*
*ні хаты*

•

*добры дзень*
*рака гарда*
*не прыйшла я к табе вады браць*
*а прыйшла любові прасіць*
*ты*
*моеш*
*луга*
*берага*
*каменні*
*краменні*
*змой*
*з мяне*
*гнядоту*
*брыдоту*
*накладзі*
*на мяне*
*любоў*
*красату*
*чыстату*
*гнядота*
*брыдота*
*за вадою*
*любоў красата*
*за рабою божай мною*

**Генадзь ЛАПАЦІН,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці**

## "Я люблю гаварыць пра каханне..."

**Днямі ў Мінскай гарадской бібліятэцы імя Францішка Багушэвіча адбылася сустрэча паэткі Валянціны Аксак з прыхільнікамі яе таленту.**

**У невялікую залу бібліятэкі прыйшлі навучэнцы беларускага аддзялення Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1, іх выкладчыкі, настаўнікі школ Фрунзенскага раёна сталіцы. Дарэчы, не так даўно ў гэтай жа зале адбылася літаратурная вечарына, героем якой быў муж Валянціны Аксак пісьменнік Уладзімір Арлоў.**

**Сустрэча пачалася з выступлення вядучай — супрацоўніцы бібліятэкі Наталлі Стрыгельскай, якая коратка, але змястоўна акрэсліла асноўныя этапы творчасці і духоўнага станаўлення пісьменніцы.**

**Госця расказала прысутным, што нарадзілася на Нясвіжчыне, пасля пераехала ў Мінск, дзе грунтоўна займалася сусветнай гісторыяй, пісала вершы, якія выдала ў полацкі перыяд свайго жыцця двума зборнікамі: "Цвінтар" (1992) і "Капліца" (1994).**

**Галоўнымі ў творчасці пісьменніцы з'яўляюцца тэмы кахання і Радзімы. "Я люблю гаварыць пра каханне...", — прызналася Валянціна Аксак. Паэтэса падзялілася цікавымі назіраннямі пра сучасную паэзію, у прыватнасці, закранула асаблівасці творчай манеры некаторых маладых аўтараў.**

**Вечарына прайшла ў атмасферы высокай духоўнасці і шчырасці. Прысутным вельмі пашанцавала: у іх была магчымасць набыць апошні зборнік вершаў Валянціны Аксак "Антычны дождж", які выйшаў у Вільні накладам усяго ў сто асобнікаў.**

**Андрэй ГРЫГАРОВІЧ,**
**навучэнец Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа № 1**

ВАНДРОЎКІ

# Сустрэча з Краінай ранішняй прахалоды

Першая сустрэча з новай краінай, як першае знаёмства з не вядомым табе раней чалавекам. Пачуццё, якое ўзнікае пры гэтым, бадай што беспамылкова перадае стан душы, шалі тваёй падсвядомасці паказваюць альбо плюс, альбо мінус — ты ўспрымаеш альбо не ўспрымаеш субяседніка. Далей — болей: ты альбо губляеш усялякую цікавасць да асобы альбо ставішся абыякава, альбо, наадварот, адчуваеш нешта блізкае і роднаснае і з радасцю чакаеш новых сустрэч. Нешта падобнае адбылося і з намі — ансамблем "Грамніцы" універсітэта культуры (мастацкі кіраўнік У. Зяневіч, харэограф С. Гуткоўская), калі восеньскім ранкам мы прызямліліся (9 гадзін лёту!) ў "Краіне ранішняй прахалоды" ў аэрапорце Інчона, што знаходзіцца недалёка ад Сеула.

Прэзідэнт краіны Кім Дэ Джун аб'явіў 2001 год годам адкрытых дзвярэй. Кожная паўднёвакарэйская правінцыя павінна была правесці які-небудзь фестываль альбо канферэнцыю. Мэта гэтай акцыі зразумелая — абудзіць цікавасць да Карэі, завязаць кантакты з рознымі краінамі, знайсці новыя рынкі і г.д.

Ансамбль "Грамніцы" прыняў удзел у двух фестывалях: фестывалі масак у горадзе Андон і фестывалі керамікі, які праходзіў у трох гарадах (Ічхоне, Кванджу і Йоджу). Але ўсё па парадку.

Едзем да месца нашай першай канцэртнай пляцоўкі ў Андон. Стомленыя твары з цікавасцю ўглядаюцца ў вокны шыкоўнага аўтобуса. Паабапал дарогі дзіўны для нашага вока пейзаж: незразумелая зямля, пакрытая нейкай раслiннасцю бурага колеру. Наша перакладчыца (вельмі мілая дзяўчына па імені Сон Хі) тлумачыць, што гэта дно мора, зараз жа час адліву. Праязджаем нізкарослыя сады і раптам — жоўценькае-жоўценькае поле рысу. Дзенідзе ўжо стаяць снапочкі (дзе ім да нашых жытнёвых!). І куды ні кінеш вокам — усюды горы (займаюць 70% тэрыторыі краіны). Не дзіва, што кожны лапік зямлі апрацаваны і дагледжаны і ўсюды цяпліцы. Такое ўражанне, што ўся Карэя ў цяпліцах. Праязджаем сады з яблыкамі, мандарынамі, вінаградам, хурмой. Дзяўчаты жартуюць: "І ніхто не трасе. Пусцілі б нас да гэтай хурмы". А гэта што такое? Кожны плод, памерам з маленькую дыню, вісіць на дрэве ў спецыяльнай сетачцы. Даведваемся, што гэта гонар тутэйшых людзей — карэйская груша. (Нездарма ганарацца: аказалася надзвычай салодкай і смачнай). Потым бачылі мы і кавуны ў сетках, і яблыкі. І ўспомніліся горы гнілых яблыкаў у нашых калгасных садах, калі яшчэ студэнтамі мы ездзілі на бульбу.

З аўтабана зварочваем на дарогу, усаджаную, як нам падалося, вярбой. Аказалася гэта малады бамбук. Аднак больш за ўсё кідаецца ў вочы сасна, ёсць і бярозы, але не такія белыя, як у нас. Але што звяртае на сябе ўвагу: кожнае дрэўца замацавана спецыяльнымі падпоркамі, а часам абгорнута нейкай тканінаю. Мне патлумачылі, што тут бываюць (асабліва зімой) моцныя вятры. Як жа трэба любіць сваю зямлю, каб з такой любасцю даглядаць кожнае дрэўца!

Час ад часу ў аўтобусе чуваць захопленыя галасы: "Якая краса! Глядзіце, глядзіце! Божа, як прыгожа!" Сапраўды, нас, жыхароў раўніны, горны пейзаж заварожвае сваёй веліччу і нейкай прыхаванай ад вока таямніцай.

Мы ў Андоне. Размясціліся ва ўтульным гатэлі, дзе ўсім спадабаліся спецыяльныя прыборы з фільтраванай халоднай і гарачай вадой у кожным нумары.

Пасля кароткага адпачынку і карэйскай трапезы (пра што гаворка ніжэй) шпацыр па вячэрнім горадзе. Андон па-святочнаму прыбраны. Яркія вывескі, папяровыя ліхтарыкі. У небе велізарныя шары з рэкламай фестывалю, на зямлі — клумбы з кветак у выглядзе пірамід з яго эмблемай. І ўсюды вецер трапеча нацыянальныя сцягі. Нас зацікавіла яго сімволіка. У цэнтры белага палотнішча круг, які называецца **тхэгык** (адсюль і назва карэйскага сцяга — **тхэгыкі**). Круг падзелены на дзве роўныя і цалкам сбалансаваныя часткі рознага колеру. Верхняя **(ян)** — чырвоная, ніжняя **(ін)** — сіняя. Яны з'яўляюцца старажытнымі сімваламі Сусвету, супрацьлеглых касмічных сілаў, якія, змагаюцца адна з адной, ствараючы раўнавагу і гармонію: агонь і вада, дзень і ноч, свет і цемра, стварэнне і разбурэнне, мужчынскі і жаночы пачатак і г.д. Знакі з трох ліній — сімвалы раю і зямлі, агню і вады. Белы фон сцяга азначае чысціню карэйскага народа і яго міралюбны характар. Увесь сцяг сімвалізуе ідэал карэйскай нацыі, якая развіваецца ў гармоніі з Сусветам.

Мы ідзём па вуліцы, дзе няма спецыяльных тратуараў для пешаходаў. Машыны і людзі ў адным патоку, што нас здзіўляе. Асабліва здзіўляе цярплівасць вадзіцеляў і спакойная нетаропкасць пешаходаў. Ідзе сабе чалавек ды ідзе абсалютна не рэагуючы на тое, што літаральна за яго спіной паўзе аўто. Ніякай табе мітусні і ніякай лаянкі. Але гэта мажліва толькі ў невялікіх гарадках, якім і з'яўляецца Андон. Гэта старажытны горад. Ён заснаваны 5 тысяч гадоў назад. Гэты рэгіён здавён славіўся сваімі маскамі. Кожная з іх перадае пэўную рысу характару, нейкі эмацыянальны стан. Маскі давалі мажлівасць простаму чалавеку выказаць свае адносіны, а часам і пакрытыкаваць свайго гаспадара. За маскаю просты селянін хаваў свой твар, каб гаспадар не змог яго пазнаць і пакараць за дзёрзкасць.

Фестываль у Андоне малады: ён праводзіцца з 1996 года, аднак тут ужо паспелі пабываць прадстаўнікі з многіх краін свету. І чым асабліва ганарацца карэйцы, дык гэта тым, што ў 2000 годзе фестываль наведала Элізабет Тэйлар. А ў гэтым годзе можна было пабачыць выступленні калектываў з Кітая, Японіі, Манголіі, Нігерыі, Мексікі, Беларусі, Расіі, Азербайджана. Усе яны прадстаўлялі маскі сваёй зямлі. Нашы — зробленыя з саломкі маскі казы, бусла, мядзведзя, ды і Калядная зорка, выклікалі асаблівую цікавасць. Колькі разоў пасля канцэртаў карэйцы падыходзілі да нашых дзяўчат з просьбай сфатаграфавацца. Так што ні адзін сямейны альбом карэйцаў будзе захоўваць адкрытыя прыгожыя твары беларусак, іх шчырыя ўсмешкі. Карэйцы цікавіліся нашай культурай, а мы імкнуліся як мага болей даведацца пра іх. Яны — надзвычай музычны народ. Дастаткова было бачыць, як яны рэагуюць на нашы песні і танцы. А калі ў канцы канцэрта гучала народная карэйская песня "Арыранг", зала літаральна ўзрывалася ад апладысментаў.

Што тычыцца карэйскага мастацтва, то, здаецца, найбольшым поспехам на фестывалі карыстаўся танец у масках **тхальчхум** — спалучэнне танца з тэатральным прадстаўленнем. Адна камічная сцэна ў ім змяняе другую, высмейваюцца разбэшчаны манах, дурнаваты арыстакрат, пасвараныя муж з жонкаю і г. д. Твары танцораў схаваны пад стылізаванымі маскамі. Танец, па праўдзе кажучы, немудрагелісты. Даўней, па словах нашых карэйскіх сяброў, гэтыя танцы-прадстаўленні разыгрываліся ў маленькіх вёсках, а сёння іх можна ўбачыць толькі ў сучасных канцэртных залах.

Сярод мноства (звыш 40) карэйскіх музычных інструментаў нас больш за ўсё ўразіла вялікая колькасць бубнаў. Асаблівай папулярнасцю на фестывалі карысталіся **чанга** і **квенгвары**. Чанга, па форме вельмі нагадвае пясочны гадзіннік. Бадай што ніводзін канцэрт не абыходзіўся без вядомага і надзвычай папулярнага ў карэйцаў танца з бубнамі, які, як і танец з веерамі, з'яўляецца сапраўднай візітоўкай Карэі. Прывабныя твары, яркія касцюмы, мяккія, прыцягальныя рухі танца з веерам пакінулі незабыўнае ўражанне.

Глядзела на гэтую прыгажосць і станавілася шкада, што заходняя маскультура закранула і гэты блаславёны куточак зямлі. Забягаючы наперад скажу, што непрыемна ўразіў канцэрт, дзе зала, добрую частку якой складала моладзь, ажыўлялася, калі на сцэне з'яўлялася чарговае "цуда", якое натхнёна "пад фанеру" выконвала што-небудзь з заходніх рытмаў на карэйскай мове. А на заключным канцэрце ў Кванджу нам давялося нават пачуць карэйскую інтэрпрэтацыю колішняга хіта Пугачовай "Мільён алых ружаў".

Але дзеля справядлівасці зазначым, што карэйцы добра ведаюць і класічную заходнюю музыку. Дзякуючы маім сябрам мне давялося прысутнічаць на канцэрце аднаго з сеульскіх аркестраў (а іх у Сеуле звыш 20). Уражанне незабыўнае: гучала музыка Пракоф'ева і Равеля. Зала доўга не адпускала саліста, які проста віртуозна выканаў фартэпіянны канцэрт для левай рукі з аркестрам Равеля і быў узнагароджаны доўгімі апладысментамі.

Адно з самых моцных уражанняў пакінулі карэйскія дзеці. Яны былі нашымі першымі гледачамі і слухачамі. Апранутыя ў аднаго колеру касцюмчыкі, узяўшыся за рукі, яны без мітусні займалі месцы ў чаканні канцэрта. Дарэчы, у Карэі няма агульнапрынятай школьнай формы. Кіраўніцтва школы само выбірае сваю. Нашы сэрцы мы аддалі самым маленькім хлопчыкам і дзяўчынкам, апранутым у жоўтыя касцюмчыкі, за што называлі іх птушанятамі. Дзеці надзвычай выхаваныя і з павагай ставяцца да старэйшых, да сваіх настаўнікаў, да бацькоў. Трэба сказаць, што карэйцы моцна шануюць **хедо сасан**, сыноўнюю пачцівасць. Відаць, канфуцыянскія прынцыпы выхавання пакінулі глыбокі след у свядомасці карэйцаў і сёння перадаюцца з пакалення ў пакаленне ці не на генным узроўні. Дзяцей можна ўбачыць усюды: на канцэрце, выставе, экскурсіі, у парку, у гарах, гістарычных мясцінах. Высвятляецца, што нават "нашы птушаняты" атрымліваюць ад настаўнікаў заданне: наведаць любую гістарычную мясціну і апісаць яе, выказваючы свае пачуцці і ўражанні. Цудоўны прыклад выхавання павагі і любові да гістарычнага мінулага сваёй краіны. Карэйцы ганарацца сваёй гісторыяй, адной са старажытнейшых у свеце, яны беражліва захоўваюць храмы і помнікі, ведаюць сваіх нацыянальных герояў.




Дзе б мы ні былі, усюды адчувалі прыязныя пагляды, добразычлівыя ўсмешкі. А дзеці пры сустрэчы махалі рукамі і нешта шчабяталі па-карэйску. Аднойчы на канцэрце на адкрытай пляцоўцы ў Андоне маленькі хлопчык пачаставаў нас рысавым праснаком і шчасліва ўсміхаўся, пазіраючы, як мы са смакам яго ўплятаем.

Ветлівасць і гасціннасць карэйцаў можна адчуць па-сапраўднаму тады, калі ты госць у іхнім доме. Дзякуючы аднаму з фундатараў фестывалю масак у Андоне мы мелі мажлівасць убачыць карэйскае жытло і пакаштаваць нацыянальную карэйскую ежу. Згадзіцеся, самы просты і прыемны шлях далучэння да культуры іншага народа ляжыць праз яго кухню. Зняўшы абутак, мы доўга ўладкоўваліся на спецыяльных падушках перад нізенькімі столікамі, застаўленымі рознымі стравамі.

Ніводзін карэйскі стол не абыходзіцца без тыповай нацыянальнай стравы — **кімчхі**. Гэта агульная назва марынаваных салаты, рэдзькі, агуркоў, морапрадуктаў і, канешне, чырвонага перцу. Яго карэйцы ўжываюць практычна кожны дзень і ў вялікай колькасці. Не бяруся апісваць колькасць гатункаў кімчхі, аднак магу зазначыць, што найбольшай папулярнасцю карыстаецца **набак кімчхі** з кітайскай качан-



# Што прапануе "Цацачная крама"?

Вельмі паказальна, што многія маладыя выканаўцы і кампазітары ў наш няпросты час знаходзяць магчымасць супрацоўнічаць з прафесійнымі беларускімі паэтамі — майстрамі паэтычнага слова. Не так даўно мы распавядалі пра вопыт супрацоўніцтва вядомага барда Алеся Камоцкага з народным паэтам Беларусі Рыгорам Барадуліным. Вынікам працы гэтага творчага альянса стала выданне цудоўнага альбома з духоўнай музыкай "Псальмы", які быў вельмі прыхільна сустрэты музычнай крытыкай і слухачамі.

Магчыма, гэты прыклад натхніў кампазітара, мультыінструменталіста і ўдзельніка гурта "Крыві" Зміцера-"Тодара" Вайцюшкевіча на супрацоўніцтва з паэтам Леанідам Дранько-Майсюком. Творы, якія нарадзіліся ў выніку іх сумеснай працы, ужо трансліраваліся па Беларускім радыё, выклікалі нямала станоўчых водгукаў і натхнілі стваральнікаў на далейшыя эксперыменты.

Пра тое, з чаго пачынаўся новы творчы тандэм, мы просім распавесці кампазітара Зміцера Вайцюшкевіча. Тым больш, што хутка ў продажы ўжо з'явіцца новы кампакт-дыск "Цацачная крама" з дванаццацю кампазіцыямі на гумарыстычныя вершы Леаніда Дранько-Майсюка. Ці не лепшая нагода, каб успомніць пра пачатак цікавага праекта?

— Усё адбылося досыць спантанна, — згадвае музыка. У свой час мы сустрэліся з Леанідам Дранько-Майсюком на тэлебачанні. А ўжо на момант гэтай сустрэчы была ідэя стварыць цыкл музычных баек, у якіх чалавечыя характары перадаваліся б праз вобразы жывёл, раслін ці, увогуле, з дапамогай нейкіх абстрактных вобразаў.

— Я запытаўся ў Леаніда наконт таго, ці ёсць у яго вершы, байкі, якія можна было б пакласці на музыку. А ён адказвае: "У мяне ёсць верш пра казла!" Паэт прачытаў яго мне, і ўсё на першым часе так і скончылася.

Потым ужо ці на фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, ці то на нейкім канцэрце мы зноў сустрэліся, і Леанід паведаміў, што мае яшчэ некалькі гумарыстычных вершаў-баек. З гэтага і пачалася непасрэдная праца над альбомам.

Калі мы размаўлялі над сутнасцю персанажаў, агульная канцэпцыя яшчэ не вымалёўвалася. Потым з'явіліся дзесяць асноўных жывёл і птушак і іх вобразы: "Галодны воўк", "Баязлівы барсук", "Разумная варона", "Злы сабака", "Незалежны зубр" і гэтак далей.

Калі я напісаў мелодыі да песень, з'явілася і адчуванне, што патрэбна альбомная канцэпцыя — вершы трэба было нейкім чынам "звязаць" у агульны твор. Гэта была ідэя Леаніда Дранько-Майсюка аб'яднаць усе песні ў альбом "Цацачная крама".

Я вельмі хацеў, каб хутчэй выйшаў дыск з гэтай музыкай, таму праца была выканана ў вельмі сціслыя тэрміны. У рамках гэтага праекта з'явілася канцэртная п'еса для радыё, ну а тое, што ўбачаць гледачы падчас спектакля, будзе розніцца ад радыйнага варыянта: музычныя вобразы звяроў і птушак застануцца, а вось тое, пра што будзе казаць ці пытацца ў слухачоў Цацачны Гандляр, мы вырашаем толькі цяпер. Але якое канчатковае сцэнічнае ўвасабленне павінна будзе прыняць нашае шоу, вырашыць прафесійны рэжысёр, які будзе яго ставіць. У мяне ёсць толькі пачатковыя ідэі: ці гэта будзе кабарэ, ці вадэвіль, ці мо батлейка?

**— Чым прывабілі вас вершы Л. Дранько-Майсюка?**

— Вельмі цяжка быць крытыкам. Але для мяне асабіста Леанід Дранько-Майсюк адкрыў чароўны свет паэзіі. Праўда, мне доўгі час даводзілася працаваць з фальклорнымі тэкстамі, і гэта была такая неабходная для працы са Словам база. Выпадкова (альбо невыпадкова) я сустрэў такога самабытнага, цудоўнага паэта, як Леанід Дранько-Майсюк, які простымі словамі можа выказваць вельмі глыбокія думкі. У паэзіі я з цяжкасцю прымаю нейкія складанасці ці незразумеласці і ў гэтым сэнсе быў звычайным, сярэднестатыстычным чалавекам, які толькі і займаецца тым, што тлумачыць ці яго прафесіі. І таму я вельмі ўдзячны Леаніду за тое, што ён адкрыў для мяне незвычайны свет цудоўнай паэзіі, свет мастацкага Слова.

Калі ж казаць пра канкрэтныя тэксты, з якімі мне давялося працаваць, то мушу адзначыць іх вобразнасць. Па шчырасці, было вельмі проста працаваць з такімі добрымі вершамі, бо іх вобразы — своеасаблівыя прыступкі ад аднаго твора да другога. І калі б іх не было, то ці адбыўся б такі альбом, такая "Цацачная крама".

**— Спадар Зміцер, якія кампазіцыйныя і стылістычныя асаблівасці пакладзены ў аснову музычнай канцэпцыі вашага новага твора?**

— Па-першае, хачу сказаць, што сябе я лічу ўсё ж кампазітарам пачынаючым. Але і мне вельмі хацелася праз музыку падкрэсліць ці трансфармаваць вобразы, якія закладзены ў вершах. Бо ў нас была задача — паказаць персанажы, сугучныя з сённяшнімі нашымі рэаліямі. Таму кожны вобраз, з пункту гледжання аранжыроўшчыка і меладыста, слухаецца па-рознаму, бо кожны адметны. Можа, для кагосьці са слухачоў гэта падасца эклектычным, але я стараўся максімальна наблізіцца да вобразаў ці падкрэсліць іронію, што прысутнічае ў творах Леаніда. Для гэтага мы выкарыстоўвалі і розныя музычныя стылі, і розныя інструменты — скрыпку, акардэон, трамбон, які вельмі мала выкарыстоўваецца ў беларускай музыцы...

**— Думаю, чытачам, будучым слухачам "Цацачнай крамы", будзе цікава даведацца пра тое, хто дапамагаў вам у рэалізацыі музычнай задумы і запісу дыска...**

— Так, я мушу назваць імёны выканаўцаў і падзякаваць ім за сумесную працу. А гэта скрыпач Алесь Пузыня, гітарыст Алег Івановіч. Свае фарбы ў гукавую палітру "Цацачнай крамы" ўнесла і вядомая спявачка Ядвіга Паплаўская, "Калыханку" ў яе выкананні я лічу беларускім супер-хітом. Таму адчуванне "Калыханкі" і вобразы, якія яна выклікае, я хацеў перанесці ў наш час, на гэтыя песні, кшталту "Галоднага ваўка" ці "Уступную песню Гаспадара"... Што атрымалася — меркаваць не мне, а слухачам. Я вельмі ўдзячны спадарыні Ядвізе за тое, што яна згадзілася папрацаваць са мной, паэксперыментаваць у студыі.

Запісвалі ўвесь матэрыял альбома на студыі ансамбля "Беларускія песняры". За гэта таксама хачу выказаць сваю шчырую ўдзячнасць. Дапамагала мне ў гэтай справе шмат людзей, у тым ліку і мая сям'я, і жонка, якая на вокладцы пазначана як адзін з удзельнікаў праекта пад імем Муза. І ў гэтым ёсць вялікая доля праўды: мы часта абмяркоўвалі вобразы "Цацачнай крамы", была нават задума, што жонка зробіць афармленне дыска. Яна ж па прафесіі мастак. Але многае з



запланаванага ажыццявіць мы не паспелі, бо ў нас нарадзіўся сын, якому, дарэчы, я і прысвяціў гэты дыск.

**— Праслухоўваючы альбом, не можаш пазбавіцца пачуцця, што маеш справу з "буйной" формай у беларускай папулярнай музыцы — своеасаблівай сюітай на вершы Леаніда Дранько-Майсюка...**

— Так, сапраўды, гэта блізка ад ісціны. Мне ж прыемна папрацаваць у буйной форме. І гэта не задавальненне сваіх уласных амбіцый, проста карысны вопыт, які дапамагае мне стаць на нейкую вышэйшую прыступку як кампазітару, як творцу.

Мне, дарэчы, заўсёды хацелася прадоўжыць тое, што не паспелі ў поўнай меры ажыццявіць "Песняры", у рэпертуары якіх было шмат буйных формаў — песенных цыклаў, рок-опер. Ды і Уладзіміра Георгіевіча Мулявіна я лічу выдатным чалавекам, дзеячам Беларускага Адраджэння. І хоць творчы ўзлёт "Песняроў" прыйшоўся на савецкія часы, музыкі шмат што трансфармавалі і рабілі гэта вельмі прафесійна. Я лічу сябе, у нейкім сэнсе, прадаўжальнікам іх меладычных тэм, мулявінска-песняроўскай філасофскай ідэі, якая ў той момант толькі нараджалася і дала творчыя падставы для нашай сённяшняй працы. І як чалавек традыцыі я гэта адчуваю, бо магу параўнаць адносіны да традыцыі ў еўрапейскіх краінах, дзе павага да яе — своеасаблівы культ.

**Гутарыў**
**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## Свята Максіма Багдановіча

**9 снежня 2001 года** спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Супрацоўнікі Літаратурнага музея М. Багдановіча віншуюць усіх з гэтым светлым днём!

Як і заўсёды, гасцінна чакаюць вас у гэты дзень у музеі, каб яшчэ раз правесці наведвальнікаў шляхамі Максіма, расказаць аб жыцці і творчасці слаўтага сына зямлі беларускай (г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 7а).

А 12-й гадзіне прыхільнікі творчасці паэта сустрэнуцца каля помніка Максіму Багдановічу (на Траецкай гары), каб аддаць даніну павагі таленту паэта і грамадзяніна, ускласці кветкі — зімныя зоркі, зоркі любові да Максіма, зоркі надзеі.

## Запрашаем!

У Беларускім дзяржаўным універсітэце ў актавай зале філфака 7 снежня а 16 гадзіне пройдзе вечарына прысвечаная 20-гадоваму юбілею навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры філфака БДУ.

Удзельнікі вечарыны — фалькларысты, гісторыкі, філолагі, навукоўцы, пісьменнікі, прадстаўнікі Мінадукацыі і Мінкультуры Рэспублікі Беларусь.

Ва ўрачыстым адкрыцці навукова-творчай вечарыны плануецца ўдзел І. Роўды, В. Рагойшы, Н. Гілевіча, Л. Мурынай, В. Ліцвінкі, А. Ліса, С. Законнікава, А. Лойкі, В. Іпатавай і інш.

Ва ўрачыстасцях будуць удзельнічаць песенна-фальклорныя калектывы "Грамніцы", "Беларускія музыкі", "Неруш", "Вячоркі", "Ліцвіны", "Тутэйшая шляхта", "Крэсіва", "Гасцінец", "Медуніца", "Прыпяць", "Асалода", "Матуліна песня", "Новае жыццё" і інш.

**Ларыса ІЎЛІЕВА**

•

**9 снежня ў 11.00** — Святая Імша "Голас Душы" ў інтэнцыі ахвяраў Трасцянецкай трагедыі. Вернікі нашай парафіі на чале з пробашчам —. ксяндзом Уладыславам Завальнюком узнясуць свае малітвы за ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, які служыў у нашым касцёле, а таксама на Кальварыі і быў закатаваны ў Трасцянецкім лагеры.

Пасля Святой Імшы — адкрыццё выставы: "Трасцянец — 60 год трагедыі" (распрацоўка праекта выставы выканана галоўным архітэктарам ГП інстытута "Мінскграда" Аляксеем Галяковым).

## Будзе помнік абаронцам правапарадку

Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства культуры, Мінскі гарвыканкам, грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз мастакоў " і грамадскае аб'яднанне "Беларускі саюз архітэктараў" аб'яўляюць адкрыты рэспубліканскі конкурс на лепшы эскізны праект помніка супрацоўнікам органаў унутраных спраў і ваеннаслужачым унутраных войск МУС Беларусі, якія загінулі пры выкананні службовага і воінскага абавязку.

Адной з задач конкурсу з'яўляецца выяўленне праектнай прапановы, якая раскрывала б сутнасць гераічных будняў беларускай міліцыі.

Для ўзвядзення помніка ў Мніску вызначана месца: вул. Камуністычная (тэрыторыя на набярэжнай ракі Свіслач у скверы паблізу будынка Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь).

Конкурс праводзіцца да 1 лютага 2002 года. У ім могуць удзельнічаць як спецыялісты, што маюць творчую кваліфікацыю (архітэктары, скульптары), так і творчыя калектывы.

На конкурс падаюцца наступныя матэрыялы:

1. Перспектыва, генплан, фасады помніка, на планшэтах, выкананых у чорна-белай графіцы (не больш за 4 штукі 100x100), макет у матэрыяле па выбары аўтара.
2. Мадэль скульптурнай кампазіцыі да 70 см (у гіпсе).
3. Тлумачальная запіска.

Тэрмін падачы конкурсных праектаў 1 лютага 2002 г. з 9.00 да 18.00 па адрасе: г. Мінск, вул. Валадарскага, 2а (Дзяржаўны экспертна-крыміналістычны цэнтр МУС).

Усе конкурсныя матэрыялы прадстаўляюцца пад дэвізам, пазначаным шасцізначнай лічбай (вышыня шрыфту 1 см), якая наносіцца ў правым верхнім кутку ўсіх планшэтаў, а таксама на двух дэвізных канвертах. У адным з іх павінна знаходзіцца тлумачальная запіска, а ў другім звесткі пра аўтараў. Калі праект выкананы групай аўтараў, у дэвізным канверце змяшчаецца пагадненне аб долевым удзеле кожнага аўтара, падпісанае ўсімі ўдзельнікамі.

За лепшыя праекты, з ліку прадстаўленых на конкурс, устаноўлены наступныя прэміі: адна першая — 1500000 рублёў; адна другая — 1000000 рублёў; адна трэцяя — 500000 рублёў.

Выплата прэмій пераможцам конкурсу ажыццяўляецца Міністэрствам культуры не пазней за трохмесячны тэрмін пасля прыняцця рашэння журы.

Аўтары праекта, прэміяваныя першай прэміяй, атрымліваюць права на выкананне заказу па стварэнні помніка.

Непрэміяваныя праекты вяртаюцца ўладальнікам у трохмесячны тэрмін. Незапатрабаваныя за гэты перыяд часу праектныя матэрыялы знішчаюцца (з папярэдняй фотафіксацыяй) са складаннем акта.

Зыходна — планіровачныя дадзеныя ўчастка мясцовасці для ўстаноўкі помніка і кансультацыі па пытаннях конкурсу прадастаўляе Галоўнае ўпраўленне кадраў МУС Рэспублікі Беларусь (Мазалеўскі А. Б., Буры А. В. Тэл. 229-74-98).


ЛіМ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК
**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
приёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фота-карэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
(г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2587
Нумар падпісаны ў друк 6.12.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 7168

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12